25 жніўня 2017 | № 31 (545)

# Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144







«Галадранцы з ядзернай дубінкай» стар. 21

4 ЧЫЙ ПАМЫЛКОВЫ ПОГЛЯД КРУЦЕЙШЫ?

Паміж безумоўнай верай у народ і верай у начальства няма прынцыповай розніцы

5 ШКОЛЬНЫ КВЭСТ, АЛЬБО ХАЧУ ВА УКРАІНУ



7–18 Літаратурная Беларусь

23 ЦІ МАГЧЫМА ЎРАТАВАЦЬ НАЙСТАРЭЙШЫ НЕКРОПАЛЬ?

Яшчэ напрыканцы 1980-х могілкі ўключылі ў спіс спадчыны мясцовага значэння, але ў агульнанацыянальны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў уключыць... забыліся

# Дзень чорнай стужкі

## Ці можна ставіць знак роўнасці паміж камунізмам і фашызмам?



Сяргей ПУЛЬША

Амаль незаўважна прайшло 23 жніўня — Агульнаеўрапейскі дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму. Дзень, у які быў падпісаны славуты пакт Молатава — Рыбентропа, шмат для каго застаецца спрэчным.

Для мяне асаблівай розніцы паміж дзвюма рэжымамі не назіраецца. Так, Нацысцкая Германія ідэалагічна сцвярджала «вяршэнства арыйскай расы» над іншымі народамі. Тое, што зараз мы называем распальваннем нацыянальнай варожасці. Але ці быў лепшы за Германію сталінскі рэжым?

Наўрад ці. Што было ў СССР? Гегемонія працоўнага класу? Масавыя «чысткі» па прыкмеце сацыяльнага паходжання і паводле маёмаснага становішча? Першымі пад удар рэпрэсіяў траплялі заможныя людзі — так званыя «кулакі» і іншыя. То бок, гэта было распальваннем варожасці па сацыяльнай прыкмеце.

І першае, і другое зараз забаронена беларускім заканадаўствам, ідзе ў адной звязцы, у адным артыкуле Крымінальнага кодэксу. Зараз, у наш век пануючай талерантнасці, шчыра сказаць, не бачна розніцы паміж варожасцю па нацыянальнай альбо сацыяльнай прыкмеце, па рэлігійнай ці якой іншай варожасці. І тое, і тое — аднолькава варожасць. Таму з гэтага пункту гледжання савецкі і нацысцкі рэжымы не адрозніваліся.

І там, і там панавала катэгарычнае неўспрыманне альтэрнатыўнай думкі. Калі ты не падзяляў «лінію партыі» (усё роўна, КПСС гэта альбо НСДАП), то шлях цябе чакаў адзін — у лагер. Найбольш таленавітыя дысідэнты траплялі ў савецкія «шарашкі» альбо ў нацысцкія лагеры кшталту «Доры» пад Пенемюндэ, дзе ствараліся ракеты «Фау». Менш запатрабаваным шлях быў адзін — звычайныя баракі і смерць.

Не трэба думаць, што нацысцкія і савецкія лагеры прынцыпова адрозніваліся. Гэта было нават, як бы зараз сказалі, «узаемапранікненне» дзвюх жудасных культураў. Нацысты спакойна выкарыстоўвалі тую «інфраструктуру» і тыя аб'екты, якія ім на савецкай тэрыторыі пакінуў НКУС. Тое ж самае адбывалася і падчас наступу савецкага войска ў Еўропе: «асобыя аддзелы» змяшчаліся ва ўжо пабудаваных нацыстамі лагерах. Не змянялася нічога, апроч кантынгенту.

А ці не ўсё роўна, у якім лагеры цябе заб'юць — у савецкім альбо ў нацысцкім?

Некаму ўсё ж шанцавала. Мы ведаем, што з Германіі збегла шмат інтэлігенцыі, але і з СССР не менш. Прычым, беглі на працягу ўсёй гісторыі «працоўнай дзяржавы рабочых і сялян». У каго была такая магчымасць, зразумела.

Не буду казаць пра аднапартыйную сістэму, фактычную забарону прафсаюзаў, на месца якіх прыходзіла «прыкормленая» і цэнтралізаваная арганізацыя, татальны кантроль за ўсімі сферамі жыцця грамадства. Зразумела ж, ніякай свабоды СМІ і свабоды думкі.

Абодва рэжымы былі скіраваныя на экспансіяністкі захоп суседніх тэрыторый. Па духу яны былі імперыямі, і без гэтага проста не маглі развівацца. Калі з Трэцім рэйхам усё зразумела, то тут мне могуць запярэчыць: ці вёў СССР захопніцкія войны?

Я думаю, што латышы, літоўцы і фіны на гэтае пытанне адкажуць станоўча. Тым больш, што канцэпцый «рэвалюцыйнага пажару», які павінен ахапіць увесь свет, па вялікім рахунку, ніхто не выракаўся.



> **Ці не ўсё роўна, у якім лагеры цябе заб'юць — у савецкім альбо ў нацысцкім?**

Дарэчы, звыклае сёння вызначэнне пра «экспарт дэмакратыі» — усяго толькі перапрацаваная савецкая канцэпцыя «экспарту рэвалюцыі». А з гэтым экспартам (у адрозненне ад іншага) у СССР заўсёды было ўсё добра.

У чым жа розніца паміж савецкім і нацысцкім рэжымамі? Толькі ў тым, што адзін, у Германіі, вынішчаў чужыя народы, а іншы, савецкі, займаўся вынішчэннем народаў сваіх — чачэнцы, паволжскія немцы, крымскія татары... Выбачайце, зараз такая розніца падаецца прынцыпова не істотнай.

На вялікі жаль, цяпер адбываецца тое ж, што адбывалася заўсёды. Гэта замоўчванне ці прыніжэнне ўзроўню сталінскіх рэпрэсіяў не толькі ў Беларусі, але і наогул. Прычым, пры гэтым часцяком падмяняюць паняцці, калі расповеды пра сталінскія (і ўвогуле савецкія, бо пачаліся яны яшчэ з ленінскіх цыдулак «сабраць кулакоў і расстраляць») рэпрэсіі спыняюцца пад выглядам «ачарнення гісторыі» і прыніжэння ролі савецкага народу ў Другой сусветнай вайне».

Тое, што два гэтыя рэжымы сышліся ў крывавай і жорсткай бойцы Другой сусветнай — хутчэй, заканамернасць, чым выпадак. Супрацьлегласці прыцягваюцца, а для фактычна тоесных рэжымаў — у жывых павінен быў застацца толькі адзін. І адзін застаўся, выйграўшы гэтую вайну.

Але ідэалогія СССР і нацыянал-сацыялізму, іх метады дзеяння і існавання не маюць ніякага дачынення да Другой сусветнай вайны. А таму памяць пра рэпрэсіі і жудаснае мінулае ніяк не можа прыніжаць увогуле чыёйсьці ролі ў той вайне.

І таму цалкам слушна, што еўрапейцы абвясцілі дзень падпісання пакту Молатава — Рыбентропа «днём чорнай стужкі» ды днём памяці ахвяраў абодвух рэжымаў. Бо па сутнасці нічым яны не адрозніваліся. Хіба што адзін з іх меў большыя людскія рэсурсы, таму і перамог за кошт аграмаднай колькасці загінулых у той вайне...

Працяг тэмы на стар. 2, 22 »

# Клопаты віцэ-прэм'ера

**Пасля чарговага выказвання віцэ-прэм'ера Васіля Жарко аб магчымым вяртанні да пяцібальнай сістэмы адзнак у школе, «Салідарнасць» вырашыла прыгадаць іншыя ініцыятывы чыноўніка на гэтай пасадзе.**



### Падтрымаў ідэю бясплатных вакзальных прыбіральняў

У маі віцэ-прэм'ер падтрымаў ідэю дэпутата парламента Андрэя Рыбака аб бясплатных прыбіральнях на вакзалах: «Я вас падтрымліваю. Гэта не дарагое пытанне. Не ўсе ведаюць, куды бегчы, дзе грошы плаціць. Такая паслуга павінна быць бясплатнай».

Рашэнне «пытання прыбіральняў» на такім высокім узроўні спарадзіла мноства насмешак у сацсетках.

### Абяцаў падняць заробкі

У першыя месяцы работы на новай пасадзе віцэ-прэм'ер запэўніў беларусаў у тым, што ў краіне «ёсць магчымасць выканаць прэзідэнцкае патрабаванне павелічэння сярэдняй зарплаты да 500 долараў».

Пры гэтым павялічваць зарплату ён прапанаваў за кошт «паляпшэння работы эканамічнага блока», павышэння прадукцыйнасці працы, аптымізацыі кіраўнічага апарату.

У жніўні, пасля сустрэчы з кіраўніком дзяржавы, Жарко агучыў новыя лічбы: гэтым разам педагогам і медыкам паабяцалі да канца года ў сярэднім па 800 рублёў.

Зрэшты, павысіць зарплаты работнікам аховы здароўя Жарко абяцаў, яшчэ калі быў кіраўніком Міністэрства аховы здароўя, але больш грошай у кашальках дактары так і не заўважылі.

### Заклапаціўся чэргамі ў паліклініках

«Пацыент не павінен хадзіць з кабінета ў кабінет, прастойваць у чэргах, губляцца ў прызначэннях і рэкамендацыях спецыялістаў. Максімум медыцынскай дапамогі павінен быць забяспечаны на працягу аднаго прыёму», — заявіў віцэ-прэм'ер Васіль Жарко на калегіі Міністэрства аховы здароўя ў студзені.

Што перашкодзіла вырашыць гэтую праблему падчас дзесяцігоддзя кіравання ведамствам, чыноўнік не распавёў.

### Забыўся, як вучыліся дзеці

Калі ў маі раптам узнікла ідэя пераносу заняткаў у школах на 9 гадзін раніцы, Жарко давялося тлумачыць журналістам мэтазгоднасць навацыі. Прывядзём фрагмент характэрнага дыялогу:

— Дзесяцігоддзямі быў рэжым з 8 раніцы, і ні Мінадукацыі, ні Міністэрства аховы здароўя, ні вы, калі былі міністрам, не ўздымалі гэта пытанне публічна. Тут адзін чалавек сказаў, і высветлілася, што 9 раніцы — лепшы час. Гэта не здаецца вам смешным? — спытала журналістка інфармагенцтва БелаПАН.

— Не, не падаецца. Я вам расказваю як педыятр, як доктар.

— А чаму вы раней не ўздымалі гэта пытанне?

— Чаму? Напэўна, таму, што мае дзеці ўжо дарослыя, я крышку забыўся, калі яны вучыліся.

Нагадаем, што Васіль Жарко быў прызначаны намеснікам прэм'ер-міністра 29 снежня 2016 года, замяніўшы на гэтай пасадзе Наталлю Качанаву. Да гэтага чыноўнік дзесяць гадоў узначальваў Міністэрства аховы здароўя.

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Права на высвятленне ісціны

**Напярэдадні Агульнаеўрапейскага дня памяці ахвяр сталінізму і нацызму ў Мінску прайшоў форум «Бальшавіцкі тэрор. Права на высвятленне ісціны».**

У форуме прынялі ўдзел навукоўцы, даследчыкі, лідары палітычных партый і рухаў, нашчадкі рэпрэсаваных, грамадскія актывісты. Сярод якіх быў і кандыдат гістарычных навук, даследчык тэмы рэпрэсій Ігар Кузняцоў. Ён перакананы, што самыя жорсткія злачынствы XX стагоддзя ўчынілі два таталітарныя рэжымы: савецкі і нацысцкі:

«Нацызм і камунізм з'яўляюцца братамі-блізнятамі, яны не маглі існаваць адзін без аднаго. Нездарма Сталін дапамагаў Трэцяму рэйху аднаўляць узброеныя сілы. І Гудэрыян, і іншыя нацысты навучаліся ў СССР. Сталін фактычна рыхтаваў Другую сусветную вайну. Хоць Германія і першай напала, Савецкі Саюз стварыў спрыяльныя ўмовы, каб яна гэта зрабіла. Абедзве таталітарныя дзяржавы вінаватыя ў развязванні Другой сусветнай вайны, абедзве дзяржавы ўчынілі злачынствы, якія не падлягаюць тэрміну даўнасці — ваенныя злачынствы супраць чалавецтва.

Дзень падпісання пакту Молатава—Рыбентропа — гэта дзень, калі два таталітарныя рэжымы сталі плячо ў плячо. Тады яны знялі свае публічныя маскі — і антыфашысцкую, і антыкамуністычную, — паказалі ўсяму свету, што яны адзіныя ў сваёй мэце — нянавісці да асноўнага нетаталітарнага свету.

Ігар Кузняцоў выказаў думку, што на сённяшні дзень установа дзяржавы такая: пагадзіцца, што ў Беларусі ёсць адно месца масавых расстрэлаў — Курапаты.

«Але насамрэч на тэрыторыі Беларусі выяўлена каля 120 месцаў пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій (толькі ў Мінску такіх месцаў 11).

Усяго ў Беларусі было рэпрэсавана 1 мільён 400 тысяч — 1 мільён 600 тысяч беларусаў. І лічба будзе расці, таму што афіцыйная ўлада лічыць рэпрэсіямі расстрэлы, пазбаўленне волі, выпраўленчыя працоўныя лагеры і высылку ў адміністрацыйным парадку, якая зарэгістравана дакументальна (хоць дакументальна зафіксавана не больш за 20% тых, хто рэальна быў высланы).

Яшчэ адзін з найважнейшых урокаў, які мы павінны засвоіць з таго часу: з рэпрэсіямі трэба змагацца да таго, як яны набываюць масавы характар. І сучасныя падзеі ў Беларусі пацвярджаюць гэта».

Але для гэтага трэба як мінімум ведаць праўду. Гэта немагчыма, пакуль зачыненыя архівы КДБ. Менавіта адчыніць архівы было асноўным патрабаваннем рэзалюцыі форуму «Бальшавіцкі тэрор. Права на высвятленне ісціны».

«У нас ёсць Канстытуцыя, артыкул 34 гарантуе права на атрыманне інфармацыі. Ёсць Закон аб архіўнай справе і справаводстве. Артыкул 29: «Доступ да архіўных дакументаў абмяжоўваецца, калі ёсць падстава лічыць, што гэта пацягне за сабой выдаванне дзяржаўных сакрэтаў, камерцыйнай і іншай тайны, парушае правы і інтарэсы грамадзян. Абмежаванне доступу да архіўных дакументаў, у якіх змяшчаюцца звесткі, што адносяцца да асабістай таямніцы, вызначаецца на тэрмін 75 гадоў», — патлумачыў яшчэ адзін прамоўца форуму, даследчык-архівіст Зміцер Дрозд. — Гэта значыць, няма ніякіх падстаў, каб абмежаваць доступ да несакрэтных дакументаў. Сёлета мы будзем адзначаць ужо 80-годдзе «вялікага тэрору». На падставе гэтага і пабудаваная наша рэзалюцыя: адкрыць доступ да архіваў».

Гісторык, даследчыца тэмы сталінскіх рэпрэсій Тацццяна Процька ў 1990–1991 гадах працавала ў трох архівах КДБ Беларусі — Цэнтральным, Гомельскім і Гродзенскім, а таксама ў архіве ФСБ Расіі. Але паглядзець яшчэ раз нават тыя дакументы, з якімі ёй дазволілі азнаёміцца на пачатку 1990-х гадоў, больш не атрымалася, хоць яна не адзін раз яшчэ спрабавала трапіць у архівы КДБ:

«У 2013 годзе я атрымала адмову, якая мяне вельмі здзівіла: я ж казала, што не проста хачу папрацаваць, а пераправерыць інфармацыю, звесткі, якія бачыла раней. Я назвала канкрэтныя фонды, вопісы, а мне адказалі, што гэтых спраў у архіве няма! Я захоўваю гэты адказ з подпісам намесніка старшыні КДБ Сяргіенкі».

75-гадовы Уладзімір Раманоўскі нарадзіўся ў ГУЛАГу ў Магаданскай вобласці. Яго маці Валянціна Добрава, настаўніца рускай мовы і літаратуры, пасля даносу калегі была асуджаная ў 1938 годзе на 7 гадоў лагераў і пяць гадоў пазбаўлення правоў. Спадар Уладзімір мае відэазапіс двухгадзіннага інтэрв'ю са сваёй маці, дзе напрыканцы яна кажа, што не шкадуе аб сваім зняволенні: «Я наогул і не шкадую пра гэтыя гады (гэта як самаапраўданне яе як асобы) — там было так шмат цудоўных людзей: прафесараў, артыстаў, пісьменнікаў, і я шмат ад іх даведалася і пераняла».

«Чалавек стварае сваю будучыню сваім мінулым. І вось гэта скрадзеная савецкай уладай магчымасць — другая галоўная подласць улады, акрамя непасрэднага знішчэння людзей, неабгрунтаваных рэпрэсій. І сам факт утойвання праўды пра гэтыя падзеі сведчыць, што фактычна цяперашняя ўлада з'яўляецца саўдзельніцай злачынстваў», — упэўнены Уладзімір Раманоўскі.

На думку Тацццяны Процька, дзяржаўная сістэма Беларусі, якая з'яўляецца пераемніцай савецкай сістэмы, не можа існаваць без рэпрэсій: «Гэтая сістэма мае апраўданне, абгрунтаванне і пераносіцца ў сучасныя рэаліі. І ў сённяшняй рэчаіснасці АМАП ахоўвае парадак, міліцыя ахоўвае парадак, спецслужбы ахоўваюць парадак. Вось гэтая парадыгма, укаранёная ў свядомасць савецкіх людзей, пераносіцца і ў свядомасць сучасных беларусаў. І гэта вельмі небяспечна. З гэтым трэба змагацца, асабліва тым людзям, якія маюць доступ да моладзевай аўдыторыі».

Усе ўдзельнікі форуму падпісалі рэзалюцыю з патрабаваннем адчыніць архівы КДБ.

**Паводле svaboda.org**

# Чаму ў Беларусі няма беларускамоўнага глобуса

Мікола САВІЦКІ

**Апошнія гады шукаў для ўнучак у крамах глобус на дзяржаўнай беларускай мове.**

Але на тэрыторыі Беларусі гэты беларускамоўны інтэлектуальны вучэбны дапаможнік масавага прымянення ў сістэме навучання і выхавання і ў хатнім інтэр'еры знайсці не ўдалося. У сталічных універмагах яго таксама няма. І, як сведчыць афіцыйны адказ дырэктара ГУМа на мой запіс у кнігу прапаноў, у Беларусі глобус ніколі не вырабляўся, дый сёння таксама не выпускаецца.

Лічу мэтазгодным даць інфармацыю пра наяўнасць беларускамоўнага глобуса ў знакамітым Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі, заснаваным Алесем Белакозам.

Нагадаю чытачам і дзяржаўным асобам, якія маюць прамое функцыянальна-дзяржаўнае і прафесійнае дачыненне, што першым геаграфічным глобусам лічыцца глобус, выраблены М. Бехаймам у 1492 годзе. Няўжо праз пяць стагоддзяў у незалежнай Рэспубліцы Беларусь — з яе тысячагадовай дзяржаўнасцю! — не з'явіцца сучаснік, імя якога ў гісторыі краіны зойме месца побач з М. Бехаймам?

Сорам перад светам ці сорам на ўвесь свет! Мне асабіста сорамна перад маімі ўнучкамі, перад усімі дзецьмі Беларусі, сорамна за тое, што не магу нічога зрабіць, каб у беларусаў быў глобус на роднай беларускай мове. Але хочацца верыць, што знойдзецца (можа нават за межамі Беларусі) прагрэсіўны адказны чалавек, які ўкладзе свой капітал і частку свайго сэрца для аб'ектыўна запатрабаванай справы захавання беларусаў як нацыі.

Жыццёва простае пытанне да міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь, чыноўніцкай вертыкальнай ідэалогіі, БРСМ: няўжо вы не разумееце, што глобус на роднай мове, на этнічнай мове, на беларускай мове — такая ж неабходная рэч для дзіцяці, як і буквар на беларускай мове, як і калыханка на беларускай мове? Першыя парасткі патрыятызму дзіця ўсмоктвае праз буквар і глобус. Афіцыёз досыць часта прамаўляе: «Не трэба палітыкі!» Але ж створаная існуючай уладай сітуацыя па гэтых праблемах з'яўляецца антыбеларускай палітыкай.

Паспрабуйце ўявіць, што ў Расіі не вырабляюцца рускамоўныя глобусы, у Францыі — франкамоўныя? Так, згодзен — такога абсурду не можа быць! На такое пытанне рускія, якія жывуць у Беларусі, мне адказвалі прыкладна так: «О чем вы говорите, чушь какую-то прете». Дык чаму ж гэта нялюдскасць мае права на жыццё ў нашай незалежнай дзяржаве?

Пішу з верай і надзеяй на прафесійную і дзяржаўную адказнасць тых асоб, якія маюць дачыненне, на першы погляд, да незаўважанай, а на самай справе — асноватворнай, важнай дзяржаўнай і агульнанацыянальнай праблемы.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Мільён «Чаму?»

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«Эканамічная» нарада на гэтым тыдні ў Аляксандра Рыгоравіча нагадала мне старую дзіцячую гульню ў «адгадайку». Кіраўнік Беларусі задаваў пытанні, а «эканамічны блок ураду» спрабаваў знайсці на іх такія адказы, якія б спадабаліся правадыру.**



Фота www.geradormemes.com

Напрыклад, Лукашэнка пацікавіўся, чаму інфляцыя ў нас у нармальных паказчыках, долар стаіць, а кошты на пэўныя тавары «шарохаюцца». Чаму не выконваецца загад «усім па пяцьсот»? Чаму мы шмат гадоў фінансуем ільнаводства, а вынікаў з гэтага — нуль? Чаму мы прыкладна столькі ж ствараем малочна-таварныя фермы, а вынікі — як з ільнаводствам? Чаму ніяк не зніжаецца кошт жылля? І гэтак далей.

Сярод гэтых «чаму» былі і даволі парадаксальныя. «Яшчэ ў мінулым годзе мы дамаўляліся, што на кожнае скарочанае працоўнае месца павінна быць створана новае высокапрадукцыйнае. Але ў нас па-ранейшаму прадпрыемствы працягваюць больш звальняць, чым прымаць на працу. У чым справа?» — пацікавіўся кіраўнік дзяржавы.

«Куды сыходзяць людзі? На паперы новыя працоўныя месцы быццам бы і ствараюцца, а на справе суцэльнае ашуканства. Калі гэта не так, хацелася б пачуць адказ на гэтае пытанне», — цытуе Лукашэнку яго прэс-служба.

Ад занятасці ён перайшоў да заробатнай платы. «Як мы выходзім на запланаваны ўзровень па галінах і рэгіёнах? Ці не пагаршаецца расслаенне грамадства па даходах? Як урад адрэагаваў на маё даручэнне звярнуць асаблівую ўвагу на катэгорыі работнікаў, якія атрымліваюць зарплату па ніжняй мяжы?» — спытаў Лукашэнка. Асобна кіраўнік дзяржавы папрасіў распавесці, які ўзровень зарплаты ў сельскай гаспадарцы, адукацыі, ахове здароўя і культуры.

Што маглі на гэта адказаць «эканамічныя» чыноўнікі? Не скажаш жа праўду: «Сістэма такая». Новыя высокапрадукцыйныя месцы павінен ствараць інвестар, які прывязе ў краіну новыя тэхналогіі. А яны сюды не едуць, таму што няма ўпэўненасці — таго самага «інвестыцыйнага клімату». Яны выдатна бачаць, што было з «Мотавела»: Лукашэнка даў прадпрыемства Аляксандру Мураўёву — Лукашэнка ж яго і забраў, ды яшчэ і Мураўёва пасадзіў. Прыкладна тое ж зараз паўтарылася з Віктарам Пракапенем, які намагаўся набыць «Парытэтбанк». Лукашэнка даў дазвол на яго продаж — а потым сам жа дазвол адклікаў.

Такі вось інвестыцыйны клімат і такая стабільнасць.

Таму чыноўнікі адказалі ў звыклай манеры: «Вось-вось усё будзе». Кабякоў анансаваў павышэнне стаўкі першага разраду, а тое, што ў людзей няма працы, — дык гэта мясцовая вертыкаль сабатуе рашэнні кіраўніка дзяржавы.

А калі гэта «усё будзе» — незразумела. Не так даўно мы падобнае ўжо чулі, прынамсі, наконт працаўладкавання. «Усіх працаўладкаваць» было загадана да 1 мая. Тады міністр працы Ірына Касцевіч рапартавала: даручэнне ў тэрмін выканалі. «Мы дайшлі да кожнага чалавека. Хто хацеў, хто мог — той знайшоў працоўнае месца», — адзначала яна.

А зараз беларускі правадыр зноў цікавіцца: адкуль у краіне новыя беспрацоўныя?

Ужо звыклая навіна прыйшла з Расіі. Мы ў чарговы раз узялі там крэдыт на 700 мільёнаў долараў, які нават не пабачым, не тое што не памацаем. Гэта крэдыт у расійскіх рублях, які прызначаны для пагашэння і абслугоўвання дзярждоўгу Беларусі перад Расіяй, то бок ранейшых крэдытаў. Улік запазычанасці пры гэтым будуць весці ў доларах.

Крэдыт выдаецца на дзесяць гадоў, гасіць яго Мінск будзе двума траншамі — 15 красавіка і 15 кастрычніка кожнага года, пачынаючы з 2018-га. Асноўны доўг Беларусь будзе гасіць па графіку плацяжоў, прыведзеным у дадатку: з 2,5% ад сумы ў 2018–2022 гадах (17,5 мільёна долараў кожны плацеж) да 9,5% у красавіку і кастрычніку 2027 года (66,5 мільёна долараў плацеж).

На думку эканаміста Яраслава Раманчука, «гэты крэдыт — для таго, каб беларускі ўрад не думаў пра рэформы». «Тады Расія зможа выйграць час: праз год-два, калі даўгі будуць велізарнымі, можна будзе за 20–30% сённяшняй цаны набыць нашы паспяховыя прадпрыемствы. Гэта гульня Крамля, які будзе кожны год выкарыстоўваць негатоўнасць беларускага ўрада да рэформаў для таго, каб найбуйнейшыя прадпрыемствы проста пераафарміць праз даўгі», — сказаў ён «Еўрарадыё».

Эканаміст параўноўвае такі крэдыт з «дозай для наркамана», каб той проста «не хадзіў да лекара». Такі крэдыт можа часова ўратаваць кар'еры топ-чыноўнікаў, але пазней тыя ўсё адно будуць адказваць, дадае Раманчук.

Пры ўсёй павазе да Раманчука, якога ўхваляе нават Лукашэнка, ён наўрад ці мае рацыю. Таму што нашы прадпрыемствы ўжо можна пераафармляць праз даўгі. Толькі за чэрвень афіцыйная статыстыка зафіксавала скачок запазычанасці рэальнага сектара па крэдытах і пазыках. За адзін месяц доўг вырас на 2,1 мільярда рублёў, то бок больш за мільярд долараў.

На такую суму, як у чэрвені 2017-га, даўгі прадпрыемстваў не раслі ні разу са студзеня 2016-га.

Усё таму, што чэрвень стаў першым месяцам 2017 года, у якім беларускі рубель аслабеў да долара. Калі на 1 чэрвеня курс Нацбанк склаў 1,8642 рубля за 1 долар, то на 1 ліпеня — 1,9396 рубля за 1 долар.

Звыш паловы банкаўскіх крэдытаў намінавана ў замежных валютах. Па дадзеных Нацбанка, на 1 ліпеня ўдзельная вага рублёвых крэдытаў у агульнай суме запазычанасці была роўная 45,3%. Таму цалкам лагічна, што разам са скачкамі курсу вырас і назапашаны абавязак. Паміж 1 чэрвеня і 1 ліпеня запазычанасць па крэдытах і пазыках узрасла на 3,5%.

Прычым, паглядзім, хто «скокнуў». Першыя месцы росту доўгу занялі дрэваапрацоўка і цэлюлозна-папяровая галіна (368 мільёнаў BYN), нафтаперапрацоўка (185 мільёнаў BYN), хімічная прамысловасць (163 мільёны BYN), машынабудаванне (134 мільёны BYN). То бок, самыя «абласканыя» дзяржавай галіны вытворчасці.

Што падказвае: ад дзяржаўнай ласкі трэба трымацца як мага далей.

Па версіі Белстата, за чэрвень увесь рэальны сектар зарабіў мікраскапічны прыбытак — 15,9 мільёна рублёў. Дарэчы, гэта яшчэ раз паказвае, наколькі асцярожным павінен быць Нацбанк у курсавой палітыцы. Адзін няёмкі рух — і ледзь не ўвесь бухгалтарскі прыбытак закрэдытаваных прадпрыемстваў вылятае ў трубу.

Таму на большасць высокаўладных «чаму» адказаць не атрымаецца. Прынамсі, да таго часу, пакуль сістэма гаспадарання будзе сённяшняй.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Павел Севярынец

**Рэгіянальны інфармацыйны сайт Смаленшчыны Readovka.ru змясціў разгромны артыкул пра сустаршыню Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.**

У тэксце палітык называецца стваральнікам арганізацыі «Малады фронт», ідэалагічна блізкай да забароненага ў Расіі ўкраінскага «Правага сектару».

Прычынай незадаволенасці стала анансаваная на 23 жніўня паездка пад Смаленск, на месца масавых расстрэлаў у Катыні. Як піша партал, дата візіту выбрана невыпадкова: 23 жніўня Еўропа адзначае як Дзень барацьбы са сталінізмам і нацызмам. А значыць, запланаваная паездка — чарговая антырасійская акцыя, што ставіць знак роўнасці паміж СССР і нацысцкай Германіяй.

«Севярынец — асоба ў Беларусі вядомая. З'яўляючыся непрымірымым апазіцыянерам, менавіта ён быў арганізатарам вулічных акцый пратэсту ў Мінску ў 1997–2004 гадах, у 2014-м актыўна падтрымліваў украінскі Майдан... Галоўнай ідэалогіяй руху стаў ваяўнічы нацыяналізм, які часцяком пераходзіць у адкрыты нацызм. Апошні трэнд — стварэнне партызанскіх атрадаў самаабароны ад «будучай расійскай акупацыі». Лідары руху наўпрост называюць Расію галоўным ворагам Беларусі... Актывісты «Маладога фронту», якія ўваходзяць у ваенізаванае крыло «Ваяр», удзельнічаюць ва ўзброеным канфлікце на Данбасе на баку Украіны», — дэманструе дасведчанасць аўтар артыкулу.

Але справа ў тым, што на сваёй старонцы ў Фэйсбуку Севярынец толькі перадрукаваў абвестку пра паездку ў Катынь, якую ладзіць Рух салідарнасці «Разам». А сам Павел нават не збіраўся туды ехаць.



## Андрэй Дзмітрыеў

**Адзін з лідараў «Гавары праўду» сфармаваў камісію для назірання за вучэннямі «Захад–2017» і спадзяецца на плённае супрацоўніцтва з Міністэрствам абароны.**

Яшчэ 26 ліпеня Дзмітрыеў прапанаваў Мінабароны стварыць грамадскую камісію для назірання за беларуска-расійскімі вучэннямі «Захад–2017». З афіцыйнага акаўнту міністэрства адказалі: «Арганізоўвайце і звяртайцеся ў прэс-службу МА РБ».

Ніхто ж не думаў, што 21 жніўня Дзмітрыеў падасць у Мінабароны спіс такой камісіі з сямі чалавек. У яе ўвайшлі вайсковы эксперт Аляксандр Алесін, афіцэр і былы карэспандэнт газеты Мінабароны «Во славу Родины» Сяргей Вазьняк; кіраўнік аналітычнага праекту Belarus Security Blog Андрэй Паротнікаў, аўтар шэрагу кніг пра памежную службу Леанід Спаткай ды іншыя.

Па тэлефоне дзяжурны ўпраўлення ідэалогіі Мінабароны спрабаваў адгаварыць Дзмітрыева: маўляў, і так будзе дастаткова назіральнікаў і СМІ, грамадскае назіранне не прадугледжанае ніякім законам.

«Калі ўжо так шмат назіральнікаў, няма ніякіх праблемаў далучыць да іх гэтую камісію», — сказаў Дзмітрыеў «Радыё Свабода».



## Вікторыя Азаранка

**У знанай беларускай зоркі тэнісу праз сямейныя праблемы ніяк не атрымліваецца паўнавартасна вярнуцца на корт.**

Гэтым разам Азаранка афіцыйна знялася з адкрытага чэмпіянату ЗША, які стартуе 28 жніўня.

«На жаль, я не змагу ў гэтым годзе выступіць на US Open з-за сямейных абставін, якія цяпер вырашаю», — паведаміла Азаранка. Паводле яе слоў, гэта «адзін з самых любімых турніраў», на якім яна ў свой час «перажыла адны з лепшых момантаў сваёй кар'еры». Таму Вікторыі вельмі шкада прапусціць яго.

Як вядома, Азаранку чакае судовы працэс у Каліфорніі за апеку над сваім 8-месячным сынам Леа Аляксандрам. Яна развіталася з яго бацькам у ліпені, неўзабаве пасля гэтага ён падаў у суд заяву «аб выкраданні дзіцяці». Суд забараніў беларусцы пакідаць штат разам з сынам, таму перад ёй паўстаў выбар: пакінуць сына ў Каліфорніі і паўдзельнічаць у тэнісным турніры ў Нью-Ёрку, ці прапусціць яго і застацца з дзіцёнкам.

**а | Азбука паліталогіі**



Сяргей НІКАЛЮК

# Чый памылковы погляд круцейшы?

## Паміж безумоўнай верай у народ і верай у начальства няма прынцыповай розніцы




Для чарговага экскурсу ў свет азбукавых паліталагічных ісцін нам спатрэбіцца лацінскае слова «амбівалентнасць». Яно азначае дваістасць адносін да чаго-небудзь, асабліва — дваістасць перажыванняў, калі адзін і той жа аб'ект выклікае ў чалавека адначасова два супрацьлеглыя пачуцці.

За прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Любімы персанаж маіх «Азбук паліталогіі» рэгулярна дэманструе дваістае стаўленне да знешніх і ўнутраных выклікаў, на якія так багата сучаснае жыццё.

З аднаго боку, ён актыўна дэкларуе цікавасць да праектаў, накіраваных на развіццё «нашага грамадства і эканомікі». Своеасаблівым Эверэстам тут з'яўляецца задача па ператварэнні Беларусі ў IT-краіну. Але, з іншага боку, мы рэгулярна становімся сведкамі сярэднявечных метадаў кіравання эканомікай.

Амбівалентны характар двух крайнасцяў выяўляецца не толькі ў здольнасці існаваць адначасова ў розных часах і ў паралельных прасторах, але і ў пастаяннай гатоўнасці гэтых крайнасцяў пераходзіць адна ў адну або ўтвараць мудрагелістыя камбінацыі.

### Ленін і АП

Ісціна пазнаецца ў параўнанні. Гэта народная мудрасць дапаможа мне прааналізаваць «іншы бок» адзінага палітыка (АП), а ў якасці ўзору для параўнання прапаную ўзяць правадыра сусветнага пралетарыяту.

Ленін да 1918 года падзяляў «асноўную памылку інтэлігенцыі», г.зн. веру ў здольнасць народа наладзіць жыццё пры ўмове вызвалення яго ад прыгнёту начальства і эксплуататараў. Адсюль стаўленне да саветаў і працоўнага кантролю як да клетачак новага грамадства, як да інстытутаў для рэалізацыі «жывой творчасці мас».

АП у такога кшталту слабасці заўважаны не быў. Сваю дзейнасць на пасадзе кіраўніка дзяржавы ён пачаў з будаўніцтва ўладнай «вертыкалі». Як і належыць чалавеку з народа, ён падзяляе «асноўную памылку масавай свядомасці» — веру ў магчымасць начальства рэгуляваць усе значныя грамадскія працэсы.

Дзве памылкі знаходзяцца адна да адной у суадносінах амбівалентнасці — такім чынам, яны лёгка могуць мяняцца месцамі. Таму няма нічога дзіўнага, што, сутыкнуўшыся на практыцы з «жывой творчасцю мас», Ленін быў вымушаны ўзбагаціць марксізм наступным прызнаннем: «Няма рашуча ніякай прынцыповай супярэчнасці паміж савецкім дэмакратызмам і прымяненнем дыктатарскай улады некаторых асоб».

У такую крайнасць спецыяліст па будаўніцтву ўладнай «вертыкалі» яшчэ не патрапіў, але пра неабходнасць «дамагчыся рэальнага паляпшэння ўмоў для бізнесу ў Беларусі і разнявалення дзелавой ініцыятывы грамадзян» разважае ўсё часцей і ўсё больш пераканаўча. Да 1 кастрычніка грамадству (г.зн. усім нам) абяцана выдаць пакет дакументаў, якія гарантуюць канчатковае рашэнне праблемы разнявалення. Што ж, пажывём — пабачым.

Але пакуль дзелавая ініцыятыва грамадзян замерла ў чаканні стартавага стрэлу, дзяржава працягвае дэманстраваць свае нічым не абмежаваныя правы на гаспадарчую дзейнасць. Найбольш яскравы прыклад лета–2017 — рэспубліканская селектарная нарада па пытаннях уборкі ўраджаю.

### Дзяржава-вотчына

Памятаеце, нарада пачалася з раздачы. Не, не сланоў, а паўнамоцтваў. «Асобна хачу падкрэсліць: рашэнні старшыні райвыканкама да 1 кастрычніка 2017 года, звязаныя з уборачнай кампаніяй, канчатковыя і абскарджанню не падлягаюць. Калі старшыні райвыканкама трэба ажыццявіць тыя ці іншыя дзеянні, значыць, ён іх будзе ажыццяўляць», — заявіў АП, калі адкрываў нараду.

Вось так. Ніхто не мае права ўмешвацца ў распарадча-арганізацыйныя функцыі старшыняў райвыканкамаў. Акрамя губернатара, зразумела. «Вертыкаль», аднак! «Вертыкаль» занятая святой справай — уборкай хлеба!

Тут самы час зноў звярнуцца да «Азбукі паліталогіі» і адшукаць у ёй слова «вотчына». Згодна з Вікіпедыяй, яно азначае комплекс, што складаецца з зямельнай уласнасці і правоў на халопаў. У вотчынных дзяржавах, тлумачыць амерыканскі гісторык Рычард Пайпс, палітычная ўлада — працяг права ўласнасці, і ўладар з'яўляецца адначасова суверэнам дзяржавы і яе ўласнікам.

Суверэн (калі хто забыўся) — асоба, якой без усялякіх абмежавальных умоў і на працягу нявызначанага тэрміну цалкам належыць вярхоўная ўлада ў дзяржаве. Нягледзячы на тое, што дэ-юрэ суверэнам Рэспублікі Беларусь абвешчаны народ (Канстытуцыя, артыкул 3), дэ-факта ім з'яўляецца АП. У поўнай адпаведнасці з фактычным становішчам спраў, 2 жніўня 2017-га ён і раздаваў нічым не абмежаваныя паўнамоцтвы старшыням выканкамаў.

Вотчынную прыроду беларускай дзяржаўнасці пацвярджае і Дэкрэт аб дармаедах, канчатковы варыянт якога павінен быць гатовы да кастрычніка. Адна са звышзадач дэкрэта — прымусіць працаваць тых, «хто павінен працаваць, але не працуе». У гэтай сувязі хацелася б нагадаць фрагмент артыкула 41 Асноўнага закону: «Прымусовая праца забараняецца, акрамя работы або службы, якія вызначаюцца прыгаворам суда або ў адпаведнасці з законам аб надзвычайным і ваенным становішчы».

Вотчына — тут я паўтаруся — гэта комплекс, які складаецца з зямельнай уласнасці і правоў на халопаў.

### Харчовая бяспека

Улічваючы бэкграўнд АП, тэма селектарнай нарады была абраная не выпадкова. Яго веды і практычны вопыт у пытаннях арганізацыі ўборачных кампаній як мінімум на парадак вышэй, чым у большасці топ-вертыкальшчыкаў. Не магу адмовіць сабе ў задавальненні, каб не прывесці наступную цытату: «Гэта — якасць кармоў, здароўе жывёл. Таму траншэі, якія непрыдатныя, трэба іх дастаць з зямлі і перарабіць, паставіць у патрэбным месцы. Там, дзе трэба (замест кургановў вашых і капцоў), пабудаваць новыя траншэі. <...> У адваротным выпадку не трэба нарыхтоўваць травяністыя кармы там, дзе вы складаеце іх у капцы. Гэта — гніллё, яд для жывёлагадоўлі».

Не абышлося і без даручэнняў праваахоўным органам. Збіраць ураджай без жорсткага кантролю — сабе даражэй. Нездарма ж яшчэ ў савецкія часы ўборка прыраўноўвалася да бітвы. І бітва ідзе не дзеля дадатковых цэнтнераў збожжа, як гэта можа падацца людзям наіўным, чый кругагляд абмежаваны навінавымі тэлепраграмамі. На коне — харчовая бяспека, а там, дзе гаворка заходзіць пра бяспеку (энергетычную, інфармацыйную і г.д.), — тырчаць вушы ўладальніка вотчыны.

### Вінаватыя будуць пакараныя

Важная асаблівасць вотчыннай эканомікі — адсутнасць самастойнасці гаспадарчых суб'ектаў. У гэтым, пры жаданні, можна ўбачыць плюс, бо адсутнасць самастойнасці здымае адказнасць за эфектыўнасць.

Таму за забеспячэнне тэхнікай, палівам, угнаеннямі ў канчатковым выніку адказвае «вертыкаль». Прычым, чым бліжэй сітуацыя да катастрофы, тым больш шанцаў на атрыманне дапамогі. У прыватнасці, за вырашэнне грашовых пытанняў пры забеспячэнні сельскагаспадарчых работ **«галоўнай адказвае Каллаур** (кіраўнік Нацбанка), **в пристежку — Кобяков** (кіраўнік урада)».

Уборачная кампанія яшчэ толькі распачалася, а АП ужо запланаваў завяршальны акорд у выглядзе даручэння праваахоўным органам і КДК выявіць і пакараць вінаватых за яе зрыў: «Калі мы гэта не зробім, гэта будуць проста размовы, і на месцах махнуць рукамі — пагаварылі і забыліся. Я не забуду. Усе вінаватыя павінны быць прыцягнутыя да адказнасці».

Слабасць вотчыннай дзяржавы палягае ў тым, што бюракратыя манапалізуе права на прыняцце рашэнняў, і гэтым ператварае сябе ў адзінага суб'екта эканомікі. Галоўны вынік такой манапалізацыі — усё больш паток дэзарганізацыі. З ёй спрабуюць змагацца пры дапамозе кантралёраў, колькасць якіх пастаянна расце, аднак бязладнасці, безадказнасці, элементарнага разгільдзяйства і прыкрых недапрацовак менш ад гэтага не робіцца. Хутчэй наадварот.

«Сацыялізм — гэта ўлік і кантроль», — вучыў Ленін. Савецкі варыянт сацыялізму па факце апынуўся вотчынай эпохі індустрыялізацыі. У 1991 годзе ён завяршыў свой жыццёвы цыкл, каб зноў адрадзіцца ў асобна ўзятай былой савецкай рэспубліцы.



**Вотчынную прыроду беларускай дзяржаўнасці пацвярджае і Дэкрэт аб дармаедах, канчатковы варыянт якога павінен быць гатовы да кастрычніка. Адна са звышзадач дэкрэта — прымусіць працаваць тых, «хто павінен працаваць, але не працуе»**



**Неаднаразова даводзілася чуць: «А што вы хочаце? Ва Украіне заробкі не такія, як у Беларусі, таму і кошты адпаведныя: не разгонішся пры 200 доларах у месяц...» Але давайце казаць шчыра: нашы 400 рублёў, якія ў якасці заробку зараз атрымлівае палова беларусаў — гэта тыя ж 200 долараў. Дык чаму ў нас кошты ўдвая вышэй?**

# Школьны квэст, альбо Хачу ва Украіну

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**«Вы хочаце, каб было так, як ва Украіне?» — часцяком запытваюцца апантаныя бяспекай грамадзяне. Зараз, збіраючы дзіця ў школу, я магу сказаць: так, я хачу, каб было, як ва Украіне.**

Кожны год ва ўсіх сем'ях, якія маюць дзяцей школьнага ўзросту, — праблема: як сабраць дзіця ў школу з найбольшай эфектыўнасцю і найменшымі выдаткамі. Сёлета так склалася, што была магчымасць праехацца на шопінг ва Украіну. Канкрэтна — у Чарнігаў.

Адразу зазначу, што большасць з набытага мы прыдбалі на рынку «Ніва». Ён лічыцца найбольш разнастайным у плане выбару, але і не самым танным. І гандлююць там у асноўным не кітайскім шырспажывам, а больш якаснымі таварамі з Турцыі, Польшчы ды, зразумела (і для беларусаў нязвыкла), Украіны і Беларусі. Менавіта якасць і абумовіла выбар гэтага месца для «затаркі».

А потым раптам стала цікава: а колькі каштуе тое ж самае, ці прыкладна такое ж, у беларускіх крамах?

## Апрануць — абуць

З увядзеннем у нашай краіне школьнай формы з адпаведнай тканіны і адпаведнага ўзору пакуль давялося забыцца на тое, каб набываць гэтыя рэчы ў Чарнігаве. Бо хто яго ведае, які стандарт нам прыдумаюць заўтра. Таму форму мы будзем набываць ці шыць самі або ў атэлье ледзьве не ў апошні момант. А вось белыя блузкі для школы — абавязковыя.

Белая блузка — не зусім паўсядзённая адзежа для школьніцы, таму мы шукалі нешта прыгажэйшае. У выніку знайшлі напаўпразрыстую, з гіпюрам, не для штодзённых выхадаў, а для «параднага» карыстання за 280 грыўняў. То бок, каля 11 долараў, ці 21 рубель за нашы грошы. Гэтая блузка, нават на тым жа рынку, лічыцца вельмі дарагой. Простую белую кашульку (але з доўгім рукавом, як і належыць у школе) можна набыць і ад 100 грыўняў — то бок за 4 долары.

Але нават «дарагая» і прыгожая ўкраінская блузка не ідзе ні ў якое параўнанне па кошце са звычайнымі вырабамі «Калінкі», якія пачынаюцца ад 32 рублёў. Нават самая дарагая блузка — гэта трацiна эканоміі на нашы грошы!

Дзіцячы спартовы касцюм. Вельмі прыгожы, жоўценькі, са стразікамі, і вельмі якасны — 650 грыўняў (26 долараў). У нашых крамах і на школьных базарах нейкіх аналагаў яму я проста не знайшла. Чамусьці ў беларускіх прадаўцоў зараз мода на шэрасць альбо на тое, калі спартовая майстарка не супадае па колеры з нібыта касцюмнымі легінсамі. Можа, яны такім чынам «кампілююць» тое, што не прадалося асобна? Ці я не там глядзела?

Але нават «прыкладна такое ж» (але не такое) шэрае каштуе не менш за 80 рублёў (больш за 40 долараў!).

Дзіцячыя пантофлікі на зменку нам абышліся ў 200 грыўняў — прыгожыя і з блёсткамі. Гэта каля 8 долараў. Нешта падобнае знайшла ў «Мегатопе», але без блёстак, на зніжках — 39.95 беларускіх рублёў, то бок 20 «баксаў». Пра спартовы абутак увогуле не кажу — ён нам абышоўся ў 90 грыўняў. То бок, менш чым чатыры долары. Беларускі аналаг у тым жа «Мегатопе» каштуе ад 25 рублёў.

Прычым, абутак на рынку, у асноўным — украінскай вытворчасці. І па якасці ён (кажу шчыра, не рэклама), «незабіваемы». Зазвычай на дзецях пантофлі, і асабліва спартовы абутак, проста «гараць». Аналагічны абутак мы бралі ў мінулым годзе — і яны «дзейсныя» дасюль. Не адклейваецца падэшва, не рвецца тканіна, нават цэтлік-сцяжок не адваліўся! І нельга сказаць, што нашая малая іх асабліва беражэ — дзе толькі яна ў іх не гойсала! І ў школе, і ў двары, і ў бабулі на гародзе. Так што якасць украінскага абутку, у адрозненне ад падобнага беларускага, — вышэй за ўсялякія кампліменты.

Адзінае, чым быў шакаваны мужчына, — коштамі на дзіцячыя калготы, якія мы набывалі. Але гэта ўжо я «пастаралася». Але, лічу, недарма.

Як ні дзіўна, рынак у Чарнігаве завалены нашымі «Контэ». Але «Контэ» мы можам набыць і тут. Таму абіралі больш якасныя польскія і турэцкія, на кожны дзень і «на выхад». За пяць пар аддалі немалую суму — 720 грыўняў. Без малога 30 долараў.

Зразумела, тыя ж «Контэ» ў нас у сярэднім па пяць рублёў, і гэтыя пяць пар нават тут нам абышліся б у два разы танней. Але гэта той выпадак, калі за якасць трэба (і варта) пераплочваць. Бо, падаецца, нішто не затоптваецца так хутка і псуецца так часта, як дзіцячыя калготы. І, адпаведна, чым лепшая якасць, тым даўжэй яны пражывуць.

## Не школьнае

Чаму сябра быў так шакаваны коштам калгот? Таму што перад гэтым роўна такую ж суму — 720 грыўняў — мы выклалі за дзіцячую куртку на восень. Добрая, са здымнымі рукавамі і капюшонам (лёгкім рухам рукі куртка ператвараецца ў жакет-безрукаўку, можна з капюшонам, можна і без). Таму ягонае аслупяненне можна зразумець.

Але ён змірыўся з гэтым, калі пабачыў кошты на дзіцячыя курткі ў Беларусі. Кошты на падобныя курткі на восень, але без фішак-трансформераў, у нас пачынаюцца ад 125 рублёў. Даражэй больш чым удвая. Таму і давялося змірыцца — пераплаціілі за калготы, затое значна зэканомілі на куртцы. Гэта ён зараз зразумеў.

Дзіцячы заплечнік... У прынцыпе, маглі яго і не набываць — у малой ён ёсць. Яго набывалі яшчэ да першага класа, але ў першым класе чамусьці дзецям заплечнікі забаранілі. Фактычна, гэтая прылада «адбегала» толькі палову года. Але малая ўпёрлася: дай ёй заплечнік — і ўсё.

Дамовіліся проста. Улетку дзіцё разам з бабуляй збірала маліны і здавала іх людзям, якія возяць гэтыя ягады ў Маскву. Адпаведна, дзіцё такім чынам зарабіла каля 15 долараў, і мы сказалі: «Хочаш заплечнік? Набываеш сама». Каштаваў ён 240 грыўняў — менш за 10 долараў.

У Беларусі падобныя заплечнікі, з двума аддзяленнямі і жорсткай спінкай — ад 100 рублёў. Ёсць розніца паміж 10 і 50 доларамі?

## Капейчына да капейчыны...

Адкуль увогуле бяруцца такія кошты ў Сінявокай, зразумець цяжка. Дробязі, здавалася б, але звычайна менавіта дробязі ўлятаюць у значную суму. У Чарнігаве мы набылі 20 сшыткаў у дробную клетку па 1 грыўні і 20 капеек за штуку. 24 грыўні, то бок менш за долар, альбо 1 рубель 93 капейкі. Абсалютна такія ж сшыткі былі заўважаныя мною ў мінскай краме па 25 беларускіх капеек за штуку. То бок, за 20 штук — 5 рублёў.

Вучнёўскі пенал — 120 грыўняў. Але ён таго варты: жорсткі, пластыкавы, на два аддзяленні з убудаванымі тачылкамі і аддзяленнем для гумкі. Для пяці долараў нармальна, таму што звычайныя зараз сінтэтычныя «пеналы-касметычкі» ў краме на распродажы — за шэсць рублёў, тры з паловай долары.

У Чарнігаве такія ж «пеналы-касметычкі» каштуюць 18 грыўняў 96 капеек. Што на нашы грошы, калі пераводзіць праз долары — прыкладна 1 рубель 50 капеек. Розніца — больш чым у чатыры разы.

Альбом для малявання 40 старонак — 22 грыўні, менш за долар. Аналагічная прадукцыя ў Беларусі — 2 рублі 40 капеек на зніжках, то бок больш долар і прыкладна 20 цэнтаў.

Сумка для зменкі — тры долары, 76 грыўняў. У нас — больш за 6 рублёў на зніжках, што хоць і не вельмі, але таксама даражэй.

## Упісацца ў прагноз

Такім чынам, поўнасцю апрануць дзіцё ў школу нам каштавала прыкладна 110 долараў. Па сённяшнім курсе — 212 рублёў. З заплечнікам, які дзіця набыло за свае грошы, і дробязямі кшталту сшыткаў, альбому для малявання, пеналам, хай будзе 140 долараў, ці рублёў 270.

«Арыенціровачныя выдаткі бацькоў школьнікаў на камплект, які ўключае адзенне і абутак для школы і заняткаў спортам, канцылярскія тавары, ранец або сумку, для хлопчыка малодшага школьнага ўзросту складуць ад 162 да 304 рублёў, для дзяўчынкі — ад 158 да 327 рублёў. Для вучняў старэйшых класаў — ад 222 да 447 рублёў для хлопчыка і ад 188 да 504 рублёў для дзяўчынкі», — пісала тыдзень таму БелТА са спасылкай на вядучага таваразнаўцу аддзела нехарчовых тавараў упраўлення гандлю Белкаапсаюза Марыю Рабушку. Што ж, у гэтую суму мы ўклаліся.

Але, падобна на тое, што спецыялісты Белкаапсаюза таксама затарваюцца ў Чарнігаве. Таму што беларускія кошты, як мы бачым, у сярэднім удвая вышэй за ўкраінскія. Калі збіраць дзіцё ў школу ў Беларусі, то адзін толькі нармальны спартовы касцюм разам з курткай для дзіцяці адразу ж пераскочыць мінімальны бар'ер у 158 рублёў для дзяўчынкі. Можа, куртка для школьніцы і не ўваходзіць у пералік «школьных тавараў», але не трэба забывацца: 1 верасня — гэта ўжо восень...

Неаднаразова даводзілася чуць: «А што вы хочаце? Ва Украіне заробкі не такія, як у Беларусі, таму і кошты адпаведныя: не разгонішся пры 200 доларах у месяц...» Але давайце казаць шчыра: нашы 400 рублёў, якія ў якасці заробку зараз атрымлівае палова беларусаў — гэта тыя ж 200 долараў. Дык чаму ў нас кошты ўдвая вышэй?

Адказ просты: імпарт. Калі ва Украіне ёсць прыстойны абутак і адзенне ўласнай вытворчасці, і ім, што дзіва, гандлююць прадпрымальнікі на рынках, у нас і блізка такога не назіраецца. У нас амаль усё — прывазное-завознае. А чаму так, чаму беларускія тавары, калі яны ёсць, саступаюць па цане і якасці замежным таварам — гэта ўжо пытанне да тых, хто два дзесяцігоддзі «запускаў заводы». Дый так і не здолеў прымусіць іх нармальна працаваць.

І таму зараз, калі я чую пра тое, што дзіцё ў школу можна сабраць за 150–300 рублёў, я кажу: сапраўды, можна. Але калі закупляцца не ў Беларусі.

# «Магутны Божа», «Маладая Беларусь» і «Паланэз» Агінскага

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Якім мог быць гімн незалежнай Беларусі? Варыянтаў было мноства, але ў выніку мы фактычна засталіся са старым савецкім гімнам, толькі з новымі словамі.**

Пасля зацвярджэння герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга ў якасці дзяржаўных сімвалаў лагічна паўстала пытанне пра новы дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. У сувязі з гэтым Міністэрства культуры абвясціла адпаведны конкурс.

Ён павінен быў прайсці ў два этапы: з 15 кастрычніка да 1 снежня 1991 года і з 1 снежня 1991 года да 1 студзеня 1992 года. Удзельнікі мусілі прадставіць тэкст гімна (у трох экземплярах), а таксама музыку (у выглядзе клавіра для хору з суправаджэннем). Канкурсантамі маглі быць паэт і кампазітар як разам, так і паасобку. Пры гэтым музыканты маглі карыстацца як тэкстамі сучасных аўтараў, так і «литературным наследием прошлых лет». Не існавала абмежаванняў па мовах, можна было дасылаць тэксты гімнаў і па-руску. У спецыяльным Палажэнні аб конкурсе абяцалася, што на адабраныя музычныя творы будзе зроблены дзяржзаказ з мэтай стварэння аркестравай партытуры для сімфанічнага і духавога аркестраў.

Тэкст і музыку павінна было ацэньваць спецыяльнае журы пад кіраўніцтвам старшыні камісіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча. У журы ўвайшлі 22 чалавекі, найбольш вядомыя з якіх — Рыгор Барадулін, Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава, Адам Мальдзіс, Дзмітрый Смольскі.

## Першы крок — самы цяжкі

Абвяшчэнне конкурсу выклікала ажыятаж сярод грамадскасці: паступіла звыш 300 варыянтаў (у асноўным тэксты, значна радзей — ноты) новага гімна. Да 1 студзеня 1992 года журы абрала 50 лепшых. У далейшым планавалася ўзяць ад трох да пяці варыянтаў і зрабіць усенароднае праслухоўванне па радыё.

Разам з аматарскімі варыянтамі журы вырашыла прадставіць на праслухоўванне варыянты гімнаў, створаныя на верш «Пагоня» класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, а таксама на творы «Магутны Божа» і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» («Ваяцкі марш») Наталлі Арсенневай і Макара Краўцова.

Тэксты падаваліся толькі пад дэвізам без указання імя і прозвішча аўтараў. Дэвізы мелі як традыцыйныя («Міласць»,




**Абвяшчэнне конкурсу выклікала ажыятаж сярод грамадскасці: у камісію паступіла звыш 300 варыянтаў гімна**

«Хараство», «Гусляр», «Надзея»), так і даволі экзатычныя («Дзеці Еўропы»: «Мы дзеці Рагнеды, унукі Ўсяслава...»; «Адгадай»: «Цякуць гаманлівыя рэкі, азёры блішчаць сінявой...», «Эдэм»: «Колькі вякоў над бязмежнаю ніваю вочы ўзнімала, гукала зару...») назвы.

Вось так, напрыклад, выглядаў пачатак і прыпеў варыянта пад дэвізам «Гусляр».

*Герб наш «Пагоня» — герб Беларусі*
*Ты не пакінуў наш край у бядзе,*
*Крокам імклівым да перамогі*
*Светлы твой вобраз наперад вядзе.*
*Прыпеў:*
*Слаўся азёрная і сінявокая*
*У цэнтры Еўропы краіна мая*
*У дружбе надзейная і непаўторная*
*Ты мая гордасць, ты маці мая.*

15 ліпеня 1992 года ў прэсе былі апублікаваны шэсць варыянтаў тэксту гімна. Тры з іх былі класічныя: «Магутны Божа» (музыка Мікалая Равенскага, словы Наталлі Арсенневай), «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» (музыка Уладзіміра Тэраўскага, словы Макара Краўцова) і «Пагоня» (музыка Мікалая Шчаглова-Куліковіча, словы Максіма Багдановіча). Астатнія тры падаваліся пад дэвізамі: «О, фартуна!», «Трэці варыянт» і «А хто там ідзе?».

20 ліпеня 1992 года па радыё транслявалі шэсць варыянтаў гімна (у харавым фармаце) і яшчэ адзін — чыста музычны твор — пад дэвізам «Белая вежа». Тэксты гімнаў выклікалі бурную рэакцыю чытачоў і слухачоў, якія накіроўвалі свае лісты ў журы. Як і чакалася, адносіны былі розныя.

Калі браць традыцыйныя варыянты, то, напрыклад, адзін з грамадзян абрынуўся на Наталлю Арсенневу, абвінавачваючы яе ў сувязях з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Аўтар наракаў «на низкий моральный облик жюри» і пажадаў застацца ананімам, бо нібыта, «подписаться мне опасно, ибо власть у поклонников таланта Арсеньевой, а это сулит веселую перспективу для тех, кто напоминает о ее военном прошлом». Але ж аўтар усё ж падпісаўся як «не желающий петь с голоса Арсеньевой».

Людміле Паляковай спадабаўся «Ваяцкі марш»: «Он наиболее решителен и динамичен, не плаксив, как некоторые». На другое месца спадарыня Палякова паставіла «Пагоню»: «Остальные варианты вообще неприемлемы, так как это обращение к Богу, а мы светское государство».

За твор «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» ў лісце прагаласавала цэлая сям'я Байкачовых. Наталля Арсеннева і Макар Краўцоў таксама спадабаліся братам Загідуліным: «ученику 8-га класса» Аляксею і «дошкольнику» Багдану.

На думку чытача Эрнста Сарычава, тэкст гімна не павінен праваказаваць няшчырасць, сцвярджаць спрэчныя гістарычныя ці палітычныя версіі, выкарыстоўваць ненарматыўныя спосабы словаўтварэння, сінтаксісу, несці прароцтвы і заклікі. Сарычаў у сваім лісце ў журы быў упэўнены, што «А хто там ідзе?» — прароцтва, а «Пагоня» малюе карціны і асабістыя пачуцці ад першай асобы.

У падтрымку «Пагоні» і «Ваяцкага маршу» ў адмысловым лісце ад 22 ліпеня 1992 года выступіла вядомая сёння грамадская актывістка Ніна Багінская. За «Пагоню» выказаўся і ананімны аўтар, «старый солдат, участник прошлой войны»: «Когда исполняют "Погоню", у меня мурашки ползут по коже».

Адно са складаных пытанняў тычыцца статыстыкі падтрымкі таго ці іншага варыянта гімна. На жаль, нейкіх лічбавых аглядаў ці сацыялагічных звестак не захавалася. Адзінае, на што можна абапірацца, — на колькасць лістоў чытачоў, што маюцца ў Нацыянальным архіве.

З класічных варыянтаў найбольш папулярнымі сталі «Магутны Божа» і «Ваяцкі марш». У іх падтрымку выказаліся 68 і 63 чытачы адпаведна. «Пагоня», у сваю чаргу, атрымала толькі 20 лістоў падтрымкі.

Сярод чытачоў і слухачоў безумоўным фаварытам стаў гімн пад дэвізам «О, фартуна!» (музыка Васіля Раінчыка, словы Леаніда Прочака). У яго падтрымку паступіла 210 лістоў. У выглядзе песні гімн выконваўся пачынаючай музычнай зоркай Лікай Ялінскай.

*Жыві, Беларусь!*
*Веру — будзеш жыць заўсёды.*
*Святло «Пагоні» будзе нашы сэрцы акрыляць.*
*Жыве, жыве —*
*Наш край пакутны і свабодны*
*Нескароная нікім і святая зямля.*
*Беларусь! Беларусь!*
*Хай цябе мінуць усе нягоды.*
*Век у шчасці жыві,*
*Ты, радзіма мая.*

На другім месцы апынуўся варыянт гімна пад дэвізам «Трэці варыянт» (музыка Ігара Лучанка, словы Аляксандра Лягчылава) — 79 лістоў.

*Мы не згубіліся ў свеце,*
*Мы збераглі наш дом —*
*Нам пераможна свеціць*
*Грунвальд сваім шчытом.*

*Радзіма Беларусь,*
*Ты сцяг свой узняла*
*Сатканы з белых руж*
*І чырвані-святла.*

На апошнім месцы слухачы і чытачы пакінулі варыянт гімна пад дэвізам «А хто там ідзе?» (на жаль, аўтарства ў архіўных крыніцах не пазначана). У яго падтрымку прыйшло ўсяго 7 лістоў.

*Не пакіне Бог нашу Беларусь —*
*Яна ў вяках адшукае свой шлях.*
*Люд свой збірай*
*Пад Айчыны вольны дах.*
*Вышэй уздымай*
*Бел-чырвона-белы сцяг!*

Што да «Белай вежы», то за яе выказаліся 20 слухачоў. Як і ў выпадку з папярэднім варыянтам гімна, аўтарства «Белай вежы» адсутнічае ў дакументах.

24 снежня 1992 года журы разглядала 18 варыянтаў гімна, аднак ні адзін з іх так і не стаў візітнай карткай Беларусі. У асноўным спрэчкі вяліся вакол тэкстаў Наталлі Арсенневай, Максіма Багдановіча і Макара Краўцова.

1 студзеня 1993 года з нагоды стагоддзя нараджэння Канстанцыі Буйло газета «Звязда» паставіла пытанне аб тым, ці мог бы стаць гімнам верш паэткі «Люблю свой край».

Працяг будзе



Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (132)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



Змест



# Пад сонцам найвышэйшай пробы

## (Стагоддзе Народнага пісьменніка Беларусі Янкі Брыля)



Даўно не пакідае мяне пытанне, можа быць, нават загадка трывалай звязанасці Янкі Брыля і Міхася Стральцова. У адным з тэкстаў Валянціна Акудовіча ёсць прыпамінак пра тое, як Стральцоў намаўляў маладога крытыка напісаць эсэ пра Янку Брыля. «Чаму менавіта пра яго? Хіба якое свята ці юбілей?». «Янка Брыль — гэта заўсёды свята», — быў адказ.

Тут жа і ўспамін Анатоля Кудраўца, як разбіраўся пасля смерці загадчыка аддзела крытыкі часопіса «Нёман» Міхася Стральцова працоўны пісьмовы стол, і ў шуфлядзе знайшлося некалькі выразак, лістоў, рукапіс вершаў і — вялікі фотаздымак Івана Антонавіча, беражліва схаваны ў кардонную тэчку.

Шмат што сыходзіцца ў гэтай звязанасці двух сёлетніх юбіляраў, якія абодва — заўсёднае нашае свята. Любоў да слова, а не да тысячы знакаў. Прыманне быцця, хоць і ў глухой, зацятай з ім спрэчцы. Але, мабыць, найперш — штохвілiннае чаканне той успышкі, дзеля якой усё «стала быць». Бо як успышка, эпіфанія, нараджае тэкст, так яна мусіць і нарадзіць чытача, «паяднаць пачатак і канец».

Досвед Янкі Брыля, набрыняы талстоўскай традыцыяй, сведчыць, што здзяйсненне стылістычнай рэвалюцыі магчымае і ў самы неспрыяльны час. Рэч не ў абстрактным «лірызме прозы», а менавіта — у сінтаксісе і рытме, на якіх у літаратуры трымаецца многае:

«Прыгожая была гэта шэрая, вельмі жыццёвая, натуральная прастата, гэтая яшчэ ўсё не растрачаная сіла, якую і не высушылі, і не прыгушылі дзевяць дзесяткаў больш катаржных, чым радасных, гадоў. Прыгожы быў позірк светла-блакітных вачэй пад густымі, сівымі брывамі, вачэй адкрытых і чыстых, як само бясхмарнае неба, паўторанае ў крынічным люстры бяскрайняга возера. Прыгожы быў, урэшце, увесь гэты звычайны, будзённы малюнак: вялікая чорная лодка на вадзяной пустыні, у лодцы — шэры дзед і светленькая ўнучка, а за кармой, на буксіры, — доўгае сасновае бервяно і яшчэ даўжэйшы трохкутнік растрывожанай вады».



Шасцідзясятнікі «філалагічнага пакалення», якія, паводле Міхася Стральцова, зачытваліся «Надпісам на зрубе», дзякуючы Янку Брылю вельмі добра сталі разумець змену пісьменніцкай задачы. Бо цяпер важна было не нашрайбаць вытворчы раман ці франтавую эпапею, а — добра, ужываючы найлепшую еўрапейскую оптыку, выпісаць адзін, другі канкрэтны абзац, скласці з іх трывожна-радаснае, цэльнае апавяданне. Так, як гэта робіць Янка Брыль, кідаючы свой позірк, напрыклад, і на зборышча вясковых катоў, якія чакаюць на беразе прышвартоўкі рыбацкай брыгады:

«Каты — залежна ад узросту — то нецярпліва пахаджалі, задраўшы хвасты, церліся каля гаспадарскіх ног і па-блазенску дакучліва вякалі, то стрымана, салідна аблізваліся, жмурачы лянівыя вочы.

Толькі адзін, найбольш бывалы і вопытны тыграў сваяк, вядомы на ўсю вёску валацуга і злодзей Цярэшка сядзеў воддаль, на зялёным прыгорку, цікуючы і на ваду, і на сушу з аднолькавым скепсісам на вусатым мурле».

> **Цяпер важна было не нашрайбаць вытворчы раман ці франтавую эпапею, а — добра, ужываючы найлепшую еўрапейскую оптыку, выпісаць адзін, другі канкрэтны абзац, скласці з іх трывожна-радаснае, цэльнае апавяданне. Так, як гэта робіць Янка Брыль**

Падобная дэталізацыя, дзякуючы моцнай оптыцы, не магла не прыводзіць да ўскладнення сінтаксісу, але яна і падштурхоўвала аўтара да разумення самакаштоўнасці эпізода, аднаго назірання, у якім знойдзеш і свой сюжэт, архітэктоніку, з амаль невычэрпнай крыніцай аздобаў, і магчымасць ствараць наўзамен дынамічнай, вельмі часта паспешлівай прозы — вітраж разасобленых эцюдаў, па-майстэрску складзеных у адно кампазіцыйнае цэлае: кнігу.

І гэта можа стаць кнігай пра нястрачаны час і пра зафіксаванага на ягоным тле асобнага чалавека. Які выслухаў сотні чужых біяграфій і зрабіў іх часткай сваёй. Які захаваў на крышталіках сотні краявідаў, запомніў водар ручая, акіяну, лесу і горнай вяршыні.

Такой кнігай мне бачыцца «Жменя сонечных промняў» — маленечкі прамакутнік шэсцьдзясят пятага года ў каларытным афармленні Барыса Заборава. Гэта шасцічасткавая ўверцюра, распачатая матывамі чалавечай унікальнасці, рознасці і роўнасці перад сыходам, праведзеная праз апаведы пра кніжнасць і пачутыя трапныя выслоўі, праз медытацыі над з'явамі прыроды і карнавальныя арабескі жартаў — да запісаў пра дзяцей, у чыіх вачах бясконца адлюстроўваецца будучыня.

У прадмове Янка Брыль піша, што збіраў сваю кнігу дваццаць пяць гадоў, яшчэ з даваеннага, заходнебеларускага часу.

Гэты непрыдуманы свет меў такую «памяць жанру», што засланяліся суцэльна ўсе магчымыя роды і віды літаратуры.

З галасоў, укладзеных у кнігу «Я з вогненнай вёскі...» і ў вітражы мініяцюр, вырас і наш паліфанічны беларускі Нобель — з такой жа ўвагай да дэталі, адчуваннем сюжэтнасці і вусцішнасці быцця. Сімвалічна, што менавіта Янка Брыль напісаў прадмову да першай кнігі Святланы Алексіевіч на беларускай мове.

Магчыма, толькі калі збярэцца ў адно ўсё напісанае Янкам Брылём, нарэшце прыйдзе ўсведамленне, якога маштабу пісьменніка мы маем. Пакуль жа аматары-бібліяфілы знаходзяць ціхую радасць у адшукванні невялікіх брылёўскіх зборнічкаў, у кожным з якіх абавязкова знойдзеш красу і спажытак для душы.

«Нельга пісаць інтэлектам, трэба быць унутры пісьма, пражыць жыццё над друкаркай, разумееце?» — пытаўся адночы Рэй Брэдберы ў журналіста.

Я думаю, Іван Антонавіч Брыль зразумеў бы, пра якое пісьмо і якую друкарку ідзе гаворка.

Бо і сам пражыў такое жыццё — пад сонцам найвышэйшай пробы.

**Ціхан Чарнякевіч**



# Біблія — найлепшы бэстсэлер усіх часоў

**У Мінску ўрачыста адзначылі 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.**

Ля будынка Чырвонага касцёла адбыліся навукова-асветніцкія чытанні. З прамовамі аб дзейнасці пачынальніка кнігадрукавання выступілі духоўныя асобы, даследчыкі, пісьменнікі, грамадскія дзеячы.

Святкаванне распачаў мітрапаліт Мінскі і Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч:

— Францыск Скарына прэзентаваў сваю першую кнігу 6 жніўня 1517 года, на свята Перамянення Пана. Біблія — гэта вечна жывое і дзейснае слова, дадзенае нам з мэтай нашага духоўнага перамянення.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падкрэсліў, што Біблія і сёння з'яўляецца сусветным бэстсэлерам і заклікаў, каб яна стала настольнай кнігай беларусаў.

— У многіх яна ёсць у дамах, але запылілася. Прыйшоў час «адпыласосіць» Біблію, гарачым імкненнем пазнаць яе. Няхай юбілей 500-годдзя кнігадрукавання і духоўна-асветніцкае свята ў гонар Францыска Скарыны стануць новым імпульсам вывучэння Бібліі, каб на яе падмурку наша краіна перамянялася і будавала шчаслівую будучыню! — адзначыў іерарх каталіцкага касцёла.

Ігар Міхайлаў, старшыня Біблійнага Таварыства, згадаў не толькі пра адукаванасць, энцыклапедычныя веды Францыска Скарыны, але і духоўную мэту, якая ім кіравала: пакінуць назаўсёды народу вечную і невычэрпную мудрасць.

Старшыня беларускага клуба «Сябрына» ў Літве Валянцін Стэх распавёў пра святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў Вільні.

Доктар філалагічных навук Іван Саверчанка падкрэсліў тры асноўныя моманты значнасці скарынаўскай дзейнасці. Па-першае, выданнем Бібліі першадрукар заклікаў шанаваць Бога-Стваральніка ўсяго існага свету і вывучаць законы, пакладзеныя ў аснову ўсяго створанага. Па-другое, ён заклікаў цаніць і развіваць асобу чалавека як вяршыню ўсяго стварэння. Па-трэцяе, ён надаў увагу развіццю талентаў асобы, каб «дасканалы быў чалавек Божы».

Паэт Алесь Разанаў, аўтар кнігі «Маем найбольшае самі», які паэтычна ў сучаснай мове пераствaрыў тэксты прадмоваў Францыска Скарыны, падкрэсліў, што асветнік выкладаў людзям навуку Хрыстову і вучыў цаніць Боскі пачатак у чалавеку.

Пра даследаванні скарынаўскай спадчыны распавёў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі па навуковай працы і выдавецкай дзейнасці Алесь Суша.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў зрабіў экскурс у гістарычную эпоху, у якую жыў першадрукар.

Як адзначылі навукоўцы, праз друкаванае слова беларусы здолелі не толькі далучыцца да інтэлектуальнай традыцыі свету, але і заявіць пра сябе. Францыск Скарына зрабіў крок да таго значэння, якое беларусы маюць у культурным сусветным развіцці.

У дольнай залі Чырвонага касцёла пачала працу выстава твораў беларускіх мастакоў на скарынаўскую тэму. Тут прадстаўлены працы Міколы Купавы, Алеся Марачкіна, Віктара Крука, Алы Губарэвіч і іншых. У мінскім Палацы мастацтваў 5 жніўня была разгорнута выстава маладзёвай і дзіцячай творчасці «Францыск Скарына — наш лёс, наша мінулае, наша будучыня».

**Эла Дзвінская, фота аўтара**

# Сапраўды напісанае застаецца...

## (Стагоддзе Народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі)

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

**З нагоды свайго пяцідзесяцігоддзя Пімен Панчанка надрукаваў у жніўні 1967 года характэрны для яго медытацыйнай лірыкі верш, які пачынаўся радкамі:**

*Паўвека...*
*Гэта шмат — паўвека.*
*Сплылі, змялелі сотні рэк.*
*І ўжо адно тваё павека*
*Нібы закрылася навек...*



Так, паўвека — гэта шмат. А што ўжо казаць пра цэлы век. Пра цэлае стагоддзе. Цяжка ўкладваецца ў галаве, але наяве той факт, што спаўняецца сто гадоў з дня нараджэння натхнёнага песняра маладосці, песняра і веры, і вернасці, і вечнасці, і «любві да ўсяго, што ў народзе сваім і ў сваёй Беларусі».

Здымаю амаль спантанна з кніжнай паліцы яго паэтычныя зборнікі. З аўтографамі.

«Маўклівая малітва»: «Дарагі Анатоль! Мы вечна ў сэрцы молімся за некага і за нешта, а кагосьці праклінаем. Вось і я напісаў маўклівую малітву. Пімен Панчанка. 25.VI.85 г.»

«Вячэрні цягнік»: «Дарагому Анатолю Вярцінскаму, каб ён як мага пазней сядаў на вячэрні цягнік. З любоўю. Пімен Панчанка. 30.03.78 г.»

«Высокі бераг»: «Дарагі Анатоль Ільіч, не ведаю чаму так назваў з падказкі рэдактара сваю новую кнігу. Пэўна, лепш было б яе назваць «Горкія думкі» ці «Наш час» (ёсць у кнізе такія вершы). Ну ды ладна. Пачытайце, паглядзіце, знойдзеце і сваё імя. Даўно ведаю, цаню і люблю нашу паэзію. Яна ж — пра наш неспакойны час. Жадаю вам здароўя, творчай і жыццёвай радасці. 20.II.93 г.»

Гэта што датычыць яго добразычлівых, шчодрых дароўных надпісаў. Захаваўся — напісанае застаецца — і ліст Пімена Емяльянавіча, адрасаваны мне як тагачаснаму рэдактару штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Вось гэты ягоны, прасякнуты адраджэнскім і грамадзянскім клопатам зварот (які і ў стагоддзе Народнага паэта застаецца, на жаль, актуальным):

«Дарагі Анатоль,

сёння прачытаў у «Звяздзе» артыкул мовазнаўцы А. Жураўскага «Мабыць, лепш Менеск?» Я супраць яго прапановы. Трэба аднавіць «Менск». Так заўсёды гучала ў народзе. «Минск» — гэта знак русіфікацыі. А «Менеск» не прыўецца з прычыны архаічнасці.

Газеты друкуюць у апошні час параўнальныя табліцы, якія даюць магчымасць даведацца, як гучала калісьці назва таго ці іншага пасёлка, гарадка, вёскі. Гэта актуальна, бо штучныя найменні блытаюцца, бо ў кожнай вобласці (а, бывае, і ў раёне) адны і тыя ж назвы калгасаў і саўгасаў, накшталт: «Першамайскі», «Маладзёжны», «Акцябрскі», «Дружба», «Пралетарскі», «Рассвет», «Запаветы», «Перамога» і г.д.

У нас калі парк ці тэатр, ці кансерваторыя, то абавязкова імя Горкага, імя Луначарскага. Брыдкая аднастайнасць. А наш цэнтр? Праспект Леніна і вуліца Леніна, вуліцы Кастрычніцкая, Камуністычная, Сацыялістычная, Савецкая, Камсамольская; імя Лібкнехта, Розы Люксембург, Урыцкага, Валадарскага, Маркса, Энгельса, Клары Цэткін, Ландара, Куйбышава, Калініна, Свярдлова, Будзённага, Варашылава... Каго там яшчэ? Ні ў адной нашай сталіцы, ні ў адным іншым вялікім горадзе такога ўра-рэвалюцыйнага «кагалу» няма і, пэўна, ніколі не будзе

І яшчэ пра адно: пра наш дзяржаўны сцяг. Некалі баязлівыя чыноўнікі, замест белага колеру, навязалі сцягу карункі... з жаночай спадніцы. З цягам часу забыліся, прывыклі, цяпер не ведаем. А ў мой час, памятаю, з нашага сцягу смяяліся: ну і сімвал: карункі!

Вось такі, замест верша, напісаўся ліст. Жадаю вам поспехаў у газетнай і дэпутацкай дзейнасці! Твораў любога жанру!

Салют!

Ваш Пімен Панчанка.

15.05.91 г.»

# Лаўрэаты «Экслібрыса» імя Францыска Скарыны

**6 жніўня, у дзень 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, былі абвешчаныя вынікі штогадовага літаратурнага конкурсу, арганізаванага Саюзам беларускіх пісьменнікаў і прысвечанага мастацкаму перакладу на беларускую мову. Пераможцамі сталі пяць маладых літаратараў.**

Першае месца атрымала Іаанна Владыка за пераклад «Найлепшага месца на Зямлі» Тэрэсы Тышыньскай.

Другое месца — Алесь Емяльянаў-Шыловіч за падборку перакладаў з англійскай і польскай моваў.

Трэцяе месца — Сяргей Матырка за пераклад «Вялікага Гэтсбі» Ф. Скота Фіцджэральда.

Прызёрамі конкурсу сталі таксама Надзея Квасняк за пераклады вершаў Юльяна Тувіма і Яўгенія Лабоха за пераклад Сакі (Гектара Х'ю Манро).

Творы лаўрэатаў і канкурсантаў будуць надрукаваныя ў «навачасным» дадатку «Літаратурная Беларусь», часопісе «Дзеяслоў» ды інтэрнэт-часопісе «ПрайдзіСвет». Цырымонія ўганаравання пераможцаў адбудзецца ў верасні.

**Прэс-служба ГА «СБП»**

# Зямля і земя. Корань тут адзін...

**Нядаўна Мінск наведаў Найдан Вылчаў. Нагадаю, хто не ведае, — знаны балгарскі паэт і перакладчык (узначальваў шмат гадоў Саюз перакладчыкаў краіны), лаўрэат шэрагу літаратурных прэмій, і — прыехаў да нас зусім невыпадкова і не ў першы раз: даўні і верны сябра Беларусі, прыхільнік нашай мовы, літаратуры і гістарычнай спадчыны. Можна сказаць, адкрываў нашу літаратуру балгарскаму чытачу. І рабіў гэта мэтанакіравана, надзвычай адказна.**

Паведаміўшы мне па тэлефоне пра яго прыезд, старшыня Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежжам Ніна Іванова яшчэ заўважыла: «Гаворыць Найдан, што прыехаў, каб развітацца з намі». — «Развітацца? Што ён мае на ўвазе?» — «Мабыць, тое, што мінае час далёкіх падарожжаў. Здаецца, будзе адзначаць неўзабаве сваё дзевяностагоддзе».

Шмат разоў сустракаліся і ў нас, у Беларусі, і ў Балгарыі. І я збіраўся на сустрэчу ў Доме дружбы, натуральна, не без пэўнага душэўнага ўзрушэння. Перачытаў кнігу выбранай лірыкі Найдана Вылчава «Белая чайка», выдадзеную ў перакладзе на беларускую мову ў далёкім 1968 годзе. Пагартаў яго кнігу — нарыс пра Беларусь «Беларуская бяроза». Нават паспеў прагледзець манаграфію навукоўцаў — лінгвістаў Беларускага і Сафійскага ўніверсітэтаў «Беларуска-балгарскія моўныя паралелі». А яшчэ знайшоў і, што называецца, асвяжыў у памяці ўласныя вершы «Балгарыі»:

*Друг і другар...*
*Калі ёсць друг, які*
*вялікаю адлегласцю аддзелены, —*
*вялікаю надзеяй абнадзеяны*
*ты на ўсе гады і на ўсе вякі.*
*Шыпшына й шыпка...*
*Усё той жа цвет.*
*Калючая, з шыпамі, тая ж ружа,*
*што на дарогах пацвярджае дружна*
*агульнасць нашых радасцяў і бед.*
*Зямля і земя...*
*Корань тут адзін,*
*карэнні тыя ж, тыя ж сокі.*
*хоць сцелецца тут гладзь раўнін,*
*а там узносіцца хрыбет высокі.*
*Балгарыя! Мацнее сэрца ўдар.*
*Друг і другар...*

...Сустрэліся. Абняліся. Балгарскі госць спытаўся пра абставіны зыходу з жыцця Ніла Гілевіча. Распавёў: «Мае калегі падаліся гэтым летам хто куды: хто ў Італію, хто на Лазурны бераг, хто ў Нью-Йорк. Ну а я параіўся з Мінкай і вырашыў: калі ўжо куды і ехаць, дык толькі ў Беларусь. Чуў аднойчы ад некага з вас: дзе скарб твой — там і тваё сэрца...» Падараваў свае апошнія на часе кнігі: «Тракийска фреска» і «Една българска роза». Сказаў: «Паглядзі, пачытай і напішы мне»...

Чытаю, знаёмлюся (праўда, месцамі не без слоўніка), параўноўваю сённяшняга Вылчава з ранейшым. І перад тым, як пісаць у Сафію, ды каб ліст быў больш змястоўны інфармацыйна, пераклаў некалькі вершаў на сваю мову для «навачаснай» «Літаратурнай Беларусі».

**Анатоль Вярцінскі**

# Святая справа

Найдан ВЫЛЧАЎ

### Балада пра атрад Боцева

*Ах, ёсць яна, ёсць яна,*
*песня высокага ладу!*
*у сэрцы народным палае,*
*як вечны касцёр,*
*вось гэта балада, страшэнная*
*гэта балада*
*пра сто дваццаць душ — як на падбор.*
*Над светлым Дунаем чэтнікі*
*сталі ўздымацца,*
*да чорнай Аколчыцы* свой шлях*
*скіравала іх раць.*
*Ішлі яны, маці, каб за цябе змагацца,*
*ішлі яны, маці, каб за цябе паміраць.*
*Але ж гэта ўсё — не песні і словы,*
*не лісця звон ціхі, што поўніць*
*вясновы гай,*
*ах, гэта ж усё — прабітыя куляй*
*галовы,*
*і кроў на скале, і крумкачыны грай.*
*Баладай бяссмертнай стала*
*святая справа,*
*у памяці нашай палае, як вечны касцёр,*
*і гордая гібель, і гордая слава*
*душ ста дваццаці тых —*
*што як на падбор.*
*Над сінім Дунаем чэтнікі сталі*
*ўздымацца,*
*да чорнай Аколчыцы скіроўвае*
*шлях іх раць.*
*Ідуць яны, маці, каб за цябе змагацца,*
*ідуць яны, маці, каб за цябе паміраць.*

### Жанчына

*— Скажы, хто першай жанчынай была*
*тваіх наіўных юначых мрояў?*
*— Знікла яна ранняй парою,*
*як міг рамантычнага святла.*

*— Скажы, хто пяшчотнай жанчынай*
*была,*
*якую забыць ты, пэўна, не ў стане?*
*— Забуду. Хваля быць перастане*
*ад хвалі другой, што ўслед падплыла.*

*— Скажы, хто цёмнай жанчынай была,*
*якая ўсё ў попел ператварала?*
*— Бачу я вунь вугалёў нямала,*
*але няма ў іх ні кроплі цяпла.*

*— Скажы, хто вечнай жанчынай была,*
*якая разам з табой дажывае?*
*— Не чуеш? Сына майго люляе*
*з вечнаю песняй: «Бай-баю-бааа».*

### Дзевяностыя

*Занадта ж ясны фокус гэты:*
*так проста дзяліць на «гэтых» і «тых»,*
*дзяліць, як былда бязмоўнае, ўсіх,*
*рашаць, які сцяг болей адметны.*

*Балгарскі флаг заўсёды адзіны,*
*адны ў нас нябёсы і зямля.*
*І шлях балгарскі, шлях былінны —*
*на палымяны ўсход... І я*

*тройчы памерці гатовы, згодны,*
*не бачыць каб будучыню, у якой*
*падзелены будзе народ мой родны*
*на багацеяў і беднякоў.*

* Аколчыцы — назва горнай вяршыні ў Балканах.

# У падзямеллях Геванта

(Фрагмент рамана)

Тадэвуш МІЦІНЬСКІ

*Тадэвуш Міціньскі нарадзіўся ў 1873 годзе ў польскай Лодзі, а загінуў пры таямнічых абставінах у 1918 годзе ў Беларусі, пад Чэрыкавам. Загадкавы раман «Нятота. Таемная кніга Татраў», прасякнуты ідэямі месіянізму і містыцызму, лічыцца адным з галоўных яго твораў. Фрагмент гэтага рамана і прапануецца чытачам «Літаратурнай Беларусі».*

Выйшаў Маг Літвар на зорнае святло.

І зноў ён у пустэчы, высечанай сценамі чорных гігантаў. Цішыня настолькі велічная, што чуецца пад валунамі шолах росных струменьчыкаў.

У змроку, сярод блакітных туманоў, рушыла жанчына, нібы прывід.

Вечная сярод тых, хто жыве.

У яе руках была трохкутная арфа, струны якой прадвяшчалі Новае Адкрыццё. Над тварам, бялейшым за месяц, узносіўся гушчар цудоўных валасоў.

І распавядала тая песня пра гады чакання сярод слёзаў і пакут. Звярталася да сваіх патаемных думак, народжаных слотнымі, лістападнымі, безнадзейнымі начамі. Да думак, што паўставалі ў ночы месяцовыя, зеленаватыя, магічныя, сярод бароў над берагам паўночнага мора. Песня пыталася, калі пераможа Каханне?

Злавесны боль прымружыў вочы Мага Літвара.

У яе слязах парушаліся скляпенні нябёсаў.

Маг Літвар, нерухомы вартавы, стаў ля брамы смерці і вымавіў у вечнасць: ніколі! Заўважыў, што ўстрапянуліся кончыкі яе далікатных, з пералівамі розных адценняў, пальцаў. Зірнуў, але не ў вочы яе, падобныя да гротаў, дзе фасфарычназзяе аметыстамі і чорным агатам азёрная глыбіня Марскога Вока, — зірнуў у страшэнны змрок пекла, якое пакрывала яе вязніцай.

У змроку тым блішчэла некалькі цьмяных зорак — гэта быў Змеяносец. Паказаў ёй: нібы яе ўзводзіў на алтар і прыносіў у ахвяру богу Пекла. Прамовіў словы моцныя, недасяжныя.

Яна адышла.

Чуў яе ціхія крокі, нібы хтосьці пад зямлёй забіваў цвікамі труну, — цішэй — нібы сыпалася зямля на твар памерлай — так незваротна, як дакрананні кінутых у магілу кветак.

Змоўкла пустэча вялікіх гор.

Змрочны Гевант пужаў — прадвеснік смерці, суправаджальнік да краю ценяў, ён іскрыўся ад зор. Маг прылёг у лагчыне гары.

Невядома, колькі нерухомых эпох — глядзеў уверх, дзе плыў на нябачнай барцы таямнічы, жахлівы месяц. Падножка гары, што нагадвала магілу рыцара, распасціралася на некалькі далінаў і мела такую велізарную вышыню, што манументальны крыж на рыцарскім шлеме здаваўся цацкай. Галава, патрэсканая ямінамі і прадоннем, не змяшчала ўжо выявы твару.

Боль і таямнічасць згушчаліся ў нейкі звышчалавечы выгляд вусцішна скамянелай Бясконцасці. Памерлі мільёны ляхаў, змяніўся шэраг каралеўскіх дынастый, перш чым тыя шматпавярховыя валуны з шэрага граніту былі абцятыя дажджамі ды снягамі і зведалі на сабе ўздзеянне лавінаў, перш чым гіганцкая рака высекла вадападам каменную масу ў бажніцы Геванта.

Маг Літвар адчуў унутры ўсхваляванае пачуццё тоеснасці з тым, чый прах ужо даўно быў развеяны з па-блюзнерску парушанага кургана. Але прасякнуты болем вечнай Ілюзіі, вымавіў у найглыбейшым маўчанні сваім: не кружляе нічога над пустэчай знішчэння!..

Каменны гмах раптоўна пахіліўся на бок, цела Мага, што перад тым ляжала бяспечна, цяпер завісла над бяздоннем, дзе лесам коп'яў тырчэлі яліны.

Ён трымаўся за скальны выступ, а Гевант сваёй магутнай вагой схіляўся ўбок насуперак усім законам гравітацыі...

Мабыць, Гевант хацеў спалохаць такім чынам Мага, як мамант малую казурку, што зачапілася за агромністы карак; лінію гарызантальную ён зносіў перпендыкулярна і спадаў, але найбольш здзіўляла тое, што рухі адбываліся ў вакууме, то бок удараў аб зямлю не было чуваць! Раптам, быццам карабель падчас буры, які сядае на водмель, Гевант цяжка абваліўся, а скалы страпянуліся, як поды бушуючага мора. Кожны смяротны страціў бы прытомнасць ад знясілення і жудасці і зрынуўся б з тых паверхаў, вышэйшых за муры Вавілонскай вежы.

Знянацку бліснула святло, запаленае ў аддаленым кутку — можа, месяц кінуў з-за хмары свой заходзячы прамень? Не, хутчэй гэта быў бляск унутры Геванта.

Маўчанне. Нечаканы спакой. Маг рушыў па біўнях вапнавага дна Прамора Татраў. З галавы ідала святло здавалася зусім далёкім і ўрэшце згасла.

Калі Маг Літвар урэшце агледзеўся перад уваходам, прыхаваным у трохкутніку забрала Геванта, з вуснаў яго сцякала крывяністая юшка.

**Пераклад з польскай мовы Ірыны Хадарэнка**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (132) | 25 жніўня 2017 | № 31 (545) Новы Час

# Шчонаўскія абразкі


Альжбета КЕДА

**Гарадзенская пісьменніца Альжбета Кеда (Ала Петрушкевіч) напісала кнігу пра сваю родную вёску Шчонава, што ў Карэліцкім раёне. Сабрала аскепкі вялікага свету, якога ўжо няма. Яе вёска памірае. Кніга — помнік мінуламу. Напісаная з любоўю. Прапануем урывак з яе.**

### Анісія і Мікалай

Яны кахалі адно аднаго. Але Мікалай Валенцік быў бедны. Не пашанцавала Анісі. Аддалі яе замуж у Малюшычы. Толькі дзіцятка нарадзіла, памёр мужык. Мусіла тады пайсці за Галяшука, старога ўдаўца. Ён таксама нядоўга пажыў.

Мікола ўзяў Яўгасю з Кайшовак. Але лёсіла ўсё ж ім з Анісяй сысціся. Аўдавелі амаль у адзін час. І пабраліся. Пяты шлюб на дваіх. У Анісі была дачка Ліза, у Мікалая — Ліда. Перажывала дзяўчынка, калі мачыха ў хаце з'явілася. Пратэставаць імкнулася. Але хто на яе зважаў? Спаць іх з Лізаю на печы паклалі. То яна сваёй новай сястры выказала: «Чаго твая маці з маім бацькам спаць легла?» Раўнавала бацьку, сваю маму згадвала. Але змірылася. І з Лізаю ўсё жыццё, як з роднаю, пражыла, сябравала.

Яшчэ і сваіх дзвюх дачок Анісія з Мікалаем нарадзілі: Насцю і Таню. Прыгожыя, акуратныя дзяўчаты былі. Падросшы, служылі ў бацюшкі ў Райцы пакаёўкамі. Райчанкамі сталі.

### Бэля

Гэтае імя было ў Шчонаве мянушкай. Выкарыстоўвалі як абразу, лаянку, дастасоўваючы да яго не вельмі лагодныя прыметнікі. Насамрэч такая асоба існавала ў 30-ыя гады.

Прыйшлася тая яўрэйка Бэля па маім Шчонаве, дакладней, праехалася, не надта прыстойную славу па сабе пакінуўшы. Жыла яна на Зелянцы, краму трымала. Мела дзвюх дачок, Этку і Лізу, а мужа ў яе не было.

Не маркоцілася кабета. Гандаль ішоў спраўна. Ведалі людзі, што махляваць добра ўмела. Часта ў яе хаце п'янкі-гулянкі ладзілі, якія прывабілі няўстойлівых мужчынаў.

Упадабаў яе адзін шчонавец. Пакіне жонку, дзяцей і сыдзе з хаты. Пажыве ў тае Бэлі, набалуецца, нацешыцца, а пасля дахаты вяртаецца. Яна праз які дзень следам на падводзе прыязджае. Заходзіць у свіран і насыпае ў мех збожжа. На роспачныя крыкі жонкі пра тое, што сярод белага дня такі крадзеж учыняе, спакойна адказвала:

— Твой муж у мяне жыў, еў. Чаму я мушу яго дарма карміць? Забіраю столькі, колькі з'еў.

Такое ўяўленне пра справядлівасць было ў Бэлі.

### Вузел

Завязаўся між трыма маладымі людзьмі моцны вузел.

Сястра Уладка Пасэсара Жэня кахала Мішу Таўлуя, брата Валадзенькавага. Каханне было ўзаемным. Ужо і да вяселля справы ішлі. Але не адбылося вяселле: пасагу, які сваты запрасілі, не меў Уладак для сястры. Разышліся іх сцяжыны. Хлопец жонку Вольку з Савашоў узяў, дзетак прычакалі. Праўда, Коля, сынок іхні, ужо падлеткам будучы, памёр, прастудзіўшыся, як каровы пасвіў. Дачушка маленькая засталася.

А Жэня замуж у Рамейкі пайшла за Сцяпана Мялешку. Ды не змірылася яна з тым замужжам. Вярнулася ў хату, дзе брат з сям'ёю жыў. І стала з Мішам сустракацца таемна. Мілуюцца ноччу, а пасля ён дахаты вяртаецца і спаць у гумне кладзецца. Ды аднойчы страшны сон прысніўся яму. Быццам нябожчыкі яго душылі. Крычаў нема, прачнуцца не мог. Злосць сваю на жонцы зганяў. Столькі гора, несправядлівасці, здзеку ад мужа Волька вытрывала. Біў ён яе, з хаты не раз уцякала. А ён следам ляцеў. Хавалася на могілках. Ляжа між магілкамі, той і не згледзіць. А пасля і зусім сысці мусіла да сястры ў Воўцу. А Міша прывёў у сваю хату Жэню. Жыў з ёю, хлопчык у іх нарадзіўся. Мішам назвалі.

Толькі праз два гады вярнулася Волька з дачушкай у сваю хату. Калі мужа на вайну забралі. Так і жылі яны разам, дзве жонкі аднаго мужа. Нат і ладзілі. Дапамагала Волька малога Мішу глядзець.

А Міша старэйшы з вайны не вярнуўся. Мусіла Жэня пайсці з тае хаты. Бо Волька першая, законная жонка. Жыла Жэня ў свайго дзядзькі Кірэя на хутарах. Ды захварэла яна на сухоты, якія і звялі жанчыну ў магілу. Сыночка яе ў дзіцячы прытулак аддалі. Падросшы, прыязджаў некалькі разоў у Шчонава. Толькі хто яго тут чакаў? Мо і зараз жыве недзе ў свеце вялікім.

Толькі смерць, умяшаўшыся, той вузел мілосны развязала.

### Чайка Мікіта

Не так многа было ў Шчонаве мужчынаў, што з-за каханкі жонку пакінулі, дзяцей пасірацілі. Чайка Мікіта якраз з такіх.

Хата ягоная стаяла ў канцы Кліна. На тым месцы, дзе пазней Апалонік сваю пабудуе. Жыў ён са сваёю Зосяю, пяцёра дзетак мелі: Аркадзя, Ніну, Валодзю, Мілку і Міцю.

А ў школе, што была ля Захомаў, у колішнім доме аканома Пахалінскага, працавала настаўніцаю нейкая нетутэйшая кабета па прозвішчы Качаргіна. Відаць, усходніца. Закахаўся ў яе Мікіта. Ды так, што сям'ю сваю кінуў, пра дзяцей нявінных не падумаў. З'ехаў ён з тою Качаргінаю няведама куды. Ніколі больш у Шчонава не паказаўся.

Зазнала гора бедная Зося з дзеткамі. Працаваць з малымі цяжка давялося, галадаць. І біду страшную перажыла. Узяў да галавы яе сынок Валодзік, што бацька іх кінуў. Не пераўжыў гэтае ганьбы. Захварэў і памёр маладзенькі.

Толькі адзін Міця, які ажаніўся з Гэляю Валенцікаваю, на Радзіме застаўся, у Карэлічах жыў. Астатнія ўсе выехалі недзе далёка. І ніколі не прыязджалі ў Шчонава.




### Пасаг Ганны Юлькавай

За Польшчаю тое было. Юляк Яўсей знайшоў пярсцёнак. Вельмі прыгожы, залаты, з камнем барвовым. Відаць, нейкі пан згубіў. Гаспадар не знайшоўся. Застаўся пярсцёнак у Юляка. Прыязджаў жыд з Варончы, шмат грошай за пярсцёнак даваў. Ды не прадаў Юляк тую прыгажосць.

— Гэты пярсцёнак будзе Ганнін пасаг, — так заявіў.

Ганна была вельмі прыгожай, ужо й на дзеўку бралася.

Малодшы сын Юляка Андрэй служыў у пана ў Руткавічах. Закахаўся ён у адну дзяўчыну. А яна, відаць, не надта сумленнаю была. Што казала хлопцу, што дакляравала, ніхто таго не ведае, але выкраў ён у бацькі пярсцёнак і занёс каханцы. Ды не выйшла тая за хлопца замуж. Падманула. Андрэй з вайны не вярнуўся. Засталася самотнаю й Ганна. Пасля таго, як нагу страціла, вырашыла, што замуж не пойдзе. Хоць і сваталіся яшчэ да яе неадночы.

Што з тым пярсцёнкам? Праз многа гадоў пераехала сям'я Колі Барэйкавага ў вёску, дзе замужам была Андрэева каханая. Ганна прасіла Колю спытаць у яе пры нагодзе, дзе пярсцёнак. Спытаў. У адказ — маўчанне.

— Нічога не сказала. Ні слова. Як вады ў рот набрала...

Недзе ж ён ёсць, той Ганнін пярсцёнак. А мо і няма. Мо пераплавілі золата...

### Трагічнае каханне

Анюта Максімава была дзяўчынай прыгожай. Кахала яна Толю Якубавага. Немалы час каханне доўжылася. Але здрадзіў Толя, прывёз з войска сабе жонку Соню.

Так пакутавала Анюта, што не вытрымала, у студню кінулася. Дасталі яе яшчэ жывую. Але захварэла пасля таго моцна. Не выратавалі. Памерла маладая. Калі б не здарылася гэтая бяда, пайшла б замуж за Алеся Навумчыка, якога Зайчыкам у вёсцы клікалі. Браў ён яе, любіў, не глядзеў, што з другім сустракалася.

А помнік па ёй брат Федзя паставіў. Сапраўды, прыгожая дзяўчына пазірае са здымка. Пляменніца Галя да яе падобная.

### Хто асудзіць?..

Жыццё ўдоваў, якіх у Шчонаве, як і ў кожнай вёсцы беларускай пасля вайны шмат было, нялёгкае. Гэта вядома. Але размова зараз не пра тое. Пра справы амурныя.

Жаночае цела, а яшчэ ж такое маладое, прагнула пяшчоты, кахання, ласкі мужчынскае. Не ўсе жанчыны аднолькавыя, не ўсе маглі тэмперамент свой перамагчы, утаймаваць.

Адна такая ўдавіца жыла з сям'ёю свекрыві. Прымала мужчынаў чужых. Летам то яшчэ і нічога... І сена недзе ў стагах ці на вышках духмянае, і травы высокія, і лес з палянамі сунічнымі каханне грэшнае схаваюць. А зімою? Дзе схавацца кабеце са сваім шчасцем украдзеным? Вось жа, прыводзіла тая жанчына мужчынаў дахаты. Як толькі ўгледзіць свякроў праз вакно, што нявестка госця вядзе, плакаць пачынае на ўсю хату, галасіць, як па нябожчыку. А дачка супакойвае маці як можа: «Чаго ты плачаш? Ці табе шкода яе? Сціхні».

Адно бяда: жанатыя тыя мужчыны былі. Але міраліся неяк кабеты. Сварыліся, зразумела...

Хто сёння асудзіць тую «грэшніцу»? Па-біблейску: няхай той каменем кіне, хто сам бязгрэшны. Ды і даўно ўжо яна там, дзе суд справядлівы, высокі. Няўжо не ўлічаны будуць абставіны, што да граху чужаложства няшчасных удоваў даводзілі?

### Такія розныя...

Уявіце такую карціну. Ідуць мужык з жонкаю з Хвалава, з гасцей вяртаюцца. Даходзяць да хаты аднае ўдавы. Мужык кажа:

— Ідзі дадому.

Жанчына паслухмяна, нічога не кажучы, ідзе да свае хаты, што ажно ў канцы Шчонава стаяла. А мужык? Зразумела ж, да тае ўдавы зварочвае. Жыве ў яе дзень, два. Колькі захоча. Працаваць дапамагае. Пасля дадому вяртаецца.

Чаму яна маўчала, чаму не сварылася, не пратэставала? Казала на тое:

— Што зробіш? Ці буду я крычаць, ці не, усё роўна ён да яе пойдзя.

Відаць, мела рацыю. Бо другая кабета, муж якое да тае ўдавы таксама завітаў, што толькі не рабіла: і крычала, і сварылася, — усё роўна рады даць не магла.

Былі гэтыя жонкі прыгожыя, працавітыя, нічым за тую ўдаву не горшыя. Не кідалі іх мужыкі. Так толькі... на час сыходзілі.

А цымус увесь у тым, што кабеты тыя — родныя сёстры. Такія розныя...

### Невінаватыя

Унізе, ля самае дарогі, насупраць беднае хаты ўдавы Барэйчыхі, што стаяла на ўзгорку, рос клён. Сад, агарод, соткі, — усё было схавана за хатаю. Змарнелы куст бэзу з правага боку, ля вакна, здалёку не быў відаць. А высокае дрэва выглядала ва ўсе канцы, было знакам сядзібы.

Настаўніца Валя, што жыла з мужам і маленькім сыночкам у той беднай хаціне разам са свякроўкаю, залоўкаю і дзеверам, любіла прыгожае дрэва. Не перастала любіць і тады, калі з'явіліся на яголым ствале тлустыя плямы, белая і чырвоная. Першая ад пахучага крэму «Сняжынка», другая ад памады. Раззлаваўся аднойчы яе муж, схапіў тыя няхітрыя жаночыя падмалёўкі, выскачыў з хаты, разламаў і пабіў аб клёнік. Была прычына. А вінаватым не быў ніхто.

Некалькі гадоў таму працавала Валя ў недалёкім, але і не надта блізкім мястэчку Цырыне. Звольнілася, атрымала працу ў Шчонаве. Адзін цырынец, якому ўпала ў вока прыгожая настаўніца, памятаў яе. Праз некалькі гадоў вырашыў знайсці. Выбраўся неяк нядзелькаю, даехаў да Рамейкаў. Было вельмі рана. Ішоў па дарозе да хутароў у надзеі сустрэць кагосьці, каб распытаць, дзе жыве настаўніца. Ажно бачыць: ляціць насустрач вершнік. Прыпыніў, патлумачыў, каго шукае. Той нечакана вырашыў вярнуцца і правесці да хаты. Пра што яны гаварылі, ці гаварылі наогул, ніхто не ведае.

У хаце ўсе яшчэ спалі. Свякроўка шлупалася на кухні. Раптам адчыняюцца дзверы, маладая жанчына чуе голас мужа: «Госць да цябе прыйшоў. Прымай!» А ў хатцы той ні перагародкі, ні шырмы якое. Глянула яна з пасцелі і знямела, пазнаўшы госця няпрошанага, неспадзяванага. І што сказаць яму, не ведала. Ціха папрасіла сыйсці з гэтае хаты.

Вось тады і паляцелі ў клёнік крэм, памада...

Не мела яна крыўды на мужа. Не мела і на тога даўняга знаёмага. Толькі няёмкасць, прыкрасць ад недарэчнае сустрэчы засталіся назаўсёды. Ніколі больш не сустрэла яго.

А ад мужа папрокі чула амаль усё жыццё...

# З новай кнігі «Вогнепаклонніца»



Іна СНАРСКАЯ

* * *

*Напамяць чытала сумныя вершы*
*І так наіўна верыла ў шчасце.*
*Гэтак бывае: успомніцца першы*
*Каханы, —*
*і — сэрца, і дзверы насцеж.*

*Зноў так наіўна верыцца, сніцца:*
*Раптам, а можа?.. Трывожна. Мурожна.*
*Бедная б'ецца ў грудзях сініца,*
*Нібы за кратамі. Божа ж мой...*

* * *

*Гараць снягі,*
*Сівеюць скроні,*
*А я у Бога на далоні.*

### Снежань

*Сосны селі за кросны*
*Ткаць срэбны кужаль аблокаў.*
*Прыляцеў чорны сокал —*
*Пацямнела навокал.*
*Прыляцеў сокал белы —*
*І завылі мяцеліцы.*

* * *

*Паміж дажджамі прарасці,*
*І сцішыцца блакітнай кветкай,*
*Каб сны Радзімы бачыць зрэдку,*
*Хмарынкі родныя пасці.*

*Усё, што творыцца здаля,*
*Усё, што вернае на дотык,*
*Аддам, як мёд пчаліны соты.*
*Бяры, дзяцінная зямля!*

### Белы верш

**«Хвілю яшчэ пабудзем вадою,**
**нахіленым дрэвам, сонцам...»**
**(К.Галчынскі)**

*Далонь сваю працягні. Вось крыло.*
*Мы разам ляцім да сонца...*
*Прысніся... Прысніся хаця б*
*Да першага снегу, да першага лістападу.*

*Я шукала цябе ў паднябенні праменьчыкаў лета.*
*Паддашкі усе абыйшла, усе сутарэнні.*
*Карэнне маё аплятала тваю зямлю,*
*Калыхала ў калысцы нябёсаў.*

*Калі холадам сцісне знямелыя скроні,*
*Гавары са мной мовай аблокаў і вершаў.*
*На адлегласці подыху. На алегласці развітання.*
*Заінелы, далёкі,*
*да сустрэчы, да прылятання.*

* * *

*Перакладзі мяне на мову сэрца.*
*Усе мае лясы, усе трывогі,*
*І гэты дзень стамлёны, тканы шэрым,*
*І васілёк у жыце ля дарогі.*

*Перакладзі хмарынак пазалоту*
*На берагах шчымлівых птушкі-сонца,*
*І слова «жыць», і словы «вольна лётаць» —*
*Сінонімы маёй зары бясконцай.*

*Перакладзі надзею — светла, шчодра,*
*І першы пацалунак, і астатні.*
*Тады скажу табе нарэшце: «Родны,*
*А крылы ўваскрасаюць на світанні».*

* * *

*Размаўляю з маімі сябрамі*
*На старонках падораных кніг,*
*І крылатых радкоў арыгамі*
*Дакранаюцца вуснаў маіх.*

*Пасміхаюся без прычыны,*
*І святлее на сэрцы з таго,*
*Што кранаецца неба Айчыны*
*Вечаровага сонца майго.*

* * *

*Калі каханне папросіць,*
*Не адмаўляй яму.*
*Птушкаю сіняй восень*
*Села ў маю траву.*

*Стала так светла, велічна.*
*Вочы мае — вякі.*
*Вось заспявалі весніцы,*
*Ўпалі да ног шаўкі.*

*Суджаны, мной абуджаны,*
*Быццам жалейка я.*
*Грай залатымі ружамі,*
*Званочкамі салаўя.*

*Табе кашулю вышыла*
*Нашча, промням вясны,*
*І пералётнаю вішняю,*
*І першацветам лясным.*

* * *

*Чысцей няма нічога за вяртанне.*
*З усіх дарог, з усіх паўднёвых казак.*
*Лячу дамоў жаданым словам, сказам,*
*Нявыпітым на брудэршафт світаннем.*

* * *

*Прыбраўся кветкамі горад,*
*Дыхае чыста, празрыста.*
*А недзе сівое гора*
*Ваўкамі жалезнымі рыскае.*

*Як вымавіць слова «вайна»,*
*Гаручае і калючае?*
*За спомін душы віна*
*Выпіць. Віною змучаныя*

*Усе, хто сэрца збярог.*
*Раве ашалелы вецер*
*У небе пустых двароў,*
*У небе знямелых весніц.*

*Вясна прыйшла і туды —*
*Пралескі цвітуць і ў пекле,*
*І прывіды сноў — сады*
*Салдацкія слухаюць песні.*

### Памяці сябра

*Тваё берагі, пералескі —*
*Далёка, пякуча, балюча.*
*Рукой не дастаць, не дабегчы, —*
*Расой засяваць гаручай.*

*Але пералётнае сэрца*
*Адчыніць вароты Раю,*
*І дзень размалюе шэры*
*Вясёлкай ад краю да краю.*

*Бо ведае: не ўміраюць*
*Тыя, каго мы любім.*
*З верай вакно адчыняю:*
*Прылятай, мой галубе!*

### Роднай мове

*Цябе успомніць сэрца па складах,*
*Па шыльдачках і прыдарожных знаках,*
*Па дзедавых намоленых крыжах*
*І па званочках, пацалункам насцеж.*

*Цябе пазнае сэрца па дажджу,*
*Па заінелых восеньскіх каштанах.*
*Я перайду ўтравелую мяжу*
*Узнёсласці і падарункаў танных.*

*І прарасце, і зазвініць жыццё*
*На скрыжаваннях веры і нябыту.*
*Вунь паляцеў гадзіннік, не пацёк,*
*Як у Далі. Наканавана быць нам!*



*Дзяўчыначка, адчайная душа,*
*Стаміўшыся ў гармідары вакзалаў,*
*Зноў да цябе па спарышу прыйшла.*
*Пагавары з ёй Віцебскам Шагала.*

### Напярэдадні Каляд

*На ростанях зімы святлеюць вочы неба,*
*Штодзённую раку я перахажу ўброд,*
*А за мяне бацькі кладуць жывыя трэбы*
*На тым канцы дажджоў, сумненняў і турбот.*

*Там моляцца за нас, а мы за іх старэем,*
*А мы за іх ідзем да берагоў душы,*
*І для сваіх дзяцей мы сталі ўжо карэннем,*
*Трымаем на плячах зялёны звон вяршынь.*

*І будзе так заўжды пакуль зямля зямлёю,*
*І Божы Сын пакуль лякуе ўсіх нябог.*
*На ростанях зімы пішу сваёй крывёю,*
*Што небыцця няма. Ёсць вера і любоў.*

### Бабулі

*Перад смерцю бабуля спявала.*
*На праменьчыках родных, лясных*
*Маладосці пляла каралі*
*Успамінамі да вясны.*

*І ляцелі ўспаміны птушкамі*
*Над трыпутнікам долі зямной,*
*І вятрыскі калыскі гушкалі*
*З мамаю і са мной.*

*І вясельную сукню золатам*
*Вышывалі снягі,*
*Заручалася з воляй ты,*
*З ветахам дарагім.*

*Бегла ты пералескамі нашымі,*
*Чула гоман бароў,*
*Калі сонца давеку нашчае*
*Перавозіў Харон.*

* * *

*Не пасняваю жыць*
*не для сябе, для іншых,*
*І дарагіх людзей*
*губляю па чарзе.*
*Гараць мае лясы —*
*душу ўкрывае іней.*
*Гарыць мая зямля —*
*скляпенне сноў-надзей.*

*Не пасняваю жыць*
*за хлебам, не за срэбрам*
*І некалі сустрэць*
*сваіх сівых сяброў.*
*Ляціць, ляціць жыццё*
*да брамы ў лютым небе.*
*І не хапае сіл,*
*і не хапае слоў...*

### Ластаўка

**«Адчынім фортачку зімою:**
**А можа, ластаўка ўляціць?»**
**(Аляксей Пысін)**

*Усе ластаўкі сёння за морам.*
*Ці лёгка за морам жыць?*
*Мараю, не, марою*
*Чужая зямля ляжыць.*

*Цёпла. Але не цешыць*
*Гэтая цеплыня.*
*Ластаўка вострым ценем*
*Рэжа далоні дня.*

*І цяпельца не грэе крылы.*
*Горла сціскае крык.*
*Родную зямлю ўкрые*
*Воўчы снег баравы.*

*Ластаўка, сваё сэрца*
*Да вясны прыгартай.*
*Не карыся зіме і смерці —*
*Пры-ля-тай!*

* * *

*Чатыры дарогі — і кропка адліку.*
*Бачу сем спакус сваіх,*
*Сем поўняў вялікіх.*
*Чатыры дарогі. Скрыжаванне.*
*Агнём у целе:*
*«Ты песень хацела?*
*Чаму тваё песні*
*Душу ўжо не песцяць?»*
*Бо кропка адліку —*
*Вусцішная і вялікая...*

* * *

*Дабраславі жыццё,*
*зялёная старонка,*
*Дзе хмарак чарада*
*зямныя сны сную.*
*На крылах цішыні*
*спявае сэрца звонка*
*Пра тое, што было*
*і будзе ў мяне.*
*Дабраславі людзей*
*такіх балюча-родных.*
*Вучыцца даравацъ*
*мы будзем пакрысе,*
*Знаходзіць чарназём*
*сярод пустынь бясплодных,*
*Якімі сорак год*
*вадзіў сірот Майсей.*
*Мы з розных берагоў,*
*але народзяць нівы,*
*Пад ветрам зашумяць,*
*дадуць свае хлябы.*
*Напіцца цішыні*
*і быць з таго шчаслівай...*
*Дабраславі, зямля,*
*і навучы любіць.*

* * *

*Далей, далей ад шэрых плошч,*
*Да знічак на вадзе.*
*Алівы кветку птушка-ноч*
*Мне на далонь кладзе.*

*І там, дзе горкая трава,*
*Дзядоўнік і палын,*
*Крыніцам вочы адкрываць,*
*Як лепшы успамін.*

*Мяне чакае сто дарог*
*І родная — адна.*
*Яе для мужных Бог збярог,*
*Хто горыч піў да дна.*

# Пляц

## Фрагменты аповесці



Лявон ВАЛАСЮК



— Страявым будзеце ў мяне хадзіць вакол стала, а потым — на пляц! — ля дзвярэй службовага памяшкання чарцёжнікаў нечакана пачуўся пагрозлівы крык палкоўніка Шарбакова, які нядаўна толькі быў прызначаны новым начальнікам Аператыўнага ўпраўлення Штаба Паўднёвай групы войск замест былога — франтавіка — палкоўніка Кывабока.

Твар Шарбакова быў шэра-фіялетавы на фоне белых дзвярэй, маршчыністы і непрыемны ад злосці. Да таго ж новы начальнік насіў акуляры, якія даводзілася яму час ад часу папраўляць, бо ад крыку яны злязалі на кончык вялікага носа.

«Добра пачынае!» — падумаў прапаршчык Казараў, азіраючыся па баках, нібыта баючыся, што нехта падслухае яго думкі... Казарава на службу ў Венгрыю ўладкаваў палкоўнік Кывабок — яны разам працавалі ў Генштабе ў Маскве.

Усе васьмёра салдат-чарцёжнікаў і прапашчык Казараў сталі па стойцы «смірна», папраўляючы рамяні, зашпільваючы гузікі і каўнерыкі «хб».

Чарцёжнікі наструнена чакалі далейшага развіцця падзей. У летнюю спякоту цяжка было працаваць зашпіленым на ўсе гузікі і кручкі ў цесным памяшканні, дзе не было нават вентылятара. Адчыненыя вокны не ратавалі ад душнага паветра. Гарачая летняя пара рабіла сваю справу.

Папярэдні начальнік дазваляў салдатам адчуваць сябе вольна. Нават аднойчы загадаў прапаршчыку Казараву, каб той заняўся пашывам лёгкага адзення для працы ў задуху. Ды толькі Іван Васільевіч не зусім сур'ёзна паставіўся да яго даручэння: масквіч, ён у свае трыццаць не супраць быў выпіць, гульнуць ды і да працы быў не вельмі ахвочы. Словам, прапаршчык!..

Салдаты-чарцёжнікі, людзі ў асноўным бывалыя, займалі трэці паверх штабнога будынка. Ніжэй пад імі знаходзіліся кабінеты камандуючага групай войск і начальніка штаба, іншых старшых афіцэраў... Паміж ваеннаслужачымі склаліся добрыя адносіны, таму прыход палкоўніка-навічка ў Штабе ўспрынялі насцярожана: палкоўнік Шарбакоў, прайшоў слух, прыехаў з Масквы пасля заканчэння вучобы ў Акадэміі Генштаба на службу за мяжу за генеральскай зоркай. А ягонае яўнае салдафонства не стасавалася са штабным этыкетам...

Яўген, салдат апошняга года службы, усміхнуўся сам сабе, успомніўшы словы «пляц» яшчэ з «грамадзянкі». У яго пагранічным горадзе над Бугам на Пляц у гарадскім парку хадзілі на танцы. Там заўжды было весела ад музыкі, ад знаёмстваў з дзяўчаткамі, ад сустрэч з сябрамі-таварышамі...

— Салдат, а вы чаму ўсміхаецеся?! Служба вельмі салодкая? Дык я вам арганізую з гэтага дня!.. — палкоўнік збіраўся яшчэ нешта пагрозліва выкрыкнуць, але раптам затрашчаў тэлефон. Прапаршчык кінуўся да яго, спытаў у палкоўніка дазволу і падняў трубку. Хвіліну слухаў, а пасля адрапартаваў: — Будзе зроблена, таварыш генерал! — Казараў запытальна паглядзеў на палкоўніка, які пакрычаў яшчэ колькі хвілін для парадку і з каменным выглядам выйшаў з чарцёжкі, пакінуўшы дзверы адчыненымі. Праз іх можна было пабачыць вартавога з аўтаматам.

Іван Васільевіч голасна хмыкнуў, з сур'ёзным выглядам твару зачыніў дзверы і пакруціў пальцам ля скроні: усё і так зразумела...

...Валера Шавейка лічыўся добрым гітарыстам яшчэ падчас вучобы ў школе, а калі паступіў у будаўнічы інстытут, то і там не згубіўся. У інстытуце быў свой музычны калектыў «Залатая сярэдзіна», куды і паспрабаваў уладкавацца першакурснік. Яму гэта ўдалося. Так і пачалося студэнцкае жыццё-быццё на музычным фоне...

Добрай практыкай і заробкам для студэнта была праца ў вакальна-інструментальным ансамблі, які іграў у парку на танцавальнай пляцоўцы, карацей, на Пляцы... Вось там ужо хлопцу хапала ўсяго: музыка гучала, песні спявалі, а дзяўчаты выкрыквалі словы кахання.

Рэдкі вечар абыходзіўся без боек. За імі можна было спакойна назіраць, стоячы на сцэне. Заўжды на танцах было шмат знаёмых. Сумаваць не даводзілася і пасля танцаў: гарадскія прыгажуні насілі на руках.

Валера вылучаўся ростам, чорнымі смалянымі валасамі і спакуслівымі вусамі. Дзяўчаты нярэдка нават рабілі «разборкі» паміж сабою: хто пойдзе з Валерам пасля танцаў?.. Так працягвалася амаль да заканчэння інстытута, пакуль на пятым курсе студэнт-музыкант не ажаніўся перад абаронай дыпломнага праекта, перад размеркаваннем на працу... Хаця якая там магла быць праца, калі «свяціла» служба ў войску.

Са службай хлопцу пашанцавала: трапіў за мяжу, што было цікава і нечакана, дазваляла пабачыць невядомы куток еўрапейскай зямлі...

Да таго ж патрапіў на службу ў асобны ўзвод, дзе было шмат землякоў-беларусаў, нават з аднаго горада. З імі Валера наладзіў добрыя сяброўскія адносіны, бо інакш і не магло быць! Амаль кожны тыдзень ён пісаў жонцы лісты. Здаралася, што і тэлефанаваў, калі выпадала такая магчымасць...

З Валерам Шавейкам Яўген сутыкнуўся нечакана: яны сядзелі побач у салдацкай сталоўцы. Валеру толькі-толькі перавялі служыць у асобны ўзвод з роты аховы. І толькі другі ці трэці раз ён трапіў у батальённую сталовую. Адзін з салдат тым часам няўдала перадаваў яму ў абед бачок з гарачым баршчом і выпадкова перакуліў. Што там адбылося!.. Амаль завязалася б гарачая бойка, калі б не паспелі расцягнуць у розныя бакі.

Так і звярнуў Яўген увагу на новага салдата, запытаў: хто такі?.. І атрымаў у адказ: твой зямляк!..

На пачатку траўня, амаль перад самай дэмабілізацыяй, з Масквы, з Генштаба, прыехаў з праверкай генерал-лейтэнант Убалінс. Высокі, моцнага целаскладу, сур'ёзны мужчына ў ідэальна падагнанай форме ўражваў сваім выглядам. Сапраўдны генерал, ды і толькі.

Яўген за час службы ў Штабе бачыў шмат самых розных генералаў, і сваіх, і маскоўскіх. Быў адзін, які знешнасцю паходзіў на калгаснага брыгадзіра, былога суседа дзядзьку Міколу: невялічкага росту, з чырвоным носам, з прыязнай усмешкаю... Падобнага генерала ніколі не забудзешся, а вось такіх як Убалінс... дык і глядзець у іхні бок страшна.

Адразу ж былі падняты па трывозе два танкавыя палкі з канечным выхадам на баявыя пазіцыі на ваенны палігон ў Хаймашкеры. Ноччу прадбачылася баявая трывога і выезд у вучэбны цэнтр.

У вучэбным класе на трэцім паверсе штаба пачалася «вайна»: чарцёжнікі склеілі патрэбную карту, над якой пачалі працаваць два палкоўнікі Аператыўнага ўпраўлення, падключыўшы да справы і Яўгена. Яму, якому заставаліся лічаныя тыдні да звальнення, давялося выконваць дэмбельскую, альбо як за мяжой у савецкім войску гаварылі, «дзямобную», працу.

На вячэру Яўгену яшчэ дазволілі схадзіць, ну а ўжо потым, да ранку, давялося гнуць спіну над картаю, наносячы аператыўныя дадзеныя па руху танкавых батальёнаў да палігона.

Пад ранак у вучэбны клас завітаў прадстаўнік Масквы генерал Убалінс з новым начальнікам Аператыўнага ўпраўлення палкоўнікам Шарбаковым.

— А дзе палкоўнік Гасцюгін? — з парога запытаў Шарбакоў.

— Захварэў!.. — адказаў адзін з афіцэраў.

— А хто аператыўную карту вядзе? — працягваў дапытвацца Шарбакоў.

— Радавы Касцюк!..

— ???

— Салдат, колькі працуеш над картаю? — запытаў начальнік Аператыўнага ўпраўлення ў Яўгена.

— З вечара...

— Дык ты ўжо пэўную ўзнагароду заслужыў за працу! — з непрыязнай усмешкаю сказаў палкоўнік. — Нечарговы водпуск атрымаеш!

— Мне хутка звальняцца ў запас! — адрэагаваў Яўген.

— Шкада... А мо застанешся яшчэ на год вольнанаёмным?.. Створым спрыяльныя ўмовы! — палкоўнік меў нейкі разгублены выгляд. Ён не чакаў ад радавога такой штабной якаснай працы.

Шарбакоў павярнуўся да генерала Убалінса, які разглядваў карту: — Якія далейшыя распараджэнні?

Генерал Убалінс падняў галаву, глянуў на палкоўніка Шарбакова і сказаў:

— Салдату прысвоіць палкоўніка і адправіць на службу ў Маскву, у Генштаб!..

Асобны ўзвод, у якім служыў Яўген, размяшчаўся ў старой драўлянай казарме, якіх у батальёне сувязі было некалькі. Аднапавярховыя, пафарбаваныя ў цёмна-чырвоны колер, падобныя на звычайныя таварныя вагоны, яны былі выцягнутыя ў даўжыню. А мелі ўваходы з абодвух бакоў альбо пасярэдзіне. Жыві, нясі службу ды хадзі ў сталоўку тры разы на дзень...

У Яўгенавай казарме ўваход быў з фасаду. Узвод займаў дзве трэція плошчы будынка. Навокал казармы раслі высокія ліпы, бярозы і клёны. Было відаць, што будынкі старыя, бо калі нехта з салдат ад дрэннага настрою раптам біў нагою па сцяне, дык здавалася, што казарма можа развaліцца.

Гаварылі, што казармы былі тэрмінова пабудаваны пасля восеньскіх падзей у Будапешце ў 1956 годзе — Будапешцкай рэвалюцыі. Яшчэ казалі, што на першых салдат-пасяленцаў у гэтых казармах знянацку ўначы напалі мадзьяры. Шмат нашых хлапчукоў загінула. З таго часу не-не, ды і ўспаміналі ў батальёне пра той выпадак. А калі нехта з салдат губіў пільнасць, дык камандзіры падраздзяленняў напаміналі пра восень 56-га і пра тое, як трэба сябе паводзіць на тэрыторыі братняй дзяржавы...

Аднойчы зімовым вечарам, перад самым адбоем, здарыўся выпадак, які парушыў спакойнае жыццё ўзвода. Пачуліся стрэлы з боку галоўнай вуліцы, дзе знаходзіўся кантрольна-прапускны пункт батальёна. Стрэлы былі падобныя на аўтаматныя чэргі. Хлопцы як па камандзе пападалі на падлогу. Некаторыя нават аказаліся і пад ложкамі. Днявальнаму загадалі выключыць святло.

Была зіма, глыбокі снег. Тыя, хто наважыўся глянуць у акно, мог пабачыць пастаці вайскоўцаў, водбліскі агню... Днявальны патэлефанаваў на вузел сувязі, але дзяжурны нічога дакладнага не сказаў.

Днявальны па абавязку службы вымушаны быў «зрабіць вылазку» і разведаць сітуацыю. Пайшоў, аглядваючыся на дзверы, і хутка вярнуўся задаволены, з усмешкаю на твары:

— Пажар у вагончыку будаўнікоў. Нехта пакінуў запаленую цыгарэту, альбо нешта іншае. Шыфер страляе. Дзяжурныя з роты аховы прымаюць меры...

Служба працягвалася. А правільней — блізілася да свайго фінішу. У апошнія паўгода яшчэ больш прыемна было атрымліваць лісты ад родных і сяброў, абмяркоўваць з імі хуткае вяртанне ў бацькоўскі дом. Шкада толькі, не ўсе лісты можна было захаваць: не тыя ўмовы ў войску, тым больш — за мяжою! А так хацелася, так хацелася!..

Сябар-аднакласнік, які служыў у марфлоце, перад звальненнем Яўгена атрымаў чарговы водпуск. Абазначылася магчымасць пабачыцца праз два гады службы. І таму цяпер усе намаганні Яўгена былі накіраваны на тое, каб як мага хутчэй вярнуцца дамоў. У яго сітуацыі заставалася толькі звярнуцца да намесніка начальніка Аператыўнага ўпраўлення штаба.

Палкоўнік Нізоў уважліва выслухаў просьбу салдата і адразу патэлефанаваў генералу Каманенка — начальніку войск сувязі Групы. Той быў не супраць, тым больш што дэмабілізацыя ўжо пачалася.

Калі праз паўгадзіны прапаршчык Казараў накіраваўся з тымі, хто вяртаецца ў Саюз, у краму па дзямобныя падарункі, кампанію перастрэў запыханы прапаршчык Емец з вузла сувязі. Той задаволена-шчаслівы крыкнуў:

—Касцюк, ты заўтра адпраўляешся дамоў!.. — і пабег далей, шчаслівы тым, што менавіта яму генерал даручыў перадаць гэтую навіну...

Палкоўнік Варапаеў, начальнік аператыўнага аддзела, патэ-

лефанаваў у чарцёжку і паклікаў Яўгена да сябе ў кабінет.

— Я выйду на паўгадзіны, а ты прыбяры крыху: прыедуць афіцэры з венгерскага Генштаба. У мяне з імі рабочая сустрэча: трэба як след сустрэць, пакінуць добрае ўражанне: Еўропа. Потым яшчэ ты мне спатрэбішся, далёка не адыходзь.

З начальнікам аператыўнага аддзела Яўген супрацоўнічаў працяглы час, калі так можна сказаць. Палкоўнік цалкам давяраў Яўгену, таму часцяком прасіў працаваць з картамі і рознымі схемамі. Размаўлялі і на простыя жыццёвыя тэмы: пра родных, пра радзіму, пра будучае жыццё.

...Салдат быў у чаканні, і ўжо праз хвіліну пасля таго, як прагучаў тэлефонны званок, быў у кабінеце начальніка.

За сталамі сядзелі венгерскія афіцэры, якія раней вучыліся ў Акадэміі Генштаба ў Маскве, ажыўлена размаўлялі з Варапаевым на рускай мове. Яўген павітаўся, спытаў у палкоўніка:

— Што мне трэба зрабіць, Мікалай Мікалаевіч?..

— Прысядзь пакуль, папі «Кока-колы». Мы яшчэ крыху пагаворым, а калі госці пойдуць, прыбярэш са сталоў.

Афіцэрам захацелася пагаварыць з Яўгенам: іх цікавілі ўражанні ад службы, ад Венгрыі і Будапешта. Ад сустрэчы з Варапаевым у іх быў добры настрой. А калі даведаліся, што Яўген збіраецца пасля службы вучыцца на архітэктара, што яму вельмі падабаецца архітэктура Будапешта і краіны, дык весела загаманілі, выказваючы добрыя пажаданні салдату. Варапаеў ледзь супакоіў іх, паказваючы на гадзіннік. На тым і разышліся, а Яўген пачаў прыбіраць, чакаючы гаспадара кабінета, які абяцаў вярнуцца праз паўгадзіны...

Да Кіева і з Кіева давялося ляцець з трыма хлопцамі-землякамі, якія ўвесь час драмалі, а Яўген не мог нават заплюшчыць вочы. Прызямліліся ў старым аэрапарце: толькі пыл паляцеў ва ўсе бакі. За трое сутак хлопцы былі стомлены, толькі вочы гарэлі агнём: мы ўжо дома! Пашанцавала і з машынаю: мужчына на службовым УАЗіку падвёз да аўтавакзала, дзе і развіталіся, раз'ехаліся ва ўсе бакі. Яўген на апошні рубель узяў таксі і хутка быў дома.

На другі дзень ён паехаў у процілеглы бок горада перадаць жонцы Валеры Шавейкі пасылку з рэчамі для маленькай дачкі.

Дзверы адчыніла чарнявая дзяўчына ў светлай сукенцы, усміхнулася добразычліваю белазубаю ўсмешкаю. «Нібы мадзьярка-прыгажуня!» — падумаў Яўген, зачараваны дзявочай прыгажосцю.

— А Наталля дома? — запытаў.

— Праходзьце! Я пра вас ведаю! А Наталля чакае ўжо з учарашняга дня!..

На ўтульнай верандзе дома стаяла ў чаканні Яўгена маладая светлавалосая жанчына з дзіцём на руках. Яна адразу запрасіла прысесці на канапу, а сама хуценька знікла...

— А як вас называць, шаноўная пані?!. — весела запытаў Яўген у дзяўчыны, якая аказалася сястрой Валерыя. — Валера мне гаварыў пра вас, але імя не называў. Пэўна, не хацеў, каб я ведаў!..

— Ён добры брат! — усміхнулася Святлана, сядаючы насупраць Яўгена. Яе доўгія смаляныя валасы цяжка ляжалі на аголеных плячах. — А я заканчваю школу. Буду паступаць у інстытут: той, дзе вучыўся брат.

— Вось там і будзем сустракацца! — весела адказаў Яўген і глянуў на Наталлю, якая з'явілася ў дзвярах з бутэлькаю шампанскага, талеркаю з бутэрбродамі і цукеркамі.

— Уладкоўвайся добра, зараз адзначым тваё вяртанне. Дзякуй, што так хутка прыйшоў з пасылкаю. Вы, пэўна, ужо пазнаёміліся: гэта Святлана, сятра майго мужа. Добрая дзяўчына, раю вам пасябраваць!..

— Поўнасцю згодны. Асабліва, калі табе дарагое тое, чаго чакаеш... Наталля, а я цябе памятаю па Пляцы! — Яўген уважліва глядзеў на жонку Валерыя-музыканта.

Ён адразу пазнаў яе, калі толькі пабачыў. І адразу нешта прыемна-салодкае кальнула пад сэрцам: дыхнула веснавым паветрам тых незабыўных вечароў у парку. Яна спадабалася яму адразу, як толькі ўпершыню запрасіла на танец...

Мінула больш за два месяцы пасля вяртання Яўгена з войска. Пачаліся ўступныя экзамены ў інстытуце. Паспяхова быў здадзены першы: вынікі вывесілі пад вечар на дошцы для аб'яў. З двума новымі знаёмымі Яўген паехаў у цэнтр горада прагуляцца. Потым пацягнула на Пляц: хацелася зняць напружанне. Гэта ўдалося, бо сустрэў знаёмых дзяўчат-сябровак...

Калі пасля танцаў ужо набліжаліся да цэнтральнай вуліцы, то ззаду пачуўся гул легкавой машыны: то была міліцэйская, з капітанам за рулём. Яўген з сяброўкамі крыху адышлі ўбок. Капітан спыніў машыну:

— Чаму дарогу не саступаеце міліцыі?!. — пагрозліва выкрыкнуў кіроўца з акруглым, чырвонага колеру тварам.

— Дык на спіне вачэй няма! Ды і можна было не спяшацца ехаць праз натоўп! — у добрым настроі з усмешкай адказаў Яўген.

— Не трэба было з ім размаўляць! — заўважыла светлавалосая Валянціна і дадала: — Вось пабачыш, будзе чакаць наперадзе! Я іх ведаю, служак!..

— А я адвык ад іх за два гады ў войску! Венгерскія паліцыянты паважаюць мясцовых. Там у паліцыю выбіраюць лепшых!

— То там! А ў нас зусім па-іншаму! — дадала Таццяна, якая ўвесь гэты час маўчала.

— А вось і машына! — упаўголаса прагаварыла Валянціна.

Капітан ужо чакаў Яўгена, які так непаважліва аднёсся да заўвагі.

— Сядай у машыну! Паедзем у аддзяленне для размовы! — выкрыкнуў міліцыянт, накіроўваючыся да Яўгена і яго кампаніі.

— Не бачыш, што я заняты! — весела адказаў хлопец, асабліва не звяртаючы ўвагі на словы капітана. — Я трэці дзень як з войска, а ты турбуеш мяне невядома чаго. Займіся лепш больш патрэбнай справай!

— Сядай у машыну! — яшчэ больш пагрозліва скамандаваў капітан і схапіў Яўгена за локаць.

— О-о!!! Гэта ўжо перавышэнне ўлады! — Яўген крутнуўся і вызваліў руку. — Вось зараз тут не хапае твайго начальніка. Няхай бы пабачыў, як ты сябе паводзіш!

Капітан накінуўся на Яўгена, нібыта каршак на здабычу. Далейшае развіццё падзей не абяцала нічога добрага.

— Згодны, едзем! Толькі да аператыўнага дзяжурнага: хай выклікае тваё начальства і разбіраецца з табою! — Яўген ледзь стрымліваў сябе. Паступленне ў інстытут... Усё магло накрыцца «медным тазікам». Ды і ўвогуле, пэўны досвед у яго ўжо быў.

Дзяжурны міліцыянер адвёў Яўгена ў памяшканне часовага затрымання, дзе ўжо знаходзіліся некалькі чалавек рознага ўзросту.

Хлопец зняў плашч, паклаў ля сцяны на вольнае месца на драўляным узвышэнні, падобным на сцэну Пляца, прылёг супакоіцца і крыху адпачыць, наколькі гэта магчыма ў ягоным выпадку.

...Зранку нейкі старшы лейтэнант павёз Яўгена ў суд, які размяшчаўся недалёка ад гарадскога аддзялення міліцыі. Суддзя быў адзін у невялікай зале, куды амаль адразу зайшоў і капітан-сусед, які пачаў распранацца, дэманструючы нібыта пастаўленыя Яўгенам сінякі.

— Нічога падобнага не было! Ніякай бойкі! Я ішоў з дзяўчатамі з танцаў, пакуль капітан не прыпыніўся і не прапанаваў праехаць у аддзяленне. — Яўген стараўся гаварыць спакойна, хоць у душы кіпела.

Суддзя, чалавек гадоў пяцідзесяці, спыніў свой погляд на міліцыянце:

— Усё залежыць ад вас: абмяжуемся папярэджаннем ці дамо па поўнай.

— Таварыш капітан, — Яўген нечакана звярнуўся да міліцыянта «па форме», — прабачце за ўчарашнее: не стрымаўся! Больш ніколі не буду ўступаць у спрэчкі з міліцыяй! Мне неабходна рыхтавацца да экзаменаў.

Капітан, зважаючы на такі паварот справы, паблажліва прагаварыў:

— Таварыш суддзя, хай здае свае экзамены! Не будзем пакуль псаваць майму «хросніку» настрой!.. Хай жыве!..

Атрымаўшы штраф у дваццаць пяць савецкіх рублёў, Яўген пайшоў дамоў адпачываць і рыхтавацца да наступнага экзамена... Грошы давялося пазычаць, каб маці не даведалася пра здарэнне.

...Кастрычніцкай раніцай, паснедаўшы, сівавалосы мужчына з добрым настроем сеў за камп'ютар. У яго ўжо ўвайшло ў звычку рабочы дзень маладога пенсіянера пачынаць з працы за камп'ютарам: праглядаў навіны, нешта друкаваў. То была, так бы мовіць, ранішняя зарадка-размінка. Асабліва спяшацца куды-небудзь на пачатку дня не даводзілася: абавязковыя справы ў архітэктурным бюро чакаліся бліжэй да абеду.

Так, ён нядаўна, больш за год ужо як стаў пенсіянерам: паспеў «ускочыць» у апошні вагон пенсійнага цягніка, як і жонка Святлана...

Нечакана ўвагу Яўгена Іванавіча зацікавіла звестка пра шасцідзесяцігоддзе падзей у Будапешце. Так, гэта было ў кастрычніку 1956 года. У апошні дзень месяца дэманстранты акружылі будынак будапешцкага гаркама партыі, які лічыўся аплотам кансерватараў. Спачатку яны хацелі толькі «разагнаць сталіністаў». Але нечакана пачаліся стрэлы, на пляцы з'явіліся параненыя і забітыя. Раз'юшаны натоўп уварваўся ў гаркам і расправіўся з дваццаццю камуністамі, у тым ліку і з першым сакратаром Імрэ Мезе.

Па ўсім Будапешце пачалі лавіць і вешаць на дрэвах афіцэраў дзяржбяспекі, якіх пазнавалі па аднолькавых жоўтых ботах, якія тады выдавалі ў гаспадарчым упраўленні. Гэтыя падзеі ўстрывожылі Маскву. Але хто тады даў каманду страляць, невядома і да гэтага часу. Па некаторых дадзеных, правакацыю ўчынілі венгерскія чэкісты. Ад



такіх службоўцаў усяго можна было чакаць. Узброеныя сілы Савецкага Саюза былі прыведзены ў поўную баявую гатоўнасць: баяліся, што за Венгрыю заступяцца заходнія дзяржавы. Кіраўніцтва СССР не выключала прымяненне ядзернай зброі, але гэта азначала б пачатак Трэцяй сусветнай вайны... У адрозненне ад «Пражскай вясны» 1968 года, венгерскія падзеі не абыйшліся без баёў і крыві. Маршал Іван Конеў прымяніў тую ж тактыку, што і пры штурме Берліна ў 1945-м: кінуў на вузкія вулачкі вялікага горада вялікую колькасць танкаў. Абаронцы Будапешта закідвалі іх «кактэйлямі Молатава» і абстрэльвалі з верхніх паверхаў будынкаў. За тры дні загінулі 2652 венгры і 640 савецкіх ваеннаслужачых, было многа параненых. Дваццаці шасці савецкім афіцэрам і салдатам за ўдзел у неабвешчанай вайне было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Больш за 800 чалавек вывезлі ў савецкія лагеры і турмы, каля 13 тысяч кінулі ў палон на радзіме. Цікава, што ні адзін венгерскі салдат у час памятных падзей не перайшоў на савецкі бок...

Пасля прачытанага згадалася Яўгену Іванавічу і жнівеньская падзея 68-га: Прага, Чэхаславакія. На той момант быў на канікулах у вёсцы ў дзеда з бабуляю. І калі пачалі ляцець цяжкія савецкія самалёты ў адным накірунку, вяскоўцы захваляваліся: нешта здарылася сур'ёзнае. Ім прыпомніўся 41-ы, пачатак вайны. Тады, у 68-м, пачалі браць былых вайскоўцаў у «партызаны». Паціху даведаліся людзі пра падзеі ў Чэхаславакіі — у асноўным з радыё і газет, з рэдкіх у людзей тэлевізараў. Інфармацыя давалася тая, дзяржаўная, а значыць, не зусім поўная і дакладная. Такая, якая была патрэбная кіраўніцтву савецкай дзяржавы.

Мужчына разглядваў фотаздымкі, чытаў тэксты. Да драбніц прыпомнілася тэрміновая служба ў Венгрыі, у Будапешце. Пашанцавала: трапіў у Еўропу праз жалезную заслону. Апынуўся, можна сказаць, у іншым свеце. Прыгадаліся светлыя і цёмныя бакі той службы... Многа давялося пабачыць і перажыць. Ды толькі ў маладым узросце ўсё пераносілася лёгка, без асаблівай напругі. Каб яшчэ не сум па родным доме.

Звальняўся ў 76-м мінулага стагоддзя, чатыры дзясяткі гадоў прайшло. Як хутка прабег час, як шмат чаго памянялася...

Вярнуўся са службы, паступіў у інстытут на любімую спецыяльнасць. Але заўжды трымаў у сэрцы памяць пра службу ў Венгрыі. А перад вачыма на сцяне ў пакоі нязменна вісіць каляровы партрэт знакамітага венгерскага паэта Шандара Пэтэфі, сімвала нацыі, які з шабляю ў руцэ загінуў ад кап'я расійскага казака ў час вызваленчай барацьбы за незалежнасць краіны ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя. Пад яго засяроджаным поглядам і пражыў ужо больш за сорак гадоў...

А калі ў святочныя дні ў парку гучала музыка, дык прыпамінаўся Пляц, які пакінуў асаблівы след з гадоў маладосці і сама назва якога нясе глыбокі сэнс.

**2016 г.**

# Кракаўскі ровар

Андрэй ХАДАНОВІЧ

### Новая Гута. Пралог

*Ляцеў праз Ціхі акіян,*
*заблытаўся ў чужой валюце.*
*Хацеў у Новы Арлеан,*
*а прызямліўся ў Новай Гуце.*

### Кракаў. Музей Manggha

*Звіняць званы на Вавелі,*
*ўпадае Вісла ў кому...*
*Што ў піва мне дабавілі,*
*не раскажу нікому.*

*Звіняць на Вавелі званы,*
*даўно пара з музею.*
*А экспанат — такі п'яны,*
*што Вісла цверазее.*

### Планты. Завея. Канец красавіка

*У Кракаве бэз, дзьмухаўцы і цюльпаны,*
*і лавачка ў гонар Рамэна Гары.*
*А я на той лаўцы драмаю, заспаны,*
*і бабка-бамжыха мне кажа: «Стары...».*

*У Кракаве снегам заносіць каштаны,*
*засыпала бэз, замяло дзьмухаўцы.*
*А я ў той завеі лячу, апантаны,*
*і бабка-бамжыха гаворыць: «Капцы...».*

***

*Цёплыя падворкі*
*выпілі дажджы.*
*Распускаюць пёркі*
*лярвы і бамжы.*

*Птушачкі-малечы*
*гадзяць на дзятву,*
*але ўсё на плечы,*
*не на галаву.*

*За акном паненкі*
*ладзяць саўндчэк.*
*Кашляе з-за сценкі*
*перакладчык-чэх.*

*Бо даўно старога*
*муза б'е па лбе...*
*Пачакай нямнога,*
*прыйдзе й да цябе.*

### Рынак. Мар'яцкі сабор

*Кракаўскія галубы*
*побач з Мар'яцкім саборам*
*затуркаталі хорам:*
*«Больш не трэба трубы!»*
*А гракі ўсчалі грай:*
*«Грай, гэйнал, грай!»*

### Рынак. Помнік Міцкевічу

*Ты асцярожней, стары,*
*з рыфмай, півам і кпінамі:*
*класікі бачаць згары —*
*вечназялёнымі спінамі.*

### Планты. Помнік Крэўскай уніі

*Ля помніка ў гонар хаўрусу*
*між Польшчаю і Літвою*
*віленскі дзед беларусу*
*кіўнуў сівой галавою.*

*Шклянку дастаў з кішэні.*
*Скардзіцца, што херова:*
*кепскае спалучэнне —*
*«світурыс» і «выбарова».*

### «Вяселле». Кінатэатр «Кіеў»

***Анджэю Вайду***

*У кіно, на бясплатным сеансе,*
*афрыканец-турыст плача ў трансе:*
*«Прапілі край, свабоду і сцяг...*
*Але Польшча... б'ецца ў грудзях».*


Андрэй Хадановіч

### Персідская ружа. Пляц Шчэпаньскі

*П'яны скінхэд з марозівам:*
*шчасце цячэ*
*з вачэй.*
*Не апісаць у прозе вам.*
*Вершам — яшчэ*
*лягчэй.*

### Вуліца Крупніча, 22

*Дзе паэт-хірамант падшафэ*
*зачароўваў вазніцу і дрожкі,*
*сёння ў модным веганскім кафэ*
*п'юць-ядуць... і не смачна ні трошкі.*

### Такса. Вуліца Дзітля

*Левы бот абсікала такса.*
*Гаспадар папрасіў паўбакса.*
*Я даю беларускі «рэ».*
*Не бярэ.*

***

*Забыўшы пра печань і печаю,*
*аслеп ад красы юных полек —*
*і клеіў іх скочам, старэнькі П'ю,*
*амонімны алкаголік.*

### Майскія

*Кракаўскія вальпургіі лётаюць*
*на парасонах.*
*Хто завітаў апрануты,*
*выйдзе ў адных кальсонах.*

*Хочаце зведаць вечнасць*
*за адзін эпізод,*
*выглядаць на пятнаццаць,*
*маючы ўсе пяцьсот?*

*Дык не праходзьце міма,*
*кракаўскай Малгажатаю*
*спакушаюцца майстар*
*і вагонаважатая.*

*Ёсць тры ночы на шабаш —*
*і гудуць малайчыны...*
*Перш чым прыйдуць да Бога,*
*Гонару і Айчыны.*

**30 красавіка — 3 траўня**

### Казімеж. Страшылкі

**1.**
*Няверны каханак шукаў*
*уначы банкамат.*
*Прыватны агент на каханка*
*шукаў кампрамат.*
*Штось фоткаў... Ахоўнік-гэбіст*
*не шукаў яго стужку,*
*а ўсіх househo наматаў на вінтажную*
*фотакатушку.*

**2.**
*Два бамжы за булку б'юцца*
*ля прытулку...*
*Шызая галубка выхапіла булку.*
*Кулакоў — чатыры,*
*сківіцаў — чатыры...*
*Бедны сімвал міру, супакойся ў міры!*

### Кракаўскі мінімалізм

*На вуліцы Святога Станіслава*
*я п'ю ваду Святога Станіслава.*

*Бабулька па суседстве кліча ўнучку,*
*а іншая бабуля кліча сучку.*

*Абедзвюх, уявіце, клічуць Стася...*
*Здаецца, мая раніца ўдалася.*

***

*Так чхаю — аж чуваць*
*за сценкаю суседцы,*
*што кажа: «Будзь здароў!» —*
*у сацыяльнай сетцы.*

***

*Не апошні дармаед неба і зямлі,*
*віртуальных салаўёў кормячы*
*tut.байкамі,*
*паляваў на сэрцы... Многія былі*
*абы-як пастаўленымі лайкамі.*

***

*У Кракаве, на шумным пляжы Багры,*
*разбэшчаны народ шалее без Віягры.*
*Пад Скаламі ж Твардоўскага —*
*блакітна і празрыста:*
*відаць, як вадзянік схапіў аквалангіста.*

### Кракаўскі ровар

***(Дарослая версія)***

*Помні, турыст-паэт —*
*горшы за проста турыста!*
*Так заслухаўся спевам*
*з музычнай школы,*
*што пайшоў на чырвонае й*
*збіў раварыста —*
*дзядзечка паляцеў трамваю пад колы.*

*Добра, кіроўца трамвая*
*не слухаў спеў.*
*Затармазіць паспеў.*

*Раварыст засадзіў у вуха,*
*сам атрымаў па шыі.*
*Разам пайшлі на піва.*
*Усё-такі ж не чужыя.*

*Думаў, усё абышлося. Насамрэч — не.*
*Бо ў паэта цяпер штоночы ровары ў сне.*

*Сніць, што ў дзіцячым садку*
*на ровар трохколы*
*сеў і наехаў на нянечку.*
*Тыдзень без пепсі-колы.*

*Сніць, быццам дзень народзінаў.*
*Падарункі — акей.*
*Паабяцалі ровар.*
*Купілі настольны хакей.*

*Сніць, што падвозіць суседку —*
*і ўсё на мазі.*
*Цемра. Канава. Крыкі:*
*«Не тармазі, тармазі!».*

*Сніць Амстэрдам з чырвонымі*
*ліхтарамі.*
*Едзе паўз прыгажуняў,*
*а сам — дзяўчынка на раме.*

*Сніць, што заехаў у лес,*
*папугай падперазаны.*
*Ён акупант. Напярэймы яму —*
*партызаны.*

*Сніць, што наперад*
*вырваўся ў велагонцы:*
*вецер гудзе ўвушшу,*
*спіцы блішчаць на сонцы,*

*ды перад самым фінішам —*
*хтосьці пад колы,*
*зачараваны спевам з музычнай школы.*

### Самакат

***(Дзіцячая версія)***

*Мама, дагані*
*Супер-самакат!*
*Правілы гульні —*
*Хутка й наўздагад!*

*Ты давай бягом,*
*Я ж палёт люблю:*
*Адштурхну наском*
*Ад сябе зямлю.*

*Я магу без рук,*
*Вунь да тых алей!*
*Упаду на брук —*
*І лячу далей.*

*Тармазоў няма,*
*Толькі ветру свіст.*
*Ад мяне дарма*
*Уцякаў турыст.*

*Мой жалезны конь,*
*Я на ім — казак.*
*У драпінах далонь,*
*На ілбе гузак.*

*Хай нагу нацёр,*
*Гонячы балід, —*
*Быў я каскадзёр,*
*А не інвалід.*

*Сонца ў вышыні.*
*Травень уваччу.*
*Мама, дагані!*
*Я яшчэ хачу!*

**Красавік–чэрвень 2017, Кракаў**

# Сваяк

## (Словы пра мастака Толю Александровіча)


Адам ГЛОБУС

### Паста з гуталінам

Толя Александровіч расказваў, як яму ў дзяцінстве хацелася маляваць фарбамі, навыцісканымі з цюбікаў. У сапраўдных мастакоў, на думку пяцікласніка, фарбы павінны захоўвацца ў цюбіках, а не ў баначках і ванначках. У нашым Койданаве такіх фарбаў не прадавалі, таму Толя ўзяў у работу цюбікі з зубной пастай і цюбікі з гуталінам. Паста была белая і салатная, «Памарын» і «Лясная». Гуталін быў чорны і брунатны. Гэткімі «фарбамі» Толя напісаў на кардонцы, выразанай са скрыні для абутку, партрэт суседскага сабакі Арсіка. Сабака атрымаўся падобны, нават вочы ў яго паблісквалі так, нібыта яны жывыя. Карціна, створаная з пасты і гуталіна, пражыла не вельмі доўга, яна хутка высахла, пасівела і паабсыпалася, але першая гульня ў дарослага мастака ў Толі Александровіча атрымалася на выдатна.

### Капейкі

Бацькі кожную нядзелю давалі Толю дзесяць рублёў. З дзясяткай ён ехаў з Койданава ў Мінск, дзе займаўся ў мастацкай вучэльні. Пакуль Толя хадзіў у вучэльню і інстытут, ён жыў у кватэры маіх бацькоў. Разам з Толям я пражыў у адным пакоі восем гадоў. Гэта шмат, калі прыняць той факт, што найлепшае ў чалавека — дзяцінства. Калі Толя меў штотыднёвыя дзесяць рублёў і штомесячную васямнаццацірублёвую стыпендыю, дык мне давалі ў школу пятнаццаць капеек на дзень. Даводзілася падзарабляць. Я збіраў і здаваў бутэлькі, хадзіў па крамах па пакупкі, каб пакінуць сабе капеечную рэшту. Грошы ў мяне — школьніка — былі заўсёды. У Толі яны часцяком у чацьвер ці пятніцу сканчаліся. Ён пазычаў у мяне рубель ці пяцьдзясят-семдзесят капеек, абяцаў у панядзелак вярнуць. У панядзелак пазыка пераносілася на наступны тыдзень. Толя большасць з пазык не вярнуў. Мне іх не шкада. Зазвычай, у мяне вялікія праблемы з людзьмі, якія не вяртаюць грошы; а тут ну зусім не шкада тых папазычаных капеек і рублёў.

### Высоцкі

У свае студэнскія часы скульптар Вова Жбанаў быў вясёлым Санча Панса з Цівалёў пры Дон Кіхоце з Койданава, пры графіку Толю Александровічу. Яны былі вясёлай парай, яны былі любімцамі тэатральна-мастацкай публікі. Яны захапляліся тэатрам і кіно. Яны так любілі кіно і кінаартыстаў, што паехалі ў Маскву знаёміцца з Уладзімірам Высоцкім. Яны нават пазнаёміліся з народным кумірам — Сымонавічам. Падыйшлі да яго і пазнаёміліся. Ён папрасіў хлопцаў злётаць у гастраном па віно. Яны прынеслі бутэльку. Высоцкі правёў іх за сцэну. Вова і Толя прастаялі за сцэнаю ўвесь спектакль. Яны пратрымалі бутэльку ў руках увесь час, пакуль ішла п'еса. Пасля Высоцкі выпіў са Жбанавым і Александровічам. Выпіў і развітаўся. Апавяданне пра падарожжа ў Маскву і знаёмства з Высоцкім я выслухаў разоў са сто, а можа і больш. Я выслухаў гісторыю і ад Толі Александровіча, і ад Вовы Жбанава. Я так наслухаўся пра непараўнальнага Сымонавіча, што на нейкі час узненавідзеў Высоцкага. Калі той памёр, я быў якраз у Маскве, праходзіў перадыпломную практыку ў Строганаўскай вучэльні, але на пахаванне не пайшоў. І Жбанаў, і Александровіч, і шмат хто, вельмі здзівіліся, што я быў у Маскве, калі хавалі Сымонавіча, але не пайшоў з ім развітвацца. Не мой ён герой. Не мой. Чужы. Толя Александровіч і Вова Жбанаў — мае героі.

### KINO

«KINO» — польскі часопіс, што прадаваўся ў мінскіх «саюздрукаўскіх» кіёсках за савецкім часам. Каб набыць часопіс, трэба было прыходзіць раніцай пад адкрыццё кіёска і ведаць дзень, калі часопіс прывязуць. Яшчэ варта было мець папярэднюю дамову з кіяскёршай, каб яна не выставіла «KINO» на вітрыну, бо нехта іншы мог схапіць каштоўны часопіс. «KINO» прадавалася па блаце. Блат меў Толя Александровіч, калі Толі не было ў Мінску, я хадзіў у шапік каля кінатэатра «Перамога» і выкупляў чарговы нумар. Чорна-белыя здымкі друкаваліся аксамітнай фарбаю. Яны здзіўлялі кантрастамі і глыбінёй. Толькі самыя каштоўныя здымкі там былі вялікія каляровыя і з агаленымі акторкамі. У імперыі, дзе эротыка і парнаграфія жылі пад забаронай, мець фота з агаленымі кінадзівамі было сапраўднай раскошай. Яны радавалі, яны абуджалі пажаду, яны клікалі ў свет эратычных насалодаў. Яны былі тымі ўзорамі мастацтва, якія моцна паўплывалі на пакаленне маіх раўналеткаў і пакаленне старэйшых братоў. За што мы ўсе і ўдзячныя польскаму часопісу «KINO».

### Таемны партрэт

У розны час самыя розныя віды мастацтваў робяцца моднымі ў шырокіх народных масах. Бывае, што народ захопіцца керамікай, збірае розны посуд і гліняных чорцікаў з конікамі. Здараецца, што захапленне



крышталём робіцца татальным. На нейкі час акварэльныя краявіды ў светлых рамах таксама зрабіліся модна-народнымі. Зрэшты, у кожнай лаўцы з сувенірамі народна-моднага мастацтва поўныя паліцы і вітрыны... Быў час, калі моднай зрабілася чаканка. Ледзь не ў кожнай кватэры над часопісным столікам каля таршэра вісела металічная дзяўчына з металічным сонцам. Мастакі спрабавалі патрафляць у народны густ і пастуквалі да пастуквалі па латунных пласцінах. Што толькі не вычаканьвалася на тонкім метале? Львы, сабакі, каты, аголеныя дзяўчы, ягіпецкія багі, сонцы з месяцамі... Толя Александровіч вычаканіў партрэт свайго куміра — Уладзіміра Сымонавіча Высоцкага з сямиструннай гітарай. Чаканнага Высоцкага ён змясціў у шырокую раму з дошак, апрацаваных паяльнай лямпаю і лакам. Такая апрацоўка дошак тады называлася «Ворагі спалілі родную хату». Чаканны Уладзімір Высоцкі вісеў на гарышчы ў койданаўскім доме Александровічаў. Толькі вельмі блізкія да Анатоля людзі маглі палюбавацца шэдэўрам. Напэўна, і цяпер той партрэт усё яшчэ вісць на гарышчы ў койданаўскім доме, што стаіць на вуліцы Чапаева.

### Пятроў-Водкін і Саламаткін

Толік прыйшоў дамоў у кепскім настроі. «Што?» — пытаюся. «Не здаў іспыт па расійскаму мастацтву. Не змог адказаць». — «Пераздасі». — «Канечне пераздам. Крыўдна, што адно пытанне з трох я добра ведаў. Трэцяе пытанне было пра творчасць Пятрова-Водкіна. Я ж яго выдатна ведаю, і «Чырвонага каня», і «Смерць камісара». Першае пытанне было пра гуртоk «перасоўнікаў». Таксама можна было нешта нагаварыць. Але я прагарэў на другім пытанні пра мастака Саламаткіна. Пра такога я першы раз на іспыце і даведаўся. Яго прозвішча пішацца ў адно слова — Саламаткін. А я прачытаў ў два — Сала-Маткін. Мяне ўзяў смех. Спрабую нешта казаць — і не магу. У галаве толькі Сала-Маткін і Пятроў-Водкін... Эльмарт Адэльбертавіч Петэрсон мяне з іспыта выгнаў». Чамусьці мне было не смешна, бо я падумаў, што Толя жартуе з мяне, бо не можа быць мастака з такім брыдкім прозвішчам, як Сала-Маткін. Толю нават давялося мне паказваць сваю залікоўку, дзе не было адзнакі па расійскім мастацтве. Каб яшчэ больш не растройваць старэйшага чалавека, я нават зрабіў выгляд, нібыта паверыў у існаванне Сала-Маткіна. Толькі па-сапраўднаму паверыў я ў яго існаванне на наступны дзень, калі ў бібліятэцы прачытаў энцыклапедычны артыкул пра расійскага жывапісца-перасоўніка Леаніда Саламаткіна.

### Бондар і званы

У літфункцыянеркі Тасі Бондар меўся ўлюбёны выраз: трэба біць у званы. Трэба біць у званы, бо культура гіне. Трэба біць у званы, бо руйнуецца архітэктура! Трэба біць у званы, бо гіне цывілізацыя!!! Бондар гаварыла гучна, гаварыла раскацістым голасам, у нечым падобным да груганавага. Тасю было чуваць здалёк. Яе змагарства за цывілізацыю, насамрэч, было пустазвонным. Дзякуючы папуліцкім выказванням і нахабнаму імпэту, Тася замацоўвала сябе ў структуру дзяржаўнай машыны. Бондар прагла ўлады, а калі яе атрымлівала, паводзіла сябе з падначаленымі жорстка. Аднаго разу я прысутнічаў на абмеркаванні малюнкаў, зробленых для азадаблення часопіса «Беларусь». Малюнкі тыя зрабіў Толя Александровіч. Тэхнічны рэдактар няправільна разлічыў колькасць тэксту на старонцы, і адзін з малюнкаў атрымаўся завялікі. Бондар схапіла малюнак і адарвала палову. Рваць чужы твор напалам яна лічыла цалкам нармальным і натуральным у сваім працоўным працэсе. Толя збялеў сцяўся, сагнуўся, але не выказаў абурэння варварскімі паводзінамі Тасі Бондар. Я сказаў, што варта было памяншыць шрыфт і крыху скараціць тэкст, а не рваць добры малюнак. На што Бондар парыравала: «Я крыху скараціла малюнак!» А каб зняць гнятлівае напружанне, яна высока ўскінула сваю вяліканосую галаву і зарагатала.

### Свет

Памёр Толя Александровіч (06.01.1953–26.05.2017). З ім я пражыў у адным пакоі цэлых восем доўгіх, якія бываюць толькі ў дзяцінстве, гадоў. Ён быў для мяне старэйшым братам і настаўнікам у свеце мастацтва. Дзякуючы яму я паступіў у мастацкую вучэльню і стаў прафесійным мастаком. Без яго свет стаў горшым.

> **Яны так любілі кіно і кінаартыстаў, што паехалі ў Маскву знаёміцца з Уладзімірам Высоцкім. Яны нават пазнаёміліся з народным кумірам — Сымонавічам. Падыйшлі да яго і пазнаёміліся. Ён папрасіў хлопцаў злётаць у гастраном па віно. Яны прынеслі бутэльку. Высоцкі правёў іх за сцэну**

### Маці

За адзін тыдзень некалькі разоў у мае сны прыходзіла нябожчыца маці. Двойчы яна з'яўлялася разам з бацькам. Нешта казала, нешта паказвала ў нейкім часопісе. Прачнуўшыся, я не мог згадаць іх словы, не мог прыгадаць і паказанае ў часопісе. Так здараецца, што ты спрабуеш згадаць сон цалкам, а ён помніцца адно фрагментамі. Маці хацела папярэдзіць мяне. Калі пабачыў белы матчын твар, з якога цяклі чорныя слёзы, я нават спалохаўся. Слёзы цяклі не з яе блакітных вачэй, а цяклі яны са шчок пад вачыма. Густыя, як нафта, слёзы пакідалі на бялюткім твары чорныя рагі... Была ў мяне здагадка, што нябожчыкі прыйшлі па некага мне блізкага, прыйшлі, каб забраць да сябе нашага сваяка. І ўсё адно, прачытаўшы чорную навіну пра смерць Толі Александровіча, я гучна на ўсю майстэрню сказаў: «Не!»

### Шапкі

Толя любіў стыльныя шапкі. У мастацкую вучэльню ён хадзіў у брунатнай вельветавай фуражцы з чорным лакіраваным брылём. Тую стыльную фуражку яму сяброўкі прывезлі з Тарту. У студэнтаў тамтэйшага ўніверсітэта былі, ці не ў адзіных на ўсю імперыю, форменныя фуражкі. На пачатку семідзесятых гадоў гэтыя прасценькія фуражкі лічыліся ў маладых людзей самымі моднымі з мужчынскіх галаўных убораў. Такая ж брунатная фуражка была і ў Вовы Жбанава, я пра падобную раскошу на галаве нават марыць не наважваўся. Апошні раз я бачыў Толю ў чорнай вязанай шапцы. Падумалася, што шапка простая, але цёплая і стыльная. Яшчэ падумалася, што ў наступную нашу сустрэчу мы абавязкова спынімся і загаворым. Мы ж не ведалі, што бачымся ў апошні раз. Не ведаю, пра што падумаў Толя ў час нашай апошняй выпадковай сустрэчы каля крамы «Акадэмкніга», а я падумаў пра цёплую шапку.

# Пташнікаў

Андрэй ФЕДАРЭНКА

— Я тройчы сталічны чалавек, — казаў ён. — Нарадзіўся ў Плешчаніцах, вучыўся ў Лагойску, жыву ў Мінску; а так як у Беларусі тры сталіцы: Мінск, Лагойск і Плешчаніцы, то…

Да вайны ён паспеў скончыць тры класы пачатковай школы. Потым — вайна, блакада, хаванне ад немцаў па лясах і балотах, голад, холад (у 2002 годзе я пачуў ад Ніла Гілевіча, што «Пташнікаў амаль усё жыццё з адной ныркай», — несумненна, вынік таго ліхалецця). Далей біяграфія даволі роўная: з сярэбраным медалём закончыў школу, журфак, рэдактарская праца.

Чым ён цікавіўся, акрамя літаратуры і прыроды? Наколькі памятаю, ён не быў ні рыбаком, ні грыбовікам, ні паляўнічым; праўда, яго неадночы бачылі на чыгуначным вакзале ў дажджавіку і з заплечнікам, але, хутчэй за ўсё, ён проста ездзіў пабыць сам-насам з любімай прыродай. «Як распавядаў празаік Анатоль Казлоў, — пісаў Ціхан Чарнякевіч, — Пташнікаў раіў «неафітам», якія неслі ў «Полымя» свае першыя творы, пачынаць з апісальнай тэхнікі: сядаць у лесе ці ў лузе ці папросту на траву ля дома і апісваць тое, што бачыш — як мага больш падрабязна й дакладна фіксаваць найменшыя зрухі быцця».

Не любіў кампаній і чарак. Абыякавы быў да спорту… Раз стаяў, задуменны, каля вакна ў рэдакцыі, барабаніў пальцамі па папцы з чужымі рукапісамі.

— Пра што вы думаеце, Іван Мікалаевіч?

— Пра Анжаліку Варум. Якое дзіўнае прозвішча — чаму. І не такая яна ўжо таленавітая, як з ёю носяцца.

— Ува мне памёр вялікі нерэалізаваны вандроўнік, — казаў у другі раз. — Так я люблю дарогу, новыя мясціны — і нідзе не быў! Адзін раз у жыцці ездзіў за мяжу, у Беласток, на два тыдні, потым раман хацеў пра гэта пісаць…



**Іван Пташнікаў.** Фота з архіва «Мастацкай літаратуры»

Уладзімір Дамашэвіч у рамане «Камень з гары» вывеў яго пад прозвішчам Драздоў.

«Здаецца, не чытаеш, а бачыш малюнак — так ён мог перадаць прыроду. Часам гэтым сваім умельствам Драздоў злоўжываў, і прырода паглынала чалавека, як вялікі лес».

Я б яшчэ дадаў — прырода ў яго творах часта не толькі паглынае герояў, а ўвогуле як бы існуе асобна ад іх. Такое адчуванне, што яму зусім няважна, чыімі вачыма яе апісваць: партызана ці паліцая, падперазанага пілою леспрамгасаўца, вясковага шафёра ў мазутнай «фуфайцы», капітана энкавэдэ Дувалава ці мінскага летуценнага паэта.

Ён не заўсёды паспявае за сваімі героямі. Яны як бы ідуць сваёй дарогай, а аўтар — сваёй: то збоку, то ззаду, увесь час затрымліваючыся, каб апісаць яшчэ іншымі фарбамі пейзаж, кветку або птушку. У яго занадта роўны, запавольны і ад таго крыху аднастайны стыль, які ўмоўна можна назваць «рэтраспектыўным» — гэта калі героі знаходзяцца ў цяперашнім часе, а падзеі адбываюцца ў мінулым (адзін з любімых яго прыёмаў, напрыклад, такі: «Падае снег. Падаў ён і тады, калі…»).

Затое там, дзе героі і прырода па шчаслівай выпадковасці супадаюць, атрымліваюцца такія рэчы, як «Лонва», — на маю думку, самая лепшая яго аповесць. Галоўны герой — таксатар, чалавек, праца якога звязана з лесам, з прыродай, таму любыя адступленні на гэтую тэму натуральныя і дарэчныя.

«Лонва» нечым нагадвае «Людзей на балоце». А можа, і не нечым, а пісалася пад яўным уплывам вялікага рамана. «Людзі на балоце» надрукаваны ў «Полымі» ў 1961-м, «Лонва» — у тым жа «Полымі» ў 1964-м, гераіню «Лонвы» Жэньку дражняць Чарнушка, нават пачаткі падобныя: «Хаты стаялі на востраве» — у Мележа; «Яны доўга стаялі на шашы» — у Пташнікава.

Тут ён цалкам у сваёй стыхіі. Жнівень, вечар, вясковы двор, туман, камарыны звон, вогнік, каля якога двое, на цаглінках у чыгуначку варыцца бульба, і плаўна цячэ апавяданне — не так і важна, пра што.

«Агонь гарэў недалёка ад студні з новым сасновым зрубам. Студню правілі, відаць, зусім нядаўна. На двары пахла яшчэ смалой, ля зруба не абтаптаўся жвір — яго было высока насыпана, і ён разносіўся нагамі па ўсім двары».

«Ад лесу відаць была добра ўся Лонва — стаяла на шырокіх і цвёрдых тут грудзях зямлі; здавалася, яе нішто не можа зрушыць з пагор'я і сапхнуць да ракі, дзе ніжэй, дзе лог і балота; здавалася, яна тут прырасла навек да зямлі, і зямля без яе — не зямля, і лес без яе — не лес».

Яго апісанні прыроды можна цытаваць і захапляцца імі да бясконцасці.

Яшчэ «Лонва» — адзін з лепшых у беларускай літаратуры твораў пра каханне, хаця там на 250 старонках няма ніводнага пацалунка.

Галоўнаму герою, таксатару Завішняку, 25 гадоў, яго практыкантцы і патаемнай каханай (той самай Жэньцы-Чарнушцы) максімум 16: першы курс тэхнікума пасля сямігодкі.

«Яна яшчэ дзіця, хоць і студэнтка, дзіця, і недзе зусім лёгенькая…»

Завішняк кватаруе ў адзінокай Грасыльды, Жэнька з сакурсніцай Светай — у суседняй хаце, праз вуліцу. Да таго ж удзень яны ўвесь час разам — мераюць лес на дзялянкі. І гэтая іх блізкасць трымае сюжэт, напаўняе аповесць шчымлівым, празрыстым, жнівеньскім святлом.

«Узяць ды ўскудлачыць яе густыя валасы, якія яна расчэсвае ў лесе, кожны раз, калі можна. Яна любіць іх. Але яна не ведае, што яны пахнуць…».

Неяк пад настрой я цытаваў яму цэлыя кавалкі аповесці, называў імёны і прозвішчы: Чаркашына, Грасыльду, Парыпана, Акцызніка… Іван Мікалаевіч слухаў — не слухаў, а плыў — з асалодаю, з падзякаю, з адабрэннем кожнага слова, нібы гэта не ён напісаў, а слухае чыёсь чужое, усклікваў:

— Так, так… Быў такі! Ох, цікавы чалавек!.. — папляскаў мне плячо, нават адвярнуўся і нібы няўзнак выцер вочы.

Я сказаў, што малым быў закаханы ў яго гераіню, толькі не ў ідэйную, строгую і чыстую Жэньку-Чарнушку, а ў маральна-няўстойлівую, даступную бялявую Светку.

— О-о, — адабраючы мой густ, ажывіўся ён яшчэ больш, вочы заззялі; ён нібы ўспомніў пра свавольніцу Светку нешта такое, аб чым не напісаў. — О-о, Светка!..

«Палымянскі» кабінет выходзіў на шумную вуліцу Захарава. Ад метро ў Лінгвістычны ўніверсітэт і назад ішлі дзяўчаты, мільгалі твары і тварыкі, ногі і ножкі. Іван Мікалаевіч глядзеў, потым адрываўся ад вакна, кракtаў і казаў па-руску ўсяго адно слова:

— Весьма!

Да 1990 года я ведаў яго толькі па фотаздымках. Адкрыты лоб, прыгожыя вочы і нечакана тонкія вусны — рэдкасць для вясковага чалавека, прыкмета ганарыстасці, нават пагарды.

Вясной 1990-га, калі мяне яшчэ студэнтам узялі на працу ў «Полымя» і я яго ўпершыню пабачыў, яму было 58 гадоў, і вусны ўжо былі не такія, як на фота, а звычайныя. Байкавая кашуля ў сінія клеткі (сам ён казаў і пісаў толькі «рубашка»), запраўленая ў штаны пад вузкую, зусім вясковую папружку. Сандалі. Белая кепка. Высокага росту, мажны, нетаропкі, знешне крыху нагадвае Янку Брыля. Характарам яны таксама былі падобныя: насцярожанасць спачатку і раскрыццё аж да абдымкаў — потым. Абодвух іх я крыху пабойваўся, ведаючы гэты тып разумных, назіральных, з'едлівых вясковых дзядзькаў. Цяпер, калі сам у іхніх гадах, разумею, што яны так проста абараняліся. Ранімыя, малапрактычныя, сарамлівыя (дарэчы, апошняе ўласціва не толькі Брылю і Пташнікаву, а ўсім без выключэння беларускім пісьменнікам той пары, бо зноўтакі па вясковых мерках што за занятак для здаровага мужчыны — пісаць на паперы літары?).

— Сумна? А я вось трыццаць гадоў тут! Ай-я-яй. Такая вясна на вуліцы, такое жыццё за вакном. Уяўляю, як маладому чалавеку тут сядзець, — і, узяўшы лірычны тон: — Эх, мне б вашыя гады… Пайшоў бы пехам куды вочы глядзяць, па вёсках…

— Прынясі што-небудзь сваё, цікава, як цяпер маладыя пішуць.

Я прынёс недапрацаваную, амаль чарнавік, аповесць «Сінія кветкі».

Іван Мікалаевіч сумленна, з алоўкам, прачытаў дзве старонкі. Узяў чысты аркуш паперы і паклаў побач на стол.

— Не, так не пойдзе. Уяві, што мы блізкія сябры. Сядзім, бутэлька паміж намі, і ты мне расказваеш. Што ты хочаш мне сказаць?

— Ну, хачу сказаць, што… герой з самай раніцы, пакуль мыўся, чысціў зубы, снедаў, не мог адагнаць ад сябе ўспаміну — як ён некалі, маленькі, уцякаў па свежай пакошы ад чмяля і наляцеў на кінутую касу…

Пташнікаў хутка, слова ў слова, запісаў.

— Кінутую касу. Далей.

— …Добра, што быў босы і не мог бегчы на ўсю сілу, а то застаўся б без ног, а тады ж толькі лёгка парэзаўся…

— Парэзаўся. Ёсць.

— …Ён спрабаваў думаць пра штосьці іншае, а ўяўленне ўсё вяртала яго ў той дзень, дамалёўвала тое, чаго не адбылося: як з усяго разгону ён налятае на тонкае лязо, як падрэзваюцца сухажыллі, як палатно амаль перасякае тонкія косці, свішча, залівае ўсё вакол кроў…

— Кроў. Гатова. На! — падаў мне аркушык. — Бачыш — што размазвалася на тры старонкі, можна перадаць трыма нармальнымі сказамі. І далей так пішы: уяўляй, што перад табой самы блізкі чалавек, паміж вамі пачатая пляшка гарэлкі, і ты яму простымі словамі, ціха, няспешна, натуральна расказваеш. Можна нават прагаворваць услых. Сам здзівішся, колькі лішняга слоўнага шалупіння адляціць. — І адразу ж: — Ты скупа пішаш, надта шчыльна, няма дзе алоўку пагуляць. Калі многа тэксту, дык яно і рэдагуецца лягчэй: чык, чык. — Азірнуўся і шапнуў на вуха: — Пакуль я тут, карыстайся момантам. Перадам, што змагу, павучу…

Нават яму, які раскашаваў у беларускай мове, як рыба ў вадзе, часам рабілася ў ёй цесна. Неяк прыйшоў у кабінет, пастаяў і з прыкрасцю прамовіў: «Какой бедный белорусский язык!..» Усе, хто быў у кабінеце, каго раздражнялі яго «драстуйце, відзеў, тапор, скромненька, адуванчык, стул», са зларадствам пераглянуліся — даўно было вырашана, што ён ні многа ні мала не любіць мову. А між тым гэта было сказана менавіта ад празмернай любові. Толькі пасрэдны пісьменнік можа быць цалкам задаволены лексіконам тлумачальнага слоўніка.

Не хапала рафінаванай літаратурнай мовы Мележу. Як ён сам прызнаваўся, «Людзі на балоце» ажылі, задыхалі толькі тады, калі ён пачаў пісаць дыялогі на палескай гаворцы.

Уладзімір Набокаў, гэты чарадзей-лінгвіст, параўноўваючы англійскую і родную рускую, адзываўся зусім не на карысць апошняй, казаў пра яе — «зялёная», называў «не зусім адукаваным, а часам і даволі безгустоўным юнаком».

Сам Іван Пташнікаў быў абсалютным рэкардсменам у беларускай літаратуры па ўжыванні дыялектаў. Калі б іх усе сабраць, атрымаўся б ладны томік. З гонарам расказваў, як яму даводзілася іх адстойваць: «Дамашэвіч усё пагражаў — я вашы плешчаніцкія дыялектызмы і барысаўскія русізмы буду высякаць гэтым вашым «тапаром»»!

Цікава, што ўжываючы мноства ўласных, часта незразумелых нават з кантэксту слоў (што такое ляжэйка, гавыла, глытаўка, дарожніца, дзярнак, додніца? што такое дугаць, гломзаць, ажаргаць, аціляргаваць, выцыўкаць і інш, і інш.?), сам Іван Мікалаевіч быў нецярпімы да дыялектызмаў чужых.

У нас на Мазырскім Палессі ў сакавіку з бяроз «ставяць квас». Іван Мікалаевіч круціў і так, і гэтак, вымаўляў услых, спрабаваў на смак — і такі прымусіў зрабіць унізе старонкі зноску: «ставіць квас» — «спускаць сок».

Пра чалавека, які схуднеў, у нас казалі «высах у цёску». Цёска — вельмі тонкая лучынка. (Дарэчы, ёсць жа ў беларускай мове цясак.). Тое самае — унізе з'явілася зноска: «цёска» — «трэска». Я не змог яму даказаць, што гэта крыху розныя словы.

У мяне было: «мала дзе ён за жыццё папападаў».

— Не, тры па — занадта, — сказаў Іван Мікалаевіч і адно выкрасліў. — Далей, ты пішаш «басанож». А ў вас як казалі?

— Босы.

— Дык так і пішы. Не басанож, а босы, не аголены, а голы. Далей. У вас хіба казалі мезенец?

— Не, пальчык.

— Бачыш, табе і вучыцца не трэба, проста ўспамінай жывую мову, уяўляй, як бы гэта вымавіў вясковы чалавек.

«Каменьку» паправіў на «кавеньку». Тут я ўжо ўзбунтаваўся:

— Не было ў нас ніякіх кавенек, толькі каменькі. І камяня — тое, што ў слоўніках качарга ці чапяла. А куток каля печы, куды ставілася гэтыя вілачнікі,

ёмачнікі, венікі, — па-нашаму не чалеснік, а камешнік.

Гэта не ўратавала мяне ад зноскі: «каменька» — «кавенька»…

Самае пагардлівае яго выказванне пра літаратурны твор было — узровень «Чырвонай змены».

— Баюся разгортваць цяперашнюю кніжку, не магу прачытаць адзін абзац, нават адзін сказ, нават адно словаспалучэнне. Гэта не беларуская мова і не беларуская літаратура; яна можа існаваць, але называць яе літаратурай, ды беларускай… ВыхОдныя, ЧЭцверы, пятнІцы, ніткаў, вусаў, курЫцаў, нОчыў…

Пішуць — штаніна, а па-беларуску гэта калоша, калашына, пішуць шырынка, а трэба — крэсла… Лайном заўсёды была маленькая пасцілка, а ў што гэтае слова цяпер ператварылі? Зліваюць разам «напрыканцы», а чаму? Чым кепска — на канцы, пры канцы, а яшчэ лепш — у канцы? Што такое «падчас» злітна? Узровень «Чырвонай змены». Пачытай любога нармальнага пісьменніка да 1991 года — у яго будзе толькі «ў час».

— Мова развіваецца, Іван Мікалаевіч.

— Бачу, як яна развіваецца…

Чамусьці вельмі не любіў слова «ёмка» ў значэнні «зручна».

— Ёмка тое, чым патэльню бяруць. І больш нічога. А дзяржак для ёмкі — ёмачнік.

Казаў, што ў нашых слоўніках многа неапраўдана падвойных слоў, напрыклад, казлабароднік, дзядоўнік, а людзі кажуць — казлы, дзяды. Або пустазелле, а ў народзе яно — проста зелле.

— Прычым наша зелле — зусім не рускае «зелье». Нядаўна чуў верш: «Дзе ж мне нарваць таго зелля, каб загаіліся раны?» — пішуць, а не ведаюць, што нашым зеллем раны не гояць, яно ідзе кабанам у карыта.

Памаўчаў і падвёў рысу:

— Вось тое, чым мы, пісьменнікі, у рэдакцыях займаемся, гэта і ёсць развіццё мовы. У народзе яна даўно не развіваецца. Мы ж яе абсмоктваем, пераплаўляем, правяраем на зуб…

Калі ж удавалася яму дагадзіць — радаваўся больш, чым свайму ўласнаму. Знайшоў у мяне слова «чарствы», наставіў плюсікаў, усё дапытваўся: знарок так напісана ці памылкова? — можа, хацеў напісаць «чэрствы»? За адно гэтае слова ён гатовы быў даравацъ 150 старонак слабых. Увогуле, ён адзін з усёй Беларусі ацаніў і пахваліў назву маёй аповесці — «Вёска»; яму нават у галаву не прыйшло шукаць тут нешта «бунінскае», ён проста ўслухоўваўся ў гучанне, толькі гэта яго цікавіла, як прозвішча Варум.

Пасля «Вёскі» ён часцей пачаў заходзіць у наш кабінет, даўжэй затрымліваўся. Гаварылі пра пісьменнікаў. Ён хваліў Адамчыка, вельмі цёпла адзываўся пра Караткевіча, з якім жылі на адной лесвічнай пляцоўцы, прыносіў, нібыта каб паказаць, які ў «Валодзькі» почырк, кніжку, падпісаную: «Івану Пташніку, самаму лепшаму сябру, дарагому брату…». (Іван Мікалаевіч ніколі не расказваў і нідзе не пісаў, адкуль узялося «аў» на канцы яго прозвішча.).

Успамінаў Мележа. Калі ў «Полымі» друкаваліся «Людзі на балоце», у аддзеле прозы акрамя Пташнікава працавалі Янка Сіпакоў і Барыс Сачанка. Рэдагаванне Мележа яны называлі «гладзіць кракадзіла». Ён вельмі хваравіта ставіўся да любой заўвагі, нават да коскі. Здаецца, усё зразумела, а ён — «я падумаю, добра, забяру рукапіс дамоў і падумаю». Першае, што казаў, заходзячы ў кабінет: «Ёсць заўвагі? — «Няма, Іван Паўлавіч». — «А гэта што?» — упіваўся вачыма ў рэдкую, адну на пяць старонак, птушачку.

Барыс Сачанка, якому як земляку часцей за іншых выпадала ўлагоджваць «кракадзіла», адказваў: «Вы напісалі «пожня», але пожня — калі зжата, а калі скошана, у нас казалі — «пакоша».

Мележ прысеў, абхапіў галаву рукамі і застыў, нібы здарылася з ім вялікае гора. Потым ціха, пераселым голасам сказаў:

— І ў нас пакоша…

Ён баяўся, што можа забыць жывую мову, перажываў, як гэта ён, па 20 разоў перапісваючы, мог прапусціць хоць косачку. Але ніколі, нават калі была яго праўда, не спрачаўся, забіраў рукапіс дамоў і часцей за ўсё рабіў так, як хацелася рэдактару.

— Пра што вы яшчэ гаварылі? — дапытваўся я.

— Ды пра тое самае, што і мы цяпер — пра мову.

Мележ казаў, што вось пачалі пісаць лужок замест полава, чашка замест кубка. «Усё гэта, можа, драбяза, памылкі, але ж яны фіксуюцца, уводзяцца ў слоўнікі як норма». Наракаў, што сталася з нашымі беларускімі імёнамі, як яны калечацца, а гэта ж таксама наш скарб. Калі людзей усё жыццё звалі Алена і Прахор, то ў чыю галаву прыйшло, што трэба зваць іх Алёна і Прохар? Пайшлі раптам Ялізаветы, Якацярыны, Анатоліі, Юліі, з падвоенымі зычнымі Таццяна, Наталля, Уляна, Анастасія…

Я ўспомніў, што ў самога Пташнікава гераіню завуць Настасея.

— Цяпер бы напісалі Настасься, з разанскай інтанацыяй.

— Але, — згадзіўся Пташнікаў. І раптам ціха заспяваў: — Эх, Настасья, эх, Настасья, отворяй-ка ворота!..

У яго быў прыемны голас і бездакорны музыкальны слых — такі ж, як і літаратурны.

Наколькі адкрыты ён быў са «сваімі», настолькі ж зацінаўся, хаваўся ў панцыр з «чужымі». Анатоль Сідарэвіч успамінаў: «Іван Мікалаевіч быў вельмі цікавы чалавек, але нешта было ў ім таямнічае, ён не адкрываўся цалкам, нешта не дагаворваў, прыхоўваў. Пазбягаў публічнасці. Яго нельга было «раскруціць» на інтэрв'ю».

Сам ён нават як бы хваліўся гэтым:

— За ўсё жыццё, — казаў ён, — не даў ніводнага інтэрв'ю і ні разу не выступіў перад чытачамі!

Яго звышсціпласць, ці, як гэта назваць, даходзіла да таго, што ён не з'явіўся на ўласны 70-гадовы юбілей. Вечарыну ў Доме літаратара вёў паэт Мікола Мятліцкі, на сцэне вісеў партрэт юбіляра, на століку ў вазе сталі кветкі, а дзе быў у гэты час юбіляр і што думаў — невядома.

Аднойчы сказаў з лёгкім дакорам:

— Чаму вы так нясмела пішаце, маладыя? Вам жа ўсё можна, вы ж не мы, каго запалохалі ад пачатку і да канца жыцця.

Калі на маё апавяданне «Бляха», якое яму падабалася, выйшла ў «ЛіМе» нейкая несур'ёзная нават па тых часах, тым больш па цяперашніх, крытыка, ён убег у кабінет з газетаю ў руцэ, узрушаны, устрывожаны:

— Не папускайце! Бо прывыкнуць! Пішыце адказ! Абараняйцеся!

Я нагадаў яму чэхаўскае: нельга пісаць абвяржэнні на крытыку; нават калі пачнуць сцвярджаць, што ты робіш фальшывыя грошы, і тады нельга абвяргаць; адзіны выпадак, калі можна пісаць абвяржэнне, — калі трэба заступіцца за каго-небудзь.

— Ага. А Чэхаву даводзілася абвяргаць не крытыку, а пахвальбу?

— Як гэта?

— Мой «Тартак» расхвальвалі на радыё «Свабода», Станіслаў Станкевіч, а я вымушаны быў гэта абвяргаць. Пісаў у «Голас Радзімы» ліст…

І ўсё ж думаю, што не толькі запалохалі, не адна асцярожнасць была прычынай яго дзіўнаватага, дзікаватага адзіноцтва. Надта самадастатковай была яго проза. Цану сабе ён ведаў. Магчыма, ён проста не хацеў пускаць у свой свет чужых. Бо ўсё ж сказана ў творы. І раскладзена па палічках у рэцэнзіях. Калі чалавек не чытаў, ці прачытаў і не зразумеў, дык якія выступленні, якія інтэрв'ю могуць яго змяніць? Гэта проста не мой, не Пташнікава, чытач. Хай чытае іншых.

Да таго ж і нашы чытачы не заўсёды Алёшы Карамазавы. Калі б не хвароба, не ўзрост, калі ўявіць Івана Мікалаевіча за камп'ютарам — ён мог бы прачытаць пра сябе і такое: «Пасля аднаго сказа Пташнікава больш я ні яго, ні вясковую прозу чытаць не буду, я яе ненавіджу!»; або: «Ці мае Пташнікаў сёння чытачоў і прыхільнікаў, ды і ўвогуле колькі чалавек са 100 апытаных каля ўвахода ў БДУ прызнаюцца, што чулі пра такога?»

Гэта пісалася пры яго жыцці.

У душы ён, канечне, хацеў славы — але такой, якая прыйшла б без усялякіх намаганняў з яго боку, сама сабой ці з дапамогаю ўладаў. Адзін з самых любімых пісьменнікаў Пятра Машэрава, калі не самы любімы, ён да канца жыцця спадзяваўся на цуд: напрыклад, атрымаць званне «народнага», або — яшчэ вышэй — наіўна верыў у нейкую «літаратурную справядлівасць», скажам, у шведскую інстанцыю, якая нібыта тым і займаецца, што вышуквае ў глухіх кутках геніяльных, але сціплых творцаў і выцягвае іх на свет Божы.

Пасля 2002 года яго кумірам стаў нікому раней невядомы Імрэ Картэс.

«Паглядзіце на гэтага венгерца, — узбуджана казаў мне па тэлефоне. — Вайна, разруха, а ён піша сабе ў падвале (так Івану Мікалаевічу ўяўлялася). І вось, у адначассе, сусветнае прызнанне! І так не прападзе ніякі талент, ні пры якіх умовах!»

Па голасе адчувалася, што ён крышку і сябе падстаўляе на месца Картэса.

З гадамі ён пісаў усё лепш. «Львы», «Пагоня», «Арчыбал», «Француажанкі»… І самая апошняя, у 70 гадоў, шэдэўр аўтабіяграфічнай прозы — «Ненапісаная аповесць». Але такіх рэчаў ужо не было каму чытаць, а калі і былі такія, іх словы ўжо нічога не значылі. Пік беларускага літаратурнага адраджэння мінуў, слова «талент» выпала з ужытку, літаратура пачала брацца ў двукоссі і замяняцца «літпраектам», запанавала, як эпідэмія, татальная малапісьменнасць і проста непісьменнасць, нягледзячы на штаты карэктараў і рэдактараў. Плюс вакол яго імені не было легенды. Калі не лічыць містыфікацый з інтэрв'ю і выступленнямі, усё ў яго ішло неяк занадта роўна, гладка, правільна. Ён не быў «пракорам», «апосталам нацыі» (а ў нас ад пісьменніка патрабуюць чамусьці толькі гэтага); тое, што ён самародак, непераўзыдзены мастак, ужо мала каго цікавіла.

Ён сам гэта адчуваў. Прыкладна з 2000 года добрахвотная самаізаляцыя пачала яму крыху надакучваць. Ён нават выступіў на філфаку БДУ. Пра тое выступленне ён, радасны, амаль шчаслівы, расказваў: «Чалавек 200! Поўная зала! Ды ўсе такія маладыя, прыгожыя, ды разумныя, ды ўсе па-беларуску, ды такія цікавыя пытанні… Адзін вельмі сімпатычны хлопец пытае: «За каго вы галасавалі?» — «За Лукашэнку, — адказваю. — І сам, і ўсю сям'ю пераканаў». Мёртвае маўчанне двухсот чалавек. Потым у цішыні дзявочы голас: «А чаму?» Я вінавата развёў рукі: — «Вось цяпер я і думаю, чаму…» У сэнсе, што я, стары дурань, нарабіў. Тут раптам — апладысменты, авацыя!..»

Усё часцей ад яго можна было пачуць, што ён не заўважыў, як прайшло жыццё, што з-за вечнай вясковай асцярожнасці, сціпласці ён так мала ад яго ўзяў.

— Эх, каб можна было вярнуць… Хоць бы даў сабе волю, хоць бы піў, курыў, нават распусьнічаў бы… А так — ну проста няма чаго ўспомніць!

— Усё жыццё адчуванне, што я падманваю людзей, калі яны называюць мяне на вы і па-бацьку, бо які я Іван Мікалаевіч? Я быў і ёсць шасцігадовы Іванко…

Калі інтэрнэт прынёс вестку пра яго смерць, першае, што ўспомнілася, — мост праз Свіслач, на якім ён абдымаў мяне і ўпрошваў не ісці на мітынг; успомнілася, як некалі расказваў, што ў блакаду піў ваду, выціснутую з балотнага моху, і то была «самая смачная ў свеце вада, халодная і кісленькая, з чорнымі макаўкамі». А потым памяць перанесла яшчэ далей, у 1990 год, у самую першую нашу сустрэчу. Чужы кабінет, поўны незнаёмых людзей. Я глядзеў на яго і думаў: які ж ён строгі, суровы з выгляду, які гэта, відаць, бязлітасны, жорсткі рэдактар… Чым яго ўзяць? Як да яго падступіцца? Веснавы ветрык надзімаў фіранкі; каля расчыненага вакна на скразнячку сядзеў нейкі правінцыйны аўтар у вышытай сарочцы і гучна расказваў, як летась, праз тры гады пасля Чарнобыля, у сваёй вёсцы пад Ельскам стаў сведкам крыху вусцішнай з'явы: вялікага рушэння гадаў і земнаводных, яшчарак, чарапах, вожыкаў, мышэй, жаб; усё паўзло, скакала, шчамілася з рэчкі, з поля, з лесу ў двары да людзей, да чыстай калодзежнай вады. Асабліва многа было гадзюк, ды ўсе нейкія рознакаляровыя: шэрыя, чорныя, карычневыя, з узорамі на спінах і без узораў. Страшна было босаму і без дубца выйсці на двор. Куры, пабачыўшы гадзюку, збіваліся ў кучу, сакаталі, выцягвалі шыі, а певень адганяў яе дзюбаю. «І вось, — расказваў аўтар, — на адну я, босы, каля самага ганка, умудрыўся наступіць!» Яна грэлася на сонцы, ці спала, і не ўкусіла толькі таму, што была наетая, — пасярэдзіне было патаўшчэнне, як курынае яйка. Не так ад страху, колькі ад злосці ён знайшоў дубца і засек яе на месцы.

Пташнікава аж перасмыкнула. Ён неяк па-дзіцячы выставіў перад сабой далонь і ўсклікнуў:

— Нашто? Не трэба!..

І ад усёй яго нібыта суровасці не засталося і следу. Першы раз у жыцці я бачыў чалавека, які шкадуе нават гадзюку.

**2017 г.**



І. Пташнікаў, М. Стральцоў, І. Чыгрынаў, В. Адамчык, Б. Сачанка, стаяць В. Каваленка і А Вярцінскі

# Самы высокааплатны пісьменнік — жанчына

**Часопіс «Forbes» склаў спіс самых высокааплатных пісьменнікаў за 2017 год. Рэйтынг, які будзе цалкам апублікаваны ў вераснёўскім нумары, часткова даступны на сайце выдання.**



Узначаліла пералік брытанская пісьменніца Джоан Роўлінг, аўтар патэрыяны. Яна зарабіла 95 мільёнаў даляраў за апошнія 12 месяцаў. Дж. Роўлінг вярнулася на першы радок упершыню з 2008 года.

У рэйтынгу з'явілася яшчэ адна жанчына — брытанка Пола Хокінс, якая стала вядомая дзякуючы раману «Дзяўчына ў цягніку», які быў экранізаваны.

У той жа час з «багатага» спісу зніклі імёны амерыканскага фантаста Джорджа Марціна, чый цыкл кніг «Песня лёду і полымя» лёг у аснову серыяла «Гульня стальцоў», а таксама Джона Грына, аўтара кніг «Вінаватыя зоркі», «У пошуках Аляскі» і «Папяровыя гарады».

Як адзначаюць складальнікі рэйтынгу, творы пяці з топ-11 пісьменнікаў былі экранізаваныя, але асноўную частку заробку ім прынеслі продажы менавіта кніг. Разам гэтыя 11 аўтараў прадалі больш за 30 мільёнаў копій у ЗША за год і атрымалі 312 мільёнаў даляраў.

# 155 гадоў гісторыі Алісы ў Краіне цудаў

**4 ліпеня 1862 года падчас катання на лодцы па Тэмзе і летняга пікніка выкладчык матэматыкі з Оксфарда Чарльз Лютвідж Доджсан прыдумаў і адразу ж расказаў дочкам віцэ-канцлера Оксфардскага ўніверсітэта гісторыю пра неверагодныя прыгоды дзяўчынкі, якая пабегла за белым трусам і нечакана патрапіла праз Трусіную нару ў падземную Краіну цудаў.**

Сёстрам незвычайная казка спадабалася, і яны няспынна патрабавалі яе працягу, а 10-гадовая Аліса папрасіла свайго старэйшага сябра запісаць на паперу аповед пра яе, настойваючы: «І хай там будзе пабольш усякіх глупстваў!»




Ч. Доджсан сеў за рукапіс казачнай гісторыі на наступны ж дзень пасля паездкі і больш падрабязна распрацаваў сюжэт і гісторыю Алісы. Пасля ён адзначаў, што падарожжа ўніз па Трусінай нары насіла імправізацыйны характар і было, па сутнасці, «адчайнай спробай прыдумаць нешта новае». У лістападзе ён ужо больш сур'ёзна заняўся рукапісам, і каб зрабіць гісторыю больш натуральнай, даследаваў паводзіны жывёл, згаданых у кнізе, а таксама зрабіў 38 уласных ілюстрацый да рукапісу.

26 лістапада 1864 года пісьменнік завяршыў працу над першым варыянтам казачнай гісторыі, якая атрымала назву «Прыгоды Алісы пад Зямлёй». Рукапісны сшытак у скуранoй вокладцы быў дасланы Алісе Лiддзел з надпісам «Калядны падарунак Дарагому Дзіцяці ў Памяць пра летнія Дні».

А праз тры гады з моманту ўзнікнення гісторыі ў выдавецтве «Macmillan and Co» выйшла першае выданне кнігі «Аліса ў Краіне цудаў» пад імем Льюіса Кэрала (двайны пераклад імя Чарльза Лютвіджа на латынь і назад на англійскую) з 42 ілюстрацыямі Джона Тэніела. Але перад тым, як рукапіс быў апублікаваны, аўтар павялічыў аб'ём твора да 27,5 тысяч слоў, дапоўніўшы казку эпізодамі пра Чэшырскага ката і Вар'яцкае чаяванне. Сам Доджсан заяўляў, што поспех яго працы заснаваны на дапамозе двух памочніцаў — феі фантазіі і любові да дзяцей.

# Букераўская прэмія-2017

**Штогадовая міжнародная прэмія адзначае лепшы мастацкі літаратурны твор, перакладзены на ангельскую мову.**



Сёлета пераможцам стала кніга Давіда Гросмана «A Horse Walks Into a Bar» («Конь заходзіць у бар»). Пісьменнік разам з перакладчыкам Джэсікай Коэн атрымалі кожны па 50 тысячаў фунтаў стэрлінгаў, і яшчэ па тысячы фунтаў за тое, што патрапілі ў кароткі спіс прэміі.

Давід Гросман — ізраільскі пісьменнік, які піша мастацкія творы, нон-фікшн, а таксама дзіцячыя кнігі. Тэксты аўтара былі перакладзены на 36 моў. Гросман з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх міжнародных прэмій, і не толькі па літаратуры.

Джэсіка Коэн — перакладчыца, нарадзілася ў Брытаніі, але расла ў Іерусаліме. Раней яна пераклала кнігу Д. Гросмана «To the End of the Land». Акрамя таго, на рахунку Дж. Коэн пераклады на ангельскую мову іншых вядомых ізраільскіх пісьменнікаў.

«The Guardian» так напісала пра кнігу «Конь заходзіць у бар»:

«Гэта не проста кніга пра Ізраіль: гэта кніга пра людзей і грамадства, якія перажылі жудасны збой. Часам мы ўспрымаем гэтыя рэчы толькі праз гісторыю — і Гросман, як і галоўны герой яго працы, стаў майстрам праўдзівай аповесці».

Перакладчыца кнігі лаўрэата міжнароднай Букераўскай прэміі Давіда Гросмана Джэсіка Коэн паведаміла, што пералічыць палову належнага ёй грашовага ганарара арганізацыі «Бецэлем» — ізраільскай некамерцыйнай установе, якая займаецца зборам інфармацыі аб парушэннях правоў чалавека на акупаваных і анэксаваных Ізраілем тэрыторыях (Усходні Іерусалім, Галанскіх вышынях, Заходнім беразе ракі Іярдан і Сектары Газа) ды пра аналагічныя парушэнні на тэрыторыі Ізраіля).

# «Па Русі з Максімам Горкім»

**Як паведаміла прэс-служба адміністрацыі Ніжняга Ноўгарада, распрацоўваецца літаратурны турыстычны маршрут па месцах Максіма Горкага.**



Першы турыстычны маршрут «Па Русі з Максімам Горкім» пачнецца ўжо восенню. Раней Дзяржаўным музеем А. М. Горкага быў атрыманы прэзідэнцкі грант у памеры мільёна расійскіх рублёў на рэалізацыю музейна-турыстычнага праекта.

Прапанова ніжагародцаў аб стварэнні музейна-турыстычнага маршрута па біяграфіі пісьменніка ўхваліла Міністэрства культуры Расіі на пасяджэнні аргкамітэта па падрыхтоўцы святкавання 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніка, якое будзе адзначацца ў наступным годзе. Цяпер ідзе актыўная праца з тураператарамі і музеямі гарадоў Расіі, якія ўвойдуць у маршрут.

Галоўную ідэю праекта складае «вандраванне па біяграфіі» вядомага ніжагародскага пісьменніка, знаёмства з яго творчай спадчынай, асяроддзем, якое паўплывала на станаўленне характару Аляксея Пешкава і творчага стылю Максіма Горкага. У маршрут уваходзяць аглядная экскурсія, дзве тэматычныя экскурсіі на выбар і тэматычная культурная праграма літаратурна-тэатральнай накіраванасці па чатырох гарадах: Маскве, Ніжнім Ноўгарадзе, Казані і Арзамасе. Агульны кошт рэалізацыі праекта — 1,9 мільёнаў расійскіх рублёў, з якіх за 1 мільён — згаданы грант прэзідэнта Расіі, а астатняя частка выдаткоўваецца са сродкаў гарадскога бюджэта.

## Прабачэнне за Салжаніцына

30-га чэрвеня 1989 года Саюз пісьменнікаў СССР афіцыйна прызнаў, што ў 1974-м была здзейсненая памылка, калі Аляксандра Салжаніцына выключылі з арганізацыі. Рашэнне было адменена.

Што ж адбылося за пятнаццаць гадоў да публічнага прабачэння? Незадоўга да гэтага ў Парыжы быў апублікаваны першы том «Архіпелагу ГУЛАГ». А. Салжаніцына выслалі з Савецкага Саюза. З гэтага моманту пачаўся эміграцыйны перыяд біяграфіі пісьменніка, які працягнуўся да 1994 года.

На наступны дзень пасля дэпартацыі пісьменніка загадам начальніка Галоўнага ўпраўлення па ахове дзяржаўных таямніц у друку пры Савеце міністраў СССР было абвешчана «аб канфіскацыі з бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі твораў Салжаніцына А. І.». Знішчаліся нумары «Новага мира» з апавяданнямі апальнага празаіка. Знішчаўся надрукаваны першы нумар часопіса «Роман-газеты» за 1963 год з «Адным днём Івана Дзянісавіча», а таксама выданні для сляпых «Учпедгиз» і пераклады на эстонскую і літоўскую мовы.

# Вайна з класікамі?

**Як паведаміў старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута рускай літаратуры РАН Аляксей Балакін, у бібліятэкі Архангельскай вобласці паступіла сакрэтнае распараджэнне прыбраць з паліц кнігі, атрыманыя ў межах праграмы «Сельская бібліятэка» Інстытута «Адкрытае грамадства».**

«Да асобага распараджэння» ў бакоўку складваюць кнігі Пушкіна і Дастаеўскага, Чэхава і Прышвіна, Салжаніцына і Астаф'ева, Чукоўскага і Кэрала, Лотмана і Пуцілава, кнігі выдавецтваў «Росмэн» і «Тэра», «Азбука» і «Молодая гвардия», кнігі серый «Школьная бібліятэка» і «Жыццё выдатных людзей», ілюстраваныя дзіцячыя энцыклапедыі «Аванта+» і філасофскія працы, мемуары і шэдэўры сусветнай паэзіі.

Па словах А. Балакіна, бібліятэкарам сказалі, што кнігі выдадзеныя забароненай у Расіі арганізацыяй. Як патлумачыў А. Балакін, насамрэч інстытут «Адкрытае грамадства», які належыць Фонду Сораса, купляў іх у іншых выдавецтваў, а потым рассылаў у сельскія бібліятэкі. На гэтых кнігах стаіць штамп арганізацыі. Паводле інфармацыі крыніцы «Радыё Свабода», «іх масава прывозілі да нас у пачатку 2000-х, потым размяркоўвалі па ўсіх бібліятэках». Распараджэнне «адбіраць» кнігі прыйшло з міністэрства культуры Архангельскай вобласці. Супрацоўніца бібліятэкі дадала: «У спіс рэкамендаваных да канфіскацыі патрапілі Пушкін, Дастаеўскі, Чэхаў, Талстой, вельмі шмат дзіцячай літаратуры, нават Карней Чукоўскі. Да нас школьнікі прыходзяць цяпер са спісамі літаратуры, рэкамендаванай да чытання на лета, а мы ім іх не выдаём»...

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by



Фота www.northcountrypublicradio.org

# Каталонія згубіла шанец на незалежнасць?

Алег НОВІКАЎ

**Тэракты ў Барселоне негатыўна паўплывалі на планы хуткага абвяшчэння незалежнасці Каталоніі.**

Ёсць думка, што ўсе існуючыя палітычныя мапы Еўропы можна смела выкідаць у сметніцу. Бо яны не будуць адпавядаць рэальнасці праз адсутнасць на іх выявы незалежнай каталонскай дзяржавы, якая, па планах, павінна з'явіцца ўжо на пачатку кастрычніка — па выніках адпаведнага рэферэндуму. Хаця сацыёлагі не даюць адназначнай перамогі незалежнікам, іх шанцы лічацца вельмі высокімі.

Праўда, цяпер лепш казаць «лічыліся». Пасля трагедыі 17 жніўня, калі ў Барселоне ісламскімі тэрарыстамі забіта каля 20 чалавек, энтузіязму наконт хуткага абвяшчэння незалежнасці стала заўважна менш.

Справа не толькі ў маштабнай піяр-кампаніі ў цэнтральных іспанскіх медыя, якія намагаюцца трактаваць праявы чалавечай салідарнасці простых іспанцаў на адрас каталонцаў як знак спрадвечнага адзінства пірынейскіх народаў. Па слядах тэрактаў мусіруецца думка, што каталонцы пераацанілі магчымасць рэгіянальных структур выконваць функцыі органаў незалежнай дзяржавы. Асноўны аргумент тут — шэраг праваляў у працы рэгіянальнай паліцыі (Mossos). Ледзь не год таму мадрыдскі офіс МУС заклікаў каталонскіх калег перакрыць спецыяльнымі бар'ерамі доступ машынам на пешаходную вуліцу Las Ramblas (менавіта тут 17 жніўня тэрарыст забіў людзей). Аднак барселонскія ўлады чамусьці пакінулі папярэджанне без увагі.



Фота www.alamy.com

Другі відавочны пракол Mossos тычыцца выбуху ў доме аднаго з джыхадыстаў, дзе рыхтаваліся тэракты. Замест таго, каб дакапацца да прычынаў выбуху, супрацоўнікі Mossos спісалі інцыдэнт на разборкі паміж вулічнымі бандамі наркадылераў.

**Паколькі сярод іспанскіх сілавікоў хапае фанатаў фашысцкага дыктатара Франка, не выключаюць, што тыя таксама ведалі пра падрыхтоўку да тэрактаў, нічога не зрабіўшы, каб іх папярэдзіць**

Цікава, што з тэзісам пра нізкі прафесіяналізм каталонскай вертыкалі пагадзілася частка сепаратыстаў. Дарэчы, апошнім часам рэнегатаў у гэтым лагеры становіцца ўсё больш. У ліпені адбыўся дзяжурны ўнутраны канфлікт, калі адна з фракцый заклікала да адтэрміноўкі рэферэндуму з прычыны яго слабай легітымнай базы і цяперашняй пазіцыі Брусэля. Еўрасаюз настроены крытычна адносна прызнання вынікаў рэферэндуму, а існаванне Каталоніі па-за межамі еўрапейскай садружнасці пакуль выглядае ўтапічна.

Не толькі адсутнасць моцнага сілавога блоку робіць незалежную Каталонію мішэнню для баевікоў так званай «Ісламскай дзяржавы». Іспанскія медыя нагадваюць, што ўся каталонская эканоміка трымаецца на турызме, імідж якога лёгка разбурыць за кошт некалькіх тэрактаў, падобных на тыя, што мелі месца. Такі сцэнар пагражае калапсам для мясцовай эканомікі: крыніц фінансавання нерэнтабельнага сектару, якому для аднаўлення турпатокаў патрэбны час, банальна не будзе.

Нацыяналістаў прымушаюць нервавацца і гістарычныя аналогіі. Тое, што адбылося ў Барселоне, да болю нагадвае падзеі 11 сакавіка 2004-га на мадрыдскім вакзале «Аточа», які ўзарвалі ісламісты. Акрамя вялікай колькасці ахвяраў (каля 200 чалавек), выбух на станцыі меў тэктанічныя палітычныя наступствы: цалкам перафарматаваў тагачасную выбарчую парламенцкую кампанію. У выніку замест трыумфу кансерватыўнай Народнай партыі перамогу на выбарах нечакана святкавалі сацыялісты. Галасуючы за левых, іспанцы хацелі пакараць «народнікаў» за тое, што тыя праспалі вылазку ісламістаў, а таксама спрабавалі павесіць усю адказнасць на баскскіх тэрарыстаў.

Што кажуць на гэта паслядоўныя аматары незалежнасці? Іх левая фракцыя сцвярджае, што ісламскае ўзброенае падполле — гэта з'ява, характэрная сучаснай Іспаніі. А вось у незалежнай Каталоніі мусульмане, маўляў, стануць белымі і пухнатымі, паколькі грамадства будзе пабудаванае на больш дэмакратычных і сацыяльна-справядлівых прынцыпах. Пры такой мадэлі ісламская моладзь зможа лягчэй атрымліваць адукацыю, працаўладкоўвацца, то бок інтэгравацца ў соцыум, а не займацца тэрарыстычнай канспірацыяй.

Вельмі нязручная па часе для незалежнікаў вылазка тэрарыстаў камусьці падаецца і падазронай. Хаця на цяперашні дзень ёсць толькі адна зачэпка. Быццам бы, група барселонскіх неанацыстаў, якія традыцыйна выступаюць супраць сепаратызму, ведала пра тое, што купка ісламскіх радыкалаў рыхтуе тэракты. Паколькі сярод іспанскіх сілавікоў хапае фанатаў фашысцкага дыктатара Франка, не выключаюць, што тыя таксама былі ў курсе падрыхтоўкі да тэрактаў, нічога не зрабіўшы, каб іх папярэдзіць.

Хто ў выніку выйграе бой за розумы і сэрцы каталонцаў, мы даведаемся літаральна праз месяц, калі пройдзе рэферэндум. Аднак у любым выпадку плебісцыт не паставіць кропку ў гісторыі. Па-першае, колькасць прыхільнікаў незалежнасці і іх апанентаў амаль роўная — каля 40 працэнтаў. Па-другое, з улікам напалу эмоцый відавочна, што прайграўшы бок будзе асprэчваць вынікі галасавання або ўвогуле іх ігнараваць. Яшчэ ў ліпені ўрад падаў позву ў Вярхоўны суд Іспаніі з просьбай лічыць галасаванне неканстытуцыйным.

Праўда, магчымы і трэці варыянт. Як вядома, каталонскія нацыяналісты і прадстаўнікі іспанскай эліты, у тым ліку і дзеючы кароль, 18 жніўня мірна ўдзельнічалі ў барселонскім маршы ўшанавання ахвяраў трагедыі. Апісаная «ідылія» схіляе шмат каго да версіі, што і пасля 1 кастрычніка бясконцы серыял квазісупрацьстаяння Мадрыда і Барселоны працягнецца.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Фармаванне аб'яднанай сістэмы СПА Беларусі і Расіі было завершана яшчэ ў красавіку 2016 года, пра што было заяўлена начальнікам галоўнага штаба — першым намеснікам галоўнакамандуючага Паветрана-касмічнымі сіламі Расіі Паўлам Курачэнкам (...) Гэта значыць, фактычна ўжо больш за год кіраванне сістэмай СПА Беларусі знаходзілася ў апаратыўным кіраванні Масквы. І падаўшы закон у Дзярждуму, адміністрацыя Пуціна проста завяршае неабходны працэс легалізацыі (па планах, сістэма павінна была быць створана менавіта да жніўня 2017 года). У той жа час наўрад ці варта пераацэньваць жаданне «апошняга дыктатара Еўропы» ўвайсці пад высокую пуцінскую руку. Усё сваё прэзідэнцтва Лукашэнка гандлюецца з Масквой, то спекулюючы на пачуцці «братэрскіх народаў», то даходзячы да ідэалагічнай канфрантацыі. Так што зусім ужо вернападданым васалам Пуціна Лукашэнку лічыць не трэба.

**«Деловая столица» (Украіна)**

Ці можа Лукашэнка адмовіцца ад патрабавання Пуціна прывязаць транспарціроўку беларускай нафты да партоў Расіі? Ён, вядома, паспрабуе, як заўсёды, паскандаліць, але гэтым разам наўрад ці будзе вынік. Ён і беларуская эканоміка занадта залежныя ад паставак нафты з Расіі (...) А Пуцін і расійская ўлада зараз вельмі неміласэрныя ў адносінах да свайго няўстойлівага ў саюзніцкіх абавязках таварыша. (...) У Лукашэнкі было больш за 20 гадоў, каб злезці з нафтавай і газавай іголкі Расіі. Ён мог бы выпускаць выдатныя машыны і трактары, але гэтыя галіны дыхаюць на ладан, ён мог бы развіваць IT-сектар, але пакуль той неяк цудам развіваўся сам, амаль без дапамогі дзяржавы, ён мог бы адкрыць краіну Захаду і зрабіць рэформы і шмат чаго яшчэ, чаго не было зроблена за гэтыя гады. Таму, мяркуючы па ўсім, тульскія пернікі для Лукашэнкі ў Расіі скончыліся, цяпер засталася толькі пуцінская пуга.

**Delfi (Літва)**

Эксперты згаджаюцца з тым, што беспрацоўе будзе расці — на дзяржаўных прадпрыемствах каля 20% «лішніх» работнікаў, якіх не звальняюць, толькі каб пазбегнуць сацыяльнага пратэсту. Аднак у Лукашэнкі ёсць яшчэ адзін папуліцкі «фетыш» — сярэдні заробак, і ён патрабуе яго няўхільнага росту. Акрамя ліквідацыі беспрацоўя, падчас свайго брэсцкага турнэ Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў у бліжэйшыя год-два павысіць заробак яшчэ ў два разы, да 1500 рублёў, або 750 долараў у эквіваленце. Ва ўмовах працяглай рэцэсіі (рост у 1% эксперты не схільныя называць нават аднаўленнем эканомікі) павысіць зарплату можна толькі за кошт звальнення гэтых «лішніх» работнікаў. У наяўнасці супярэчнасць. Выканаць абодва гэтыя ўказанні напросту немагчыма, упэўненыя эканамісты.

**«Независимая газета» (Расія)**

Мяркуючы па ўсім, Аляксандр Лукашэнка разлічвае, што ўдзячныя яму ўкраінскія ўлады стануць свайго роду «адвакатам» беларускіх інтарэсаў у Еўропе і ЗША. Да таго ж у дзвюх краін сапраўды шмат узаемных эканамічных інтарэсаў і перспектыўных праектаў — такіх, як польска-беларуска-ўкраінскі водны шлях E40. Таксама, у любым выпадку, Украіне важна мець у асобе Мінска выразніка сваіх інтарэсаў у ЕАЭС, і ў абмен афіцыйны Кіеў, напэўна, не будзе супраць таго, каб лабіяваць беларускія інтарэсы на Захадзе.

**«Росбалт» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Хто будзе рускім Берні Сандэрсам?

Шмат для каго нечакана атрымаў працяг заклік левага антыпуцінскага дысідэнта Сяргея Удальцова, які на днях выйшаў з турмы, пасля 4 гадоў за кратамі па «балотнай справе». Адразу пасля вызвалення Удальцоў прапанаваў правесці праймерыз адзінага левага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2018-га. Ідэю, натуральна, дружна віталі, аднак яе рэалізацыя ад пачатку выклікала сумневы, паколькі левы спектр расійскага палітычнага поля вельмі мазаічны. Аднак факт ёсць факт — у незалежнай прэсе з'явіліся першыя спісы прэтэндэнтаў на пасаду адзінага кандыдата ад левых сілаў, складзеныя па выніках апытанняў чытачоў і экспертаў. Большасць іменаў у гэтых спісах наўрад ці нешта скажа беларускаму чытачу. Хіба, магчыма, ён нешта чуў пра эканамістаў Міхаіла Дзялягіна і Сяргея Глазьева або прафсаюзнага актывіста Алега Шэіна, які нарабіў шмат праблемаў «Адзінай Расіі» на выбарах мэра Астрахані. Цікава, што ў спісе таксама шмат незалежных журналістаў. А вось лідары вядучых левых партый Генадзь Зюганаў (Кампартыя) і Сяргей Міронаў (Справядлівая Расія) увогуле не цікавяць публіку. Застаецца пачакаць, ці будзе ў ініцыятывы Удальцова наступная серыя. Між тым, палітолагі згодныя, што ў Расіі — краіне антыліберальных поглядаў, — незалежны левы кандыдат здольны сапсаваць нервы прадстаўніку партыі ўлады.

**Паводле расійскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Пасля канфедэратападу — нельсанапад?

Брытанская прэса з вялікай цікавасцю назірае за дэбатамі ў ЗША наконт лёсу мемарыялаў лідарам рабаўладальніцкай Канфедэрацыі. Справа ў тым, што на Альбіёне хапае помнікаў героям захопніцкіх каланіяльных войнаў. Натуральна, частка грамадства даўно патрабавала знесці мемарыялы каланізатарам, аднак гэта тычылася толькі вельмі адыёзных фігураў. Дзякуючы падзеям у ЗША брытанскія рэвізіяністы гісторыі замахнуліся на асобу Гарацыя Нельсана — героя вайны з Напалеонам. Па сутнасці, перамога Нельсана ў славутай Трафальгарскай бітве выратавала Вялікабрытанію ад інтэрвенцыі французаў. Між тым высвятляецца, што адмірал таксама быў моцна звязаны з гандлем рабамі. Вядома, што ён някепска ставіўся да фактаў масавых гвалтаванняў брытанскімі жаўнерамі жанчын у калоніях. Адным словам, Нельсан стопрацэнтна не пасуе сучасным стандартам палітычнай карэктнасці. Адсюль заклікі — знесці калону ў гонар адмірала на цэнтральнай плошчы Лондану. Між тым, некаторыя непакояцца, што пасля Нельсана пачнуць руйнаваць помнікі манархам. Практычна ўсе англійскія каралі былі наўпрост або ўскосна датычныя да злачынстваў у каланіяльных войнах.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ФРГ. Германію чакае новы раскол?

Брытанскі аўтарытэтны тыднёвік «The Economist» лічыць, што Германіі пагражае новы ўнутраны рэгіянальны канфлікт. Гаворка не пра старую праблему рэінтэграцыі посткамуністычнай Усходняй Германіі. Высвятляецца, што ў краіне назіраецца імклівая эканамічная палярызацыя паміж паўднёвымі і паўночнымі землямі. У той час як на Поўдні растуць заробкі і падае беспрацоўе, на Поўначы, наадварот, пануе стагнацыя. Прычым, квітнеюць нават паўднёвыя рэгіёны былой ГДР, накшталт Лейпцыга. Прычыну бачаць у тым, што менш індустрыяльны Поўдзень раней пачаў адаптавацца да ўмоваў сучаснай гаспадаркі. Дапамагае Поўдню і тое, што тут (у Франкфурце-на-Майне) знаходзіцца самы вялікі аэрапорт у Еўропе. «The Economist» лічыць, што пакуль рана казаць пра палітызацыю рэгіянальнай няроўнасці. Аднак, з іншага боку, фіксуецца, што электарат сацыял-дэмакратаў замацаваўся на Поўначы, а хрысціянскім дэмакратам больш сімпатызуюць выбаршчыкі Поўдня. Самае цікавае, што новы падзел Германіі праходзіць па лініі двух дыялектаў нямецкай мовы — ніжняга і верхняга.

**Паводле брытанскай прэсы**

### МАЛДОВА. Краіна хутка спыніць існаванне?

Радыкальныя аматары ўваходжання Малдовы ў склад Румыніі агучылі дату рэалізацыі сваёй мары. Гэта сакавік 2018 года, што сімвалічна прыпадае на сотую гадавіну румынскай анексіі Бесарабіі ў 1918-м. Пакуль схема вяртання Кішынёва пад кантроль Бухарэста незразумелая. Гледзячы па ўсім, нейкім чынам будзе актуалізавана тое, што ледзь не кожны другі грамадзянін Малдовы мае румынскі пашпарт. З іншага боку, незразумела, як да такой авантуры Бухарэста паставіцца Еўрасаюз і самі малдаване, сярод якіх аматары ўніі з Румыніяй у меншасці. Адно з самых незразумелых наступстваў сцэнару ліквідацыі Малдовы — як будуць паводзіць сябе некалькі сотні тысяч украінцаў у Малдове, якія, у дадатак, жывуць кампактна. Па логіцы, Кіеў у выпадку аб'яднання Румыніі і Малдовы павінен патрабаваць правоў аўтаноміі для ўкраінцаў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

# Узбекістан: кірыліца вяртаецца

*Алег НОВІКАЎ*

**Услед за Казахстанам рэформа правапісу, падаецца, рыхтуецца ва Узбекістане. Толькі ў Ташкенце прасоўваюць не лацінку, а наадварот — збіраюцца скасаваць яе на карысць кірыліцы.**




Гісторыя ўзбекскіх рэформаў правапісу — гэта гісторыя абсалютна валюнтарысцкіх рашэнняў. Так, у 1926 годзе дзеля справы сусветнай рэвалюцыі ад жыхароў краю патрабавалі забыць арабскі правапіс і фарсіраваць вывучэнне лацінкі. Праз 15 гадоў міжнародная кан'юктура змянілася і, каб сарваць планы брытанскай разведкі ў Цэнтральнай Азіі, улады перавялі ўзбекаў на кірыліцу.

З той жа оперы і рэформа 1993 года па вяртанні на лацінку. Лічыцца, што дэтэрмінантай такога кроку быў пошук мадэлі для постсавецкага Узбекістана. Найбольш цікава для Карымава выглядаў досвед Турцыі. У гэтай парадыгме не выклікала пытанняў неабходнасць пераходу на лацінку, як у свой час зрабіў у Турцыі Атацюрк. Адсюль 2 верасня 1993 года быў падпісаны закон «Аб увядзенні ўзбекскага алфавіту, заснаванага на лацінскай графіцы». Закон прадугледжваў прыняцце захадаў па навучанні насельніцтва лацінцы і поўны пераход на лацінку да 2000 года.

Пры гэтым напрацоўкі Атацюрка імпартаваліся ва Узбекістан без усялякай увагі да лакальных асаблівасцяў і рэсурсаў краіны. Рэформа пачала буксаваць ледзь не спачатку — праз няздольнасць старой генерацыі вывучыць новыя правілы. Тады новаму правапісу вырашылі навучаць перш за ўсё моладзь. Між тым, менавіта ўзбекі, якія вучыліся на кірыліцы, складаюць асноўную аўдыторыю друкаваных СМІ. Паколькі запыт дыктуе прапанову, большасць газет засталіся верныя кірыліцы. Інтарэс да кірыліцы ў грамадстве захаваўся таксама праз масавую рабочую міграцыю ўзбекаў у Расію. Нарэшце, адназначная арыентацыя на Турцыю пастулова змянілася шматвектарным прагматызмам Ташкенту, калі турэцкі досвед ужо не ўспрымаўся як нешта сакральнае.

Не дзіўна, што на мяжы стагоддзяў запланаваны пераход на лацінку не адбыўся. З часам склаўся ўнікальны феномен суіснавання двух правапісаў. Прычым, як выйсці з цяперашняй калізіі, ніхто не ведае. Паводле разлікаў інтэрнэт-выдання Фергана.ру, для татальнага пераходу на лацінку ў цяперашніх умовах Узбекістану спатрэбіцца як мінімум 30–40 гадоў. Аднак гэта магчыма пры ўмове, калі дзяржава сапраўды будзе шмат інвеставаць у выданне адпаведнай літаратуры, што, з улікам эканамічнага стану і нестабільнасці рэжыму, малаверагодна.

> **15%**
> **кніг ва Узбекістане друкуюцца лацінкай. BBC і мясцовая рэдакцыя «Радыё Свабода» вядуць свае інтэрнэт-старонкі на кірыліцы. Вяртанне Узбекістана да кірыліцы выглядае справай вырашанай?**

Вырашаць задачу з правапісамі прыходзіцца ўжо новаму кіраўніку дзяржавы. Маркерам таго, што ў гэтай галіне чакаюцца нейкія зрухі, стаў нядаўні адкрыты ліст узбекскага літаратуразнаўцы Шухрата Рызаева на адрас прэзідэнта з просьбай вярнуцца да кірыліцы.

Мала хто верыць, што Рызаеў дазволіў сабе фактычна крытыкаваць Карымава без адпаведнай санкцыі з адміністрацыі Шаўката Мірзіёева. Кожнаму вядома, што няўдалую рэформу лацінкі ініцыяваў Іслам Карымаў, які ва ўзбекскай афіцыйнай ідэалогіі мае статус «Бацькі нацыі». Любая публічная крытыка рэформы 1993-га — падкоп пад культ асобы Карымава, што цягне на палітычны артыкул. Рызаеву, відавочна, далі гарантыі бяспекі за тое, што ён крытыкуе спадчыну Карымава.

Праўда, пра Карымава ў тэксце Рызаева, натуральна, ні слова. Асноўныя тэзісы тэксту наступныя: а) правапіс павінен быць інструментам сувязі генерацый; б) выбар графікі можа зыходзіць не з геапалітычных забабонаў, а з меркаванняў практычных выгод у яе выкарыстанні і таго, які багаж ведаў ужо створаны з яе дапамогай.

Асноўнае рэзюмэ — пераход на лацінку негатыўна ўздзейнічае на стан узбекскай мовы.

Артыкул выклікаў вялікі рэзананс. І самае цікавае, што ў лацінкі нечакана з'явіліся свае аматары. «Лягчэй удасканаліць існуючую сістэму (пасля аналізу і выяўлення прабелаў), чым марнаваць велізарныя сродкі на вяртанне, плюс псаваць свой імідж», — піша адзін з узбекскіх лаціфінафілаў.

Праўда, армія прыхільнікаў кірыліцы пакуль выглядае больш салідна. Гэта і касцяк інтэлігенцыі плюс вялікі сегмент аўдыторыі чытачоў (толькі 15 працэнтаў кніг друкуюцца лацінкай). Нарэшце, у гэтай фракцыі ёсць такі важны аргумент, як пазіцыя замежных медыя. BBC і мясцовая рэдакцыя «Радыё Свабода» вядуць свае інтэрнэт-старонкі на кірыліцы.

Адным словам, вяртанне Узбекістана да кірыліцы выглядае справай вырашанай? Не. Адказ на гэтае пытанне неадназначны з улікам таго, што, як адзначалася напачатку артыкула, рашэнні наконт усіх рэформаў правапісу ў краі мелі суб'ектыўны характар. Калі Мірзіёеву, як і нябожчыку Карымаву, надакучыць прасоўваць новы правапіс, то ў грамадстве захаваецца сегмент тых, хто спажывае лацінку. Так ці інакш, цэлыя генерацыя вучылася па падручніках з лацінскай графікай. Дарэчы, той жа Рызаеў дапускае, што лацінка павінна захавацца як другі афіцыйны варыянт правапісу.

Дэбаты наконт лёсу лацінкі ва Узбекістане ідуць на фоне адваротных працэсаў у Казахстане, дзе плануюць адмовіцца ад кірыліцы.

Вось як апісвае мясцовыя працэсы ў каментары «Новаму Часу» казахскі журналіст **Андрэй Грышын:**

«У Казахстане, наадварот, усё ідзе па нарастаючай. На тэлебачанні кожны дзень ганяюць ролікі, што лацінка — самае што ні на ёсць неабходнае для адраджэння казахскай мовы. Пакуль жа з канкрэтыкі: да канца года павінны распрацаваць літары лацінкі для казахскай мовы. І ўжо ёсць праблемы на гэтым этапе, бо ў казахскай занадта шмат спецыфічных гукаў, і ў кожнага свой погляд на тое, як менавіта іх трэба перадаваць на пісьме. У цэлым жа тэма з пераходам на лацінку ўспрымаецца ўжо як дадзенасць. Праўда, ці пойдзе ўлада да канца ў гэтай рэформе, незразумела. Магчыма, лацінка спатрэбілася толькі як чарговы адцягваючы ўвагу манеўр на шляху транзіту ўлады альбо спроба перацягнуць на свой бок нацыяналістаў, у якіх да Назарбаева назапасілася мноства прэтэнзій».

# «Галадранцы з ядзернай дубінкай»

Алег НОВІКАЎ

**Цяперашняе супрацьстаянне ЗША і КНДР нагадала гісторыкам 1960-я гады, калі Кітай нечакана абвясціў пра наяўнасць ядзернай зброі і гатоўнасць ужыць яе супраць Злучаных Штатаў.**

Усавецкія часы быў папулярны анекдот пра тое, як кітайцы прымітыўнымі сродкамі тэстуюць ядзерную бомбу. Аўтары жартаў недалёка адышлі ад рэальнасці. Вядома, што на кітайскім ядзерным палігоне вывучалі ўплыў радыяцыі на чалавека: як толькі адбыўся выбух, вырашылі адправіць у эпіцэнтр атрад вершнікаў.

Так ці інакш, аднойчы прэм'ер Дзяржсавета КНР Чжоў Эньлай нечакана выйшаў на сцэну опернага тэатра, перарваўшы імпрэзу, і ад імя Маа паведаміў, што кітайская атамная бомба паспяхова выбухнула. Пасля паведамлення дзясяткі тысяч прысутных заспявалі: «Чырванее Усход, узышло Сонца! Кітай спарадзіў Маа Цзэдуна! Ён працуе дзеля шчасця народа. Ён — зорка, якая ратуе народ».

Няма сумневаў, што апісаная сцэна ў Пекінскай оперы прымусіла тагачасных рэзідэнтаў Белага дома актыўна глытаць валідол. Паўночнакарэйскі дыктатар Кім Чэн Ын выглядае на фоне Маа калібру 1960-х гадоў херувімам. Маа, атрымаўшы бомбу, дазваляў сабе, напрыклад, такія перлы: «Я не баюся ядзернай вайны. У свеце налічваецца 2,7 мільярда чалавек; не мае значэння, што некаторыя будуць забітыя».

Пра рашучасць Пекіна сведчыў і каштарыс вырабу бомбы. Паводле падлікаў заходніх спецыялістаў, яна абышлася Кітаю ў 4,1 мільярда долараў па курсе 1956 года. Гэтай сумы ў цвёрдай валюце хапіла б, каб набыць зерне ў колькасці, дастатковай для забеспячэння лішнімі 300 калорыямі ў дзень кожнага кітайца на працягу двух гадоў, то бок можна было б выратаваць жыцці кожнага з прыкладна 38 мільёнаў чалавек, якія тады памерлі ад голаду. Атамная бомба Маа забрала ў 100 разоў больш жыццяў, чым абедзве атамныя бомбы, скінутыя амерыканцамі на Японію.

Зараз ужо вядома, што за ваяўнічай рыторыкай Маа хутчэй стаяла бравада, аднак тады пра гэта мала хто ведаў. У рапарце 1960 года амерыканскія эксперты пісалі, што «рэвалюцыйная гісторыя ў КНР перайшла межы жаху перад ядзерным ударам». У дадатак, на той час Кітай быў практычна ізаляваны, Пекінам ігнараваліся ўсе «буржуазныя» міжнародныя структуры — ад Міжнароднага алімпійскага камітэта да ААН (там месца Кітая займаў Тайвань).

Трэба таксама ўлічыць тагачасную ўнутрыпалітычную сітуацыю ў КНР, дзе Маа ў межах апаратных войнаў спусціў на апанентаў хунвейбінаў. Краіна пагрузілася ў хаос культурнай рэвалюцыі, наступствы якой цяжка было пралічыць.

> **Паўночнакарэйскі дыктатар Кім Чэн Ын выглядае на фоне Маа калібру 1960-х гадоў херувімам. Маа, атрымаўшы бомбу, дазваляў сабе, напрыклад, такія перлы: «Я не баюся ядзернай вайны. У свеце налічваецца 2,7 мільярда чалавек; не мае значэння, што некаторыя будуць забітыя»**

Не дзіўна, што заходняя прэса рэагавала на навіны з Пекіну апакаліптычнымі загалоўкамі накшталт: «У галадранцаў з'явілася ядзерная дубінка». Прадстаўнікам адміністрацыі Кенэдзі — Джонсана давялося супакойваць публіку і амерыканскіх саюзнікаў у рэгіёне. Сцвярджалася, што ядзерны арсенал Маа занадта сціплы. Аднак на самай справе амерыканцы былі вельмі занепакоеныя. Не выключалася версія, што кітайская бомба можа быць ужытая ў паўднёвым В'етнаме, дзе амерыканцы змагаліся з партызанамі Хо Шы Міна.

Як следства, Вашынгтон вырашыў дзейнічаць. Прапаноўваліся самыя неверагодныя планы — кшталту дэсанту тайваньскага спецназу, які павінен быў знішчыць атамныя цэнтры КНР. Адначасова амерыканская дыпламатыя пайшла на самыя беспрэцэдэнтныя крокі — пачала кансультацыі з Масквой, ворагам нумар адзін, наконт сумеснай вайсковай аперацыі супраць Пекіна.

Дарэчы, у Маскве таксама панікавалі. Па-першае, пакуль Хрушчоў і Маа не пасварыліся, СССР моцна дапамагаў кітайскай ядзернай праграме. У Кітаі прысутнічала да 12 тысяч спецыялістаў, якія пасля з'ехалі з краіны. Тое, што Кітай давёў да канца справу без савецкіх кансультантаў, было непрыемным сюрпрызам для Крамля.

Па-другое, лічылася, што без ядзернага фугасу Маа не рызыкнуў бы на вайсковыя правакацыі на востраве Даманскі. У адказ СССР давялося тэрмінова стварыць магутную ваенную групоўку і інфраструктуру ў Забайкаллі і на Далёкім Усходзе, каб супрацьстаяць новаму патэнцыйнаму ворагу.

Аднак у выніку амерыканцы абышліся без Масквы, вырашыўшы дзейнічаць мяккімі сродкамі. Адразу пасля навіны пра выпрабаванне кітайскай бомбы былі ўведзеныя камерцыйныя санкцыі супраць Пекіна, а таксама ўзмоцненыя захады наконт магчымай перадачы КНР атамных тэхналогій. У выніку падобная стратэгія, заснаваная на цярпенні і гарантыях саюзнікаў, прыцягнула Пекін за стол перамоваў. Пры Ніксане КНР пачаў шукаць кантакты з Вашынгтонам і паступова вярнуўся ў міжнародныя структуры. Больш таго, Маа стаў ледзь не саюзнікам ЗША ў супрацьстаянні з СССР.

Як бачым, паспяховы рэцэпт, як паводзіць сябе з неадэкватным рэжымам — уладальнікам атамнай бомбы, існуе. Аднак тут паўстае іншае пытанне: ці маюць цяперашнія кіраўнікі Белага дому якасці Кенэдзі і Джонсана? Ці здольныя яны не паддацца на шантаж Пхеньяна, каб дасягнуць перамогі за кошт дыпламатыі?

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Рэджэп Таіп Эрдаган



Кіраўнік Турцыі наважыўся адкрыта ўмяшацца ў перадвыбарчую барацьбу ў Германіі. Ён звярнуўся з заклікам да нямецкіх выбаршчыкаў турэцкага паходжання не галасаваць за шэраг канкрэтных партый. Да гэтых партый належаць хрысціянскія дэмакраты, сацыял-дэмакраты і «Зялёныя».

Свой заклік турэцкі гарант абгрунтаваў антытурэцкай пазіцыяй, якую займаюць гэтыя партыі, бо крытыкуюць аўтарытарызм Эрдагана. На сёння ў Германіі пражывае некалькі мільёнаў туркаў, і прыкладна мільён з іх валодаюць выбарчым правам. Традыцыйна туркі галасавалі за СДПГ у знак падзякі за спрыянне ім у свой час у барацьбе за правы пражывання ў Германіі. З улікам папулярнасці Эрдагана сярод нямецкіх туркаў незразумела, ці працягнецца гэтая традыцыя.

Праўда, галасы туркаў наўрад ці штосьці асабліва зменяць у канчатковым выніку. Пакуль кансерватары Ангелы Меркель упэўнена лідзіруюць, разлічваючы на 37–40 працэнтаў электарату. Тым не менш, «рэкамендацыі» турэцкага кіраўніка суайчыннікам выклікала бурную негатыўную рэакцыю ў Берліне.

Відавочна, што будучыню нямецка-турэцкіх адносін пакуль вельмі цяжка прагназаваць. Гэтак жа, як і турэцка-амерыканскіх. Эрдаган таксама заявіў, што не дапусціць фармавання ў Сірыі курдскай аўтаноміі (праект нібыта лабіруе Вашынгтон), якая можа быць прыкладам для курдаў, што жывуць у Турцыі.

### Івіца Дачыч



Міністр замежных спраў Сербіі апублікаваў сенсацыйны артыкул, у якім выказаў гатоўнасць прызнаць незалежнасць Косава, калі будзе выкананы шэраг патрабаванняў Сербіі. Гэтыя патрабаванні наступныя: перадаць пад кантроль Бялграда населеныя сербамі тэрыторыі Косава, а для астатніх сербаў у краіне стварыць шырокую аўтаномію і даць фактычную незалежнасць праваслаўным манастырам.

У Сербіі артыкул міністра выклікаў адназначна негатыўную рэакцыю, паколькі ў мясцовай масавай свядомасці Косава па-ранейшаму лічыцца гістарычна сербскай тэрыторыяй. Тэзісы Дачыча спарадзілі ажыятаж і ва Украіне. Многія палохаюцца, што план Дачыча адкрые «скрыню Пандоры» — створыць магчымасці для фіксацыі анексаваных тэрыторый і новых межаў, што забаронена Хельсінкімі пагадненнямі 1975-га. Сапраўды, у дачыненні да Украіны план Дачыча азначае, што Данбас і Крым можна выключыць са складу ўкраінскай дзяржавы за кошт узаемнай дамоўленасці палітыкаў. Адсюль версія пра тое, што рукою Дачыча кіраваў Крэмль, які спрабуе падлашчвацца да часткі сербскай эліты.

Праўда, зараз Дачычу не да Косава. Сербія моцна пасварылася з Македоніяй з-за шпіёнскага скандалу.

### Джэрымі Корбін



Лідар брытанскіх лейбарыстаў робіць асаблівую стаўку на моладзь, якая ахвотна падтрымлівае яго левадрыкальныя заклікі. Чарговым крокам Корбіна ва ўмацаванні сваіх пазіцый у маладзевым асяроддзі стаў выпуск зборніка коміксаў.

Галоўным героем сюжэтаў з'яўляецца правадыр лейбарыстаў. Яго асноўным праціўнікам выступае злая чараўніца Майдуза, знешне падобная да цяперашняга брытанскага кансерватыўнага прэм'ера Тэрэзы Мэй. Майдуза мае намер вярнуць да жыцця Маргарэт Тэтчэр, аднак яе хітры планы зрывае супергерой Корбінмэн.

Прыгоды суперлейбарыста сапраўды выклікалі фурор. Па словах піяр-тэхнолагаў лейбарыстаў, коміксы павінны ператварыць Корбіна ў культурны феномен да старту новай выбарчай кампаніі.

Калі б выбары адбываліся сёння, дык Корбін сапраўды быў бы кандыдатам нумар адзін на Даўнінг-Стрыт.

Трэба прызнаць, што лейбарысты — не першыя, хто выкарыстоўвае коміксы ў палітычных мэтах. Падчас выбараў 2008 года каманда Барака Абамы раздавала коміксы, у якіх кандыдат дэмакратаў выступаў у ролі Чалавека-павука.

# Сімвал злачынстваў сталінізму і фашызму

Ігар КУЗНЯЦОЎ

**Агульнаеўрапейскі дзень памяці ахвяр сталінізму і нацызму адзначаецца 23 жніўня. Еўрапейскі парламент абвясціў гэты дзень на знак памяці пра падпісанне «Пакта Молатава—Рыбентропа», які паспрыяў развязванню Другой сусветнай вайны. У Еўропе гэта адзіны дзень усіх ахвяраў — і нацызму, і камунізму. Гэткім чынам абодва рэжымы па сутнасці робяцца роўнымі.**






Своеасаблівым сімвалам злачынстваў гэтых рэжымаў стаў лагер Трасцянец, дзе ляжаць ахвяры і Сталіна, і Гітлера. Але калі пра гітлераўскія злачынствы ведаюць усе, дык пра злачынствы НКУС у Трасцянцы стараюцца замоўчваць. І нават зараз, калі прынята рашэнне пра мемарыялізацыю Трансянца, улады ўсімі сіламі імкнуцца пазбегнуць напаміну пра тое, што адбылося ў гэтым лагеры яшчэ да прыходу немцаў.

## Дарога смерці

У чэрвеньскія дні 1941 года часткі НКУС канваявалі па Магілёўскай шашы калоны арыштаваных з мінскіх турмаў, а таксама ахвяр «зачыстак» першых дзён вайны. Усе зняволеныя, якія знаходзіліся пад следствам за ўчыненне так званых «контррэвалюцыйных злачынстваў», былі выведзеныя з горада некалькімі калонамі па 2–4 тысячы чалавек. Адну з калон канваявалі ў бліжэйшы лес — гэта былі наваколлі вёскі Малы Трасцянец, урочышча Благаўшчына. Раней, у канцы 1930-х гадоў, па сведчаннях відавочцаў, былі адселены хутары каля таго самага ўрочышча. Частка тэрыторыі паблізу Магілёўскай шашы адышла пад ахоўны аб'ект НКУС. Адтуль па начах даносіліся стрэлы...

Што адбывалася з вязнямі? Некаторыя ўспаміны вязня мінскай унутранай турмы НКУС Цодзіка запісаў Анатоль Майсеня ў пачатку 1990-х гадоў.

«...Ішоў трэці дзень вайны — 24 чэрвеня. Немцы імкліва прасоўваліся на Мінскім напрамку, знішчаючы абаронныя лініі нашых войскаў. Пад канвоем выводзілі і адпраўлялі на машынах партыі зняволеных. У турэмным калідоры раз-пораз дрынчэлі звязкі ключоў, ляскалі замкі і гучала адна і тая ж каманда: «Выходзь шыхтавацца».

...За поўнач, гадзіны ў дзве ночы, у турме зноў пачуўся гучны тупат — нехта бег. Дзверы ў камеру Цодзіка расчыніліся насцеж: «Усе на двор шыхтавацца! Хутка!»

Зняволеныя даўно чакалі гэтай каманды, без лішніх збораў пацягнуліся адзін за адным у дзверы... Калона рушыла з месца, крытыя машыны адна за адной выпаўзлі з турэмнай брамы на начную мінскую вуліцу.

Хутка машына збавіла ход, пакацілася па схіле ўніз, а праз хвіліну застыла на месцы. Прагучала каманда, было чуваць, як ззаду саскокваюць на зямлю ахоўнікі з сабакамі — адзін, другі, трэці. Вось цэлае аддзяленне іх прабегла з таго боку, дзе сядзеў Цодзік. Загрымелі замкі, задні борт перакуліўся. «Злазьце па адным — і хутка!»

Цодзік саскочыў уніз да сваёй групы. Зняволеныя апынуліся на краі нешырокай лагчыны, парослай маладым хвойнікам і хмызняком.

Каля кожнай машыны напагатове стаяла падраздзяленне ахоўнікаў з сабакамі. Натрэніраваныя аўчаркі злосна рыкалі. Здавалася, яны былі гатовыя разарваць на шматкі гэтых бездапаможных людзей. Калі апошнія зняволеныя апынуліся на зямлі, усіх паставілі ў шэраг па двое, Цодзік апынуўся другім нумарам, стаяў у задняй лініі.

Двое ахоўнікаў прывалаклі аднекуль вязанку кавалкаў дроту. Рушыла ўслед каманда: «Рукі ўсім назад, трымаць за спінай». Ахоўнікі хадзілі па шэрагах — адзін падаваў дрот, другі схопліваў ім запясці рук і хутка закручваў канцы дроту.

...Надышла чарга Цодзіка — ад дотыку халоднага дроту да рук ён уздрыгнуў. Тры хуткія віткі вакол запясця і нядбайна закручаныя канцы дроту — вось і ўсё. Цодзік паспрабаваў паварушыць рукамі — дрот не даваў, балюча ўпіваўся ў цела. Яшчэ раз — як быццам трохі паддаўся, але няшмат. І для чаго ўсё гэта?

...Іх паставілі на ўскрайку лагчыны, усе чатыры групы зняволеных сцягнулі разам, у адзін шэраг. Спераду і па баках занялі свае пазіцыі ахоўнікі з вінтоўкамі наперавес. Афіцэры выцягнулі пісталеты. Усё рабілася моўчкі ў злавесінай цішыні ранішняга світання. Надзеяў на лепшы зыход ні ў каго са зняволеных не засталося.

...З першымі стрэламі Цодзік упаў на зямлю — не, яго не параніла, нават не зачапіла. Спрацаваў рэфлекс «самазахавання», усё адбылося неяк само: стрэл, падкасіліся ногі, паваліўся на зямлю. Страляніна працягвалася, на зямлю падалі новыя целы. Яшчэ стрэлы, яшчэ... Потым усё раптам сціхла. Толькі глухія стогны параненых, маленне аб паратунку ўрываліся ў гэтую цішыню. Цодзік пачуў каманду: «Праверыць кожнага, у жывых нікога не пакідаць!»

Пачуліся паспешлівыя крокі: яны набліжаліся, зусім ужо побач — Цодзік здрыгануўся. Ахоўнік балюча, з усяго размаху ўдарыў у бок Цодзіка — сцяўшы зубы, Цодзік змаўчаў. Побач у забіцці прастагнаў паранены — гэта яго загубіла і выратавала Цодзіка, ахоўнік адразу ж пераключыўся на няшчаснага, прагучаў адзін, потым другі стрэл ва ўпор. Адзінкавыя стрэлы чуліся то тут, то там.

Неўзабаве ўсё зноў сціхла. Не было больш чуваць ні стогнаў, ні стрэлаў. І яшчэ раз ля самай галавы Цодзіка прашамацелі ў густой траве нечыя ногі — відаць, начальнік аховы са сваімі падручнымі правяраў выкананне загаду. Хвіліны праз дзве прагучала каманда: «Па машынах!» Завялі рухавікі, «караван смерці» крануўся ў зваротны шлях.

Колькі часу ён праляжаў у забыцці — невядома. Ачуняў, калі скрозь шчыліны ў кучы мёртвых чалавечых целаў прабівалася дзённае святло. Перад яго вачыма паўстала жудасная карціна — у лагчыне былі сотні завёрнутых, перакуленых дагары, распластаных целаў. На перакошаных ад болю тварах, ссінелых вуснах, знявечаных агоніяй, у рудых плямах крыві на траве застыла смерць.

Агаломшаны ўбачаным, Цодзік кінуўся бегчы з усіх ног да лесу і потым яшчэ доўга, не разбіраючы дарогі, прабіраўся напралом праз кусты ядлоўцу, малады ельнік. Спатыкаўся, падаў, падхопліваўся і зноў бег.

На паўдарозе да шашы справа была бачная вёска — хат сто, не болей. Цодзік зайшоў у адну з іх ды спытаў у бабулі:

— А як называецца ваша вёска?

— Трасцянец называецца.

Праз гады, пасля таго як ён вярнуўся ў родную Беларусь, і пад прозвішчам Дабравольскі пасяліўся ў Віцебску, ён даведаўся пра трагедыю Трасцянца — пра клятае месца, пераўтваранае фашыстамі ў канцлагер-душагубку. Але мала хто ведаў, што трагедыя Трасцянца пачалася раней, што ў гэтым месцы перапляліся не адна, а дзве трагедыі. А хто мог ведаць? Адзіным сведкам той першай трагедыі застаўся Цодзік».

## Дакументы сведчаць

Можна прывесці яшчэ шэраг сведчанняў, якія пацвярджаюць передвайенную праўду пра Трасцянец. Былі і выпадкі вызвалення некаторых вязняў. З аповеду былога настаўніка Ю. А. Сабалеўскага вынікае, што ён быў арыштаваны ў Мінску органамі НКУС у першы дзень вайны. 24 чэрвеня 1941 года арыштаваных на турэмным двары пашыхтавалі ў калону, якая рушыла па Магілёўскай шашы. 25 чэрвеня на вялікай палянцы ў лесе калону спынілі і абвясцілі, што зараз адбудзецца суд. Ахоўнікі падзяліліся на некалькі груп, сталі выклікаць арыштаваных. Сяржант НКУС, даведаўшыся, што Сабалеўскі настаўнік, адпусціў яго. Адпусцілі і яшчэ некалькі чалавек з ліку інтэлігентаў. Астатнія падзялілі маркотную долю растраляных.

Ёсць і шэраг дакументальных пацвярджэнняў. У прыватнасці, нямецкі журналіст Паўль Коль яшчэ ў 2000 годзе дэталёва распавёў аб тэхналогіі масавага знішчэння вязняў. Ён прадэманстраваў савецкую тапаграфічную карту 1939 года, дзе тэрыторыя ўрочышча Благаўшчына была пазначаная як закрыты ахоўны аб'ект. Ёсць здагадка, што гэта было зроблена зусім не выпадкова, і дачыненне да «аб'екту» мае НКУС. Патрабуецца толькі доказная база. І яна ёсць — як вядома, на месцы канцлагера ў 1944 годзе пачала працаваць Дзяржаўная надзвычайная камісія. Першапачаткова знайшлі пахаванні не там, дзе была яма-печ, не сам канцлагер, а злева ад Магілёўскай шашы ва ўрочышчы Благаўшчына. Тады і былі апублікаваныя першыя афіцыйныя дадзеныя пра колькасць загінулых тут людзей. Паводле версіі чальцоў камісіі, за паўгода да вызвалення Беларусі фашысты выкопвалі парэшткі і спальвалі іх. Па колькасці попелу і былі зроблены высновы пра колькасць пахаваных у 34 равах.

Але ёсць і другая частка заключэння камісіі, пра якую мала хто ведае. Аказваецца, калі камісія пачала працаваць, яна выявіла пахаванні, частка з якіх знаходзілася на тэрыторыі цяперашняга сметніка. Пахаванні апынуліся перадваеннымі. Раскопкі ў гэтым месцы былі неадкладна спыненыя і вынесеныя за 300–400 метраў. У далейшым ускрывалі 34 рова-траншэі.

Пра слушнасць гэтай версіі сведчаць таксама нямала гільзаў ад зброі савецкай даваеннай вытворчасці, выяўленых у 1994–1995 гадах супрацоўнікамі музея Вялікай Айчыннай вайны ў Благаўшчыне пры здымках дакументальнага фільма «Трасцянец».

Гэта пацвердзіла і былы вучоны сакратар музея ВАВ А. Валькевіч у 1994 годзе: «Як стала вядома, у раёне Трасцянца загінула больш за 500 000 чалавек. Але агаломшваць гэтыя звесткі забаранілі чальцы ДНК (Дзяржаўнай надзвычайнай камісіі) з Масквы. Чаму? Таму што ў гэта цяжка было паверыць... Можна было запрасіць міжнародных экспертаў. Парэшткі паўмільёна загінулых — не іголка ў сене. І вось тут нараджаецца яшчэ адна, небеспадстаўная думка. А ці не ўваходзіць у лік гэтай лічбы і ахвяры НКУС 30-х гадоў? Успаміналі ж старыя жыхары вёсак Вялікі Трасцянец і Малы Трасцянец стральбу ў лесе па начах у даваенны час».

У 1957 годзе на месцы перадваенных расстрэлаў з санкцыі ўлады быў зроблены гарадскі сметнік, каб такім чынам схаваць сляды злачынстваў. Інакш проста ніяк нельга растлумачыць з'яўленне гэтага «маскіровачнага аб'екта». І гэта было зроблена, як ні дзіўна, пасля прыняцця ў 1950-м, а затым і ў 1956 годзе рашэнняў пра ўшанаванне памяці ахвяр фашызму.

Сёння практычна немагчыма вызначыць, колькі ахвяр сталінскага тэрору было пахавана на месцы цяперашняга сметніка і ва ўрочышчы Благаўшчына.

Да вайны на месцы, пазначаным на мапе як ахоўная зона, не знаходзіўся ні ваенны палігон, ні іншы ваенны аб'ект. Ён з'явіўся там толькі пасля вайны. Ніводнага дакумента, які пацвярджае факт расстрэлаў у тых жа Курапатах ці ў іншых месцах, як мы ведаем, не ўдаецца знайсці даследчыкам у беларускіх архівах, а архіў КДБ наглуха закрыты да гэтага часу. Не будзе выяўлена дакументаў і па Трасцянцы, таму што яны, гледзячы па ўсім, даўно знішчаныя, каб схаваць сляды злачынства.

Сёння ўжо прыйшоў час назваць установленых не КДБ, а даследчыкамі імёны катаў, якія стралялі ў патыліцы нашых суграмадзян, у тым ліку і ў раёне Трасцянца. Гэта, у прыватнасці, супрацоўнікі камендатуры НКУС БССР: Нікіцін, Ермакоў, Коба, Якаўлеў, Астрэйка, Дуброўскі, Бачкоў, Бацян, Абрамчык, Мігно. Гэта далёка не поўны спіс карнікаў, якія знішчылі ні ў чым не вінаватых людзей...

# Ці магчыма ўратаваць найстарэйшы некропаль?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Могілкі — гэта своеасаблівы партрэт цывілізацыі. Гэта не толькі аб'ект, дзе мы пакідаем памерлых, але і месца, важнае для жывых. Беларусь могілкамі перапоўненая: вайсковымі, татарскімі, яўрэйскімі, вясковымі, гарадскімі...**



Усе яны пра нешта сведчаць. Яўрэйскія ці татарскія закінутыя, бо гэтых народаў больш няма ў колішняй колькасці. Курганы разрабаваныя. Вясковыя могілкі паміраюць, як памірае вёска. Гарадскія могілкі абласных цэнтраў нагадваюць мегаполісы з безаблічнымі панельнымі дамамі.

«Некропаль» у перакладзе з грэчаскай — «горад мёртвых». Праз такую прызму цікава зірнуць на старыя некропалі, якія месцяцца ў гістарычных цэнтрах Беларусі ды вельмі іх нагадваюць. Магілы — гэта дамы, прычым вельмі розныя: ад бетонных слупкоў да багатых комплексаў са скульптурнымі кампазіцыямі. Сцежкі паміж магіламі — вуліцы, галоўная алея — праспект, капліца — сабор.

Калі так глядзець на могілкі, можна зразумець, што некропалі — гэта люстэркавыя адбіткі нашага жыцця ў розныя часы. Якія могілкі — такое і жыццё. У гэтым сэнсе цікавыя найстарэйшыя беларускія гарадскія некропалі, хоць горад для беларусаў, учарашняй вясковай нацыі, паняцце ўмоўнае: мы толькі пачынаем яго засвойваць. Гродзенскі некропаль — ці не самы паказальны.

## Больш за 200 гадоў гісторыі

Гродзенскі некропаль, які таксама згадваюць як Фарныя альбо Старыя могілкі, аб'ядноўвае вялікі комплекс праваслаўных і каталіцкіх могілак. Сёння гэта найстарэйшыя камунальныя могілкі, якія захаваліся ў Беларусі. Чаму камунальныя? Раней могілкі засноўваліся пры цэрквах альбо касцёлах. Але напрыканцы XVIII стагоддзя Сейм Рэчы Паспалітай стварыў інстытуцыі, якія займаліся арганізацыяй агульнагарадскіх — камунальных — пахаванняў.

Менавіта тады, у 1780–1790-х гадах паўсталі ўсе самыя знакамітыя могілкі на тэрыторыі дзяржавы: Павонзкаўскія ў Варшаве, Ракавескія ў Кракаве, а таксама тры найважнейшыя некропалі ва ўсходнім кірунку: Росы ў Вільні, Лычакаўскія ў Львове ды Фарныя ў Гродне. Цікава, што фармальна гродзенскія могілкі яшчэ называліся Фарнымі, як бы парафіяльнымі, але фактычна ўся хрысціян з горада незалежна ад парафіі ўжо хавалі тут. Раней жа могілкі атачалі кожны гродзенскі касцёл альбо царкву: Фару Вітаўта, Каложу, Бернардыны і інш.

Так у Гродне з'явіўся найстарэйшы і найбольш цікавы ў мастацкім плане некропаль у Беларусі, які сёння налічвае 215 гадоў. Праваслаўныя могілкі побач узніклі трошку пазней, на пачатку XIX стагоддзя. Магчыма, пачатак ім дало пахаванне генерала Ланскога, удзельніка вайны 1812 года, які памёр ад ранаў у 1814-м. Зараз і каталіцкія, і праваслаўныя могілкі ў Гродне на вуліцы Антонава ўтвараюць адзіны масіў.

## Багацце стыляў і формаў

Могілкі шыкоўныя, калі паглядзець хаця б на асобаў, тут пахаваных. Узяць, напрыклад, магілу генерала Ланскога, пісьменніцы Элізы Ажэшкі, паэта Міхася Васілька, маці Багдановіча Марыі Мякота... Цікава, што Гродна ніколі не быў багатым горадам, таму мы і не можам убачыць на вуліцах старых будынкаў з маскаронамі альбо атлантамі, якія трымаюць гаўбцы, як у Вільні альбо Львове. Падобнай багатай аздобы ў нас не было. Аднак усё гэта можна ўбачыць... на могілках!

Фарныя могілкі маюць неймавернае багацце стыляў і тэхнікаў выканання. Гэта надмагіллі, зробленыя з пясчаніку, мармуру, вапняку, граніту, адлітыя з чыгуну, каваныя з жалеза, выкананыя ў тэхніцы ліцця, коўкі, разьбы. Гэта помнікі, зробленыя вельмі рознымі майстрамі ў разнастайных месцах, напрыклад, у Кіеве, Калузе, Вільні, Беластоку.

Ёсць некалькі гродзенскіх майстроў, працы якіх зрабілі б гонар любому некропалю Еўропы. Напрыклад, Баляслаў Шышкевіч, які геніяльна апрацоўваў пясчанік, ствараючы фантастычныя формы і скульптуры. У 1860–1870-х па граніту працаваў Юзэф Забароўскі. З гэтага пункту гледжання можна казаць, што нашы могілкі саступаюць Лычакаўскім у Львове, але не саступаюць (а ў мастацкім плане, магчыма, і пераўзыходзяць) Росы ў Вільні.

## Мусілі знікнуць, але...

Безумоўна, лёс гэтых могілак — адлюстраванне сітуацыі з гісторыка-культурнай спадчынай у Гродне агулам. У прынцыпе, могілкі пачалі раскрадаць даўно: ёсць сведчанні міжваеннага часу, што адтуль выносілі фрагменты на метал.

За савецкім часам з'явіўся свой каларыт: пакуль жывыя чыноўнікі і партыйцы засялялі пустуючыя камяніцы горада, мёртвыя — перабіраліся ў праваслаўны сегмент могілак на Антонава, ствараючы свой «элітны раён». Гэта былі ўжо не сціплыя стаўпы з зорачкамі, а маштабныя надмагіллі з сімваламі прафесіяў: самалётам для лётчыка, кадуцэем для медыка.

Аднак у 1973 годзе з'явілася рашэнне аб закрыцці некропалю. Гэта значыла, што хаваць там было ўжо забаронена, а праз 25 гадоў, згодна з савецкай практыкай, могілкі аўтаматычна траплялі пад знос. На шчасце, 25-гадовы тэрмін прыпадаў на 1998 год, калі законы СССР ужо не працавалі.

На мяжы 1980–1990-х могілкамі пачалі цікавіцца гісторыкі. Юры Гардзееў, Валер Чарапіца і іншыя напісалі кнігі на тэму. Любоў Зорына яшчэ з канца 1980-х даследавала коўку і ліццё надмагілляў. Пра могілкі пачалі пісаць у прэсе ўжо не як пра «шэрую зону» ў цэнтры горада, але як пра аб'ект спадчыны.

## Крыжы здаюць на металалом

Яшчэ напрыканцы 1980-х могілкі ўключылі ў спіс спадчыны мясцовага значэння, але ў агульнанацыянальны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, які фармаваўся ў 2000-х гадах, уключыць... забыліся. То бок, на паперы некропаль заставаўся ўсяго толькі нефункцыянуючымі могілкамі, на якіх нельга хаваць, толькі падхоўваць да старых магілаў.

Апошняя ініцыятыва па ўключэнні могілак у вышэйназваны спіс скончылася фіяска ў 2015–2016 гадах. Пры гэтым, у Беларусі ёсць «маладзейшыя» могілкі, якія ў спіс усё ж такі трапілі, напрыклад, Кальварыйскія ў Мінску альбо Трышынскія ў Брэсце. Нефармальная матывацыя тады гучала прыкладна так: могілкі ў занадта дрэнным стане, каб дадаваць іх у спіс агулам, таму варта ўключаць асобныя пахаванні.

Пры гэтым, за апошнія гады могілкі пачалі руйнавацца ўсё больш імкліва. Нават калі параўнаць стан захаванасці сярэдзіны 2000-х і сучасны, бачныя яскравыя негатыўныя змены. Асабліва гэта тычыцца металічных надмагілляў з чыгуну і жалеза. Іх элементарна крадуць на металалом, ніякіх камераў назірання на могілках няма, ніхто не маніторыць у гэтым святле пункты прыёму металу, ніводная крымінальная справа на гэтай падставе не была заведзеная.

А за што заводзіць? Чыя гэта маёмасць?.. Родныя памерлых 150 гадоў таму гродзенцаў наўрад ці куды звернуцца, а да дзяржавы няма чаго апеляваць — гэта ж не аб'ект спадчыны, прычыненне шкоды якому павінна карацца. Так і атрымліваецца: шэдэўры стогадовай даўніны, паводле закону — усяго толькі зачыненыя могілкі, на якіх больш не хаваюць...

## Турыстычны кландайк

Могілкі — гэта месца, напоўненае сэнсамі: гістарычнымі, хрысціянскімі, чалавечымі. Адначасна, гэта месца, дзе можна ладзіць лекцыі па гісторыі сусветнага мастацтва, тлумачачы, што лаўровы вянок сімвалізуе славу, мірт — жалобу, а матылёк — замагільны свет. Тут жа можна распавядаць пра тэхналогіі будаўніцтва стагоддзі таму альбо даследаваць гісторыю фотаздымка: найстарэйшы гродзенскі фотаздымак на могілках датуецца 1870-мі гадамі — ён наўпрост схаваны ў помніку пад шклом.

Могілкі — адзін з самых каштоўных аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Гродна. Ніводная польская экскурсія іх не мінае, значная частка літоўскіх і расійскіх — завітвае таксама. Кожны месяц праз іх праходзяць сотні людзей. Дык чаму б не акумуляваць некропаль не толькі як частку нацыянальнай памяці, але і як турыстычны капітал?

## Кожны год мы нешта губляем...

Што можна зрабіць? Па-першае, каталагізаваць, дасканала вывучыць. Можна нават правесці паралель: сёння ёсць кніжкі, якія апісваюць гістарычны Гродна, горад жывых, літаральна дом за домам, з пазнакай года будаўніцтва, архітэктара, жыхароў, архітэктурнага стылю і іншага. Тое ж можна зрабіць і з горадам мёртвых. Бо кожны год на Фарным некропалі мы нешта страчваем, нават не ведаючы што, і гэта назаўжды сыходзіць у пясок.

Па-другое, распачаць паступовы працэс аднаўлення могілак. Гэта можна было б зрабіць і праз транспамежнае супрацоўніцтва (што зараз робяць львавяне разам з палякамі), і праз абласны бюджэт, і праз ахвяраванні. Варта адзначыць, што камунальныя службы хоць нешта, але робяць: там сёння няма гораў бутэлек, шпрыцаў ды іншага смецця. Пры гэтым, за часамі «губернатарства» Уладзіміра Саўчанкі была знішчаная старая брукоўка, выпілаваныя 100-гадовыя дрэвы...

Так, сухія галіны зараз не падаюць і нічога не ламаюць, але ад каранёў расце падростак, які выварочвае помнікі, знішчаючы іх цалкам. На тых жа віленскіх Росах надалей растуць велічэзныя дрэвы, якія ствараюць дах, пад якім, у цяню, ніякі падростак не расце. У нас жа за год ад старога карэння вырастае малады лясок клёнаў. Калі семя клёна трапляе ў шчылінку пясчанікавага помніка — яно яго разрывае. Але нават гэта ўжо не так істотна.

## Адзіны шлях — стварэнне запаведніка

Адзіны пазітыўны шлях для могілак — стварэнне запаведніка і асобнай адміністратыўнай адзінкі, якая б адказвала за іх стан. Так зроблена ў Львове, дзе працуе мемарыяльны запаведнік «Личаківський цвинтар». Такім чынам, патрэбны дырэктар, два навуковыя супрацоўнікі, два рэстаўратары, два ахоўнікі — агулам 6–7 чалавек, не болей.

Першае, што мелі б зрабіць навуковыя супрацоўнікі, — гэта каталагізацыя цягам двух гадоў. Усе кавалкі магілаў і крыжоў варта пранумараваць і вывезці, каб пазней скласці, ведаючы, што да якога пахавання адносіцца. Інакш кавалкі 120-гадовых крыжоў, раскіданыя тут і там, надалей будуць выносіць бамжы ды здаваць на метал...

Пасля — юрыдычнае вызначэнне статусу. Варта замацаваць правілы: касцёл і царква маюць паўнамоцтвы толькі на тэрыторыі сваіх капліцаў, любыя падзахаванні адбываюцца толькі з дазволу дырэктара запаведніка, з ім жа ўзгадняецца знешні выгляд. Наступны этап — прыцягненне сродкаў на рэстаўрацыю: аднавіць 4–5 магілаў за год цалкам рэальна.

Усё гэта дало б шанец праз 20–25 гадоў мець цалкам прыстойны найстарэйшы ў Беларусі некропаль нацыянальнага значэння, які б не саступаў ані Вільні, ані Львову.







# Вуліца Brasil вярнулася ў Мінск!

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У Мінску праходзіць чацвёрты фестываль стрыт-арту VULICA BRAZIL.**

Мастакі ўжо працуюць. Рамон Марцінс, аўтар велічэзнага муралу з зубром, аленем і пеўнем, будзе завяршаць леташнюю выяву, хаця яна, па словах Рамона, не мае канца: можна ж завярнуць за рог будынка, а потым расфарбаваць іншы бок.

«Мной рухала ахвота дадаць гораду колеру, — кажа мастак. — А жывёл вырашыў маляваць таму, што і сам атаясамліваюся з жывёлай. Шчасце ў лесе — так кажа старажытнаіндыйская мудрасць. Але жывёлы не павінны быць выключаны і з нашай гарадской штодзённасці, таму я іх малюю».

Рамон Марцінс адзначыў нязмушанасць атмасферы на фестывалі і тое, што менавіта ў Мінску ён атрымаў першы ў сваім жыцці досвед калектыўнай працы, зразумеў, што мастак не мусіць замыкацца ў сабе, каб нешта стварыць.

Акрамя вуліцы Кастрычніцкай муралы з'явяцца на культурным цэнтры «Корпус» па Машэрава і на будынку па Кальварыйскай, 18. Мастак Zéh Palito, што будзе маляваць на Кальварыйскай, выявіць на мурале беларускую і бразільскую флору і фаўну: «Гэта будзе праца пра адносіны чалавека з прыродай. Я звычайна малюю на цэментных гарадскіх мурах, але імкнуся прынесці ў свае муралы нешта з прыроды».



Амбасадар Бразіліі Паўла Антонія Перэйра Пінта



Мастакі Dedablio, Рамон Марцінс і Zéh Palito



**Карнавал стане своеасаблівым даследаваннем таго, як можа мяняцца вуліца Кастрычніцкая на працягу сутак**

Мастак Dedablio для ўпрыгожвання «Корпуса» абраў спалучэнне сімвалаў бразільскай і мясцовай культуры.

Калі па экстравагантным выглядзе Рамона Марцінса і Zéh Palito можна адразу зразумець, што яны стрыт-мастакі, то Dedablio выглядаў рафінаваным інтэлігентам: картуз і белы каўнерык, чаравікі… Творца распавёў, што апранаецца так свядома, каб разбурыць стэрэатыпы, у тым ліку і пра вулічных мастакоў. «Для мяне быць стрыт-мастаком — гэта кшталту дыпламатыі. Я працую не толькі з мураламі, маю работы звычайнага памеру. Але імкнуся вынесці іх з дому і майстэрні на вуліцу, аддаць у публічную прастору, каб адбылося ўзаемадзеянне з гледачом і інтэграцыя», — кажа Dedablio.

Падчас сёлетняга фестывалю нашу краіну наведае 8 мастакоў з Бразіліі. Будуць таксама беларускія праекты. Марат RGB штогод прыганяе на Кастрычніцкую «арт-грузавік», які сёлета будзе ўпрыгожаны і звонку, і знутры. На машыну, а таксама з яе можна праектаваць відэа. Магчыма, Марат здыме ролік адмыслова для фестывалю. Галерэя ў грузавіку сёлета будзе мець назву «Знайдзі сабе нармальную работу». Па словах мастака, такую фразу рызыкуе пачуць ад сваіх блізкіх кожны творца, які быццам бы «займаецца невядома чым»: «Дык вось сёлетні праект стане адказам на гэта. Прыйдзі ў галерэю і знайдзі сабе нармальную работу! У сэнсе, карціну». Праект выходзіць на міжнародны ўзровень: пасля фестывалю ў Мінску арт-грузавік накіруецца ў Вільню.

Архітэктары Ілля Катлярскі і Наста Лемяшонак з валанцёрамі будуюць «Ідэальны хмарачос» на трамвайным кальцы ў канцы Кастрычніцкай. Гэта будзе шматфункцыянальны экалагічны павільён з галерэяй мастакоў VULICA BRAZIL, раслінамі і месцамі для адпачынку. Скульптарка Паліна Пірагова прадставіла праект творчага дуэта «Рэха», які ўжо тыдзень як робіць інсталяцыю з лазы. Вышыня плануецца каля 9 метраў, тэматыка — завадскія трубы.

Фестываль падтрымлівае бразільская амбасада. На сустрэчы прысутнічаў амбасадар Федэратыўнай Рэспублікі Бразілія ў Беларусі Паўла Антонія Перэйра Пінта і супрацоўнік амбасады Даніла Коста. Адным са спонсараў фестывалю выступае кампанія «Лідскае піва». Арганізатары адзначылі, што ніводны са спонсараў не імкнецца камерцыялізаваць VULICA BRAZIL і не ўмешваецца ў творчы працэс.

Фестываль завяршыцца 2–3 верасня карнавалам, які будзе доўжыцца роўна суткі, з 12.00 да 12.00. Як патлумачыў адзін з арганізатараў Аляксандр Карней, такая канцэпцыя была абраная для прыцягнення розных катэгорый наведвальнікаў: сем'яў з дзецьмі, аматараў альтэрнатыўнай музыкі, начных тусовак.

Плануюцца 4 сцэны, вяртанне на Кастрычніцкую трамваю падчас карнавалу, шэсце бубначоў, што граюць у стылі батукада (бразільскае самба). Склад выступоўцаў пакуль не агучваецца. Магчыма, на беразе Свіслачы нават зробяць пляж. Карнавал стане своеасаблівым даследаваннем таго, як можа мяняцца вуліца Кастрычніцкая на працягу сутак.

**Фота аўтаркі**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №800

Падпісана да друку 25.08.2017. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.